# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

8 красавіка 1994 г. № 14 (3736) Кошт 150 руб.


## ЦІ ТОЛЬКІ ДЭМАГРАФІЧНАЯ «ЯМА»?

**«Дадзеныя сведчаць пра тое, што кожная «асобна ўзятая» сучасная жыхарка Беларусі нараджае за сваё жыццё прыкладна ў два разы менш дзяцей, чым яе бабуля».**

5, 12

## ЛЁС НАРОДА — ЛЁС ЧАЛАВЕКА

***Вінцук КАВАЛЕНКА: «Анталогія беларускай паэзіі» мае поўнае права заняць пачэснае месца на паліцах вучоных, даследчыкаў і аматараў роднай літаратуры і гісторыі. Перад намі — шлях айчыннай паэзіі ва ўсёй яго складанасці і супярэчлівасці».***

7

## УТАЙМАВАННЕ БАНАЛЬНАСЦІ



**«Ідылія» В. Дуніна-Марцінкевіча на сцэне нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы.**

10—11



***Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі, створаны і выпеставаны маэстра Міхалам Фінбергам, ведае ўся наша краіна і многія-многія слухачы ў суседніх ды далёкіх дзяржавах. Імя дырыжора Фінберга, цудоўнага музыканта-арганізатара, у самым добрым сэнсе гаспадара сваёй справы, энтузіяста, працаўніка гаворыць само за сябе. Днямі да гэтага імя дадалося высокае званне народнага артыста Беларусі. Прымаючы віншаванні, маэстра Фінберг жартам «паскардзіўся» на нескончаную плынь спраў: вось правялі I Міжнародны джазавы фестываль; запісалі з аркестрам і салістамі праграмы песень на вершы Купалы, Багдановіча, Куляшова, Гілевіча; рыхтуецца праграма на вершы беларускіх паэтаў, што называецца, ад «А» да «Я» — ад Аколавай да Янішчыц. Гэта больш як паўсотня твораў, якія прагучаць падчас ужо другога фэсту ў Маладзечне... Словам, запрасіў Міхал Якаўлевіч, заходзьце: зноў ёсць пра што пагаманіць. А потым светла ўсміхнуўся і дадаў: «У тым, што гэтак высока ацэнена мая праца, ёсць, пэўна ж, і ваша, «ЛіМа», заслуга...»***

**С. Б.**

*Фота А. МАЦЮША*

# ЗГОДА ДЗЕЛЯ ДАБРА

## ДА ГРАМАДЗЯН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

З прыняццем Канстытуцыі незалежнай Рэспублікі Беларусь, дзе засведчана пераемнасць шматвяковай гісторыі развіцця беларускай дзяржаўнасці і абвешчана адзінай дзяржаўнай беларуская мова, становіцца відавочным, што нацыянальна-дзяржаўнае адраджэнне мае падставы стаць незваротным.

Эканамічны, сацыяльна-палітычны і грамадска-культурны крызіс, які перажывае Беларусь, істотна перашкаджае поступу рэформ у моўна-культурным жыцці краіны. Менавіта адсутнасць сапраўды незалежнай нацыянальнай дзяржавы на працягу мінулых стагоддзяў, заняпад беларускай культуры і мовы прывёў да мяжы разбурэння грамадзянскую супольнасць на Бацькаўшчыне і стаў адной з галоўных прычын гэтага крызісу.

Самаахвярныя высілкі грамадскасці, і ў значнай ступені нацыянальна-свядомай інтэлігенцыі, скіраваныя на развіццё і ўдасканаленне шматвяковых традыцый будаўніцтва беларускага нацыянальна-дзяржаўнага дома, дасягнулі значнага поспеху. Пачатковая школа, сістэма дашкольнага і пазашкольнага выхавання ўпершыню на працягу жыцця апошніх пакаленняў набываюць нацыянальную адметнасць. Колькасны склад гэтых беларускамоўных устаноў пачынае адпавядаць прапорцыі этнічнабеларускага насельніцтва краіны. Няўхільна расце колькасць дзяржаўных устаноў і грамадскіх арганізацый Беларусі, якія ставяць за мэту і вырашаюць задачы нацыянальнага адраджэння ў галіне культуры. Значна ўзраслі тыражы, палепшылася структура і адраснасць беларускага перыядычнага друкаванага слова, упершыню ў гісторыі пасляваеннай Беларусі ствараецца творча-вытворчая база для выпуску нацыянальных падручнікаў і дапаможнікаў, слоўнікаў і даведачнай літаратуры для навучальных устаноў усіх тыпаў. Адраджаюцца нацыянальныя грамадазнаўчыя навукі. Больш і больш пачынаюць шанавацца нацыянальныя святыні, гістарычная сімволіка, аднаўляецца гістарычная памяць народа Беларусі.

У той жа час гісторыя вучыць, што нацыянальнае адраджэнне Беларусі на працягу апошніх стагоддзяў, паспяхова пачынаючыся і набываючы значны грамадскі рэзананс, неаднойчы захлыналася і перапынялася цемрашальскімі сіламі, насіллем і крывёй. Грамадзянам Беларусі ўсіх нацыянальнасцей, веравызнанняў і палітычных перакананняў неабходна памятаць, што дабрабыт Беларусі — гэта дабрабыт усіх яе сыноў і дачок, адраджэнне беларускай мовы і развіццё беларускай нацыянальнай культуры — гэта перадумова вольнага, гарманічнага развіцця моў і культур нацыянальных меншасцей краіны, што ўмацаванне незалежнай Беларускай дзяржавы — гэта гарантыя выхаду Бацькаўшчыны з глыбокага крызісу, гарантыя сфармавання грамадзянскай супольнасці Беларусі, гарантыя згоды і міру ў краіне. Іншага шляху Беларусі, як і ўсім краінам цывілізаванага свету, не дадзена. Іншы шлях вядзе ў грамадска-палітычны і сацыяльны тупік, да грамадзянскай нестабільнасці і нават горшага, чаго нельга пажадаць ніводнаму з народаў.

Напярэдадні ўсенародных выбараў першага Прэзідэнта незалежнай Беларусі, выбараў новага складу Вярхоўнага Савета і органаў мясцовай улады няхай кожны грамадзянін Беларусі глыбока разважыць, у якой краіне ён хацеў бы жыць. Трэба памятаць, што толькі тыя кандыдаты, якія на справе падтрымліваюць ідэі развіцця незалежнай Беларусі, ідэі нацыянальна-культурнага адраджэння, якія прызнаюць неад'емнае права народа Беларусі мець у сваім дадзеным Богам дзяржаўным доме на куце беларускую мову ў якасці дзяржаўнай, якія не ганьбяць нацыянальную сімволіку і гістарычныя каштоўнасці слаўнай мінуўшчыны Бацькаўшчыны, могуць выражаць сапраўдную гістарычную волю народа Беларусі. Толькі такія людзі могуць сцвердзіць гістарычную адметнасць культурнага шляху Бацькаўшчыны, у якой заўсёды вольна развіваліся б і нацыянальныя меншасці краіны.

Заклікаем грамадзян Беларусі праявіць мудрасць і грамадзянскую сталасць, здаровы прагматызм, гатоўнасць да грамадзянскага прымірэння і нацыянальнай згоды дзеля дабра нашай адзінай Бацькаўшчыны і прыслухацца да слоў гэтага звароту.

**Рэспубліканская Рада таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

*11 сакавіка 1994 года, г. Менск*

# ЛІМ КОЛА ДЗЁН

**Раней афіцыйнай рэлігіяй Савецкага Саюза /і адпаведна Беларускай ССР/ быў камунізм, адна з характэрных праяў якога — ваяўнічы атэізм. Суверэнная Беларусь надала статус дзяржаўных хрысціянскім святам. 3—4 красавіка мы адсвяткавалі каталіцкі Вялікдзень, 1—2 траўня адзначым праваслаўны. Як і мае быць у цывілізаванай краіне, кожнаму сваё свята. Ды і атэісты не ў крыўдзе.**

## ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

«Народная газета» за 2—4 красавіка надрукавала падборку матэрыялаў пад агульнай назвай «Объединение денежных систем: будет — не будет?» У падборку ўвайшлі выступленні на сесіі Вярхоўнага Савета народнага дэпутата У. Грыбанава, старшыні Камісіі па прамысловасці і паслугах насельніцтву А. Кулічкова, віцэ-прэм'ера У. Заламая, а таксама інтэрв'ю, якое У. Грыбанаў даў газеце напярэдадні. Складваецца ўражанне, што прыхільнікі «аб'яднання» грашовых сістэм свядома ігнаруюць вельмі сур'ёзныя аргументы сваіх апанентаў. Нібыта не чуюць... Ім — пра адно, а яны ў адказ — другое. Ім пра тое, што Беларусь не праводзіць рэформы /а значыць, ніякія грашовыя ін'екцыі, хоць рублёвыя, хоць доларавыя, не маюць сэнсу/, а яны — пра нейкую стабільнасць. Цікава, дарэчы, што ў 1993 годзе Расея прадавала Беларусі нафту па 128 долараў за тону пры сусветнай цане 95 долараў. Дзе ж наконт «таннай расейскай нафты». У той жа час транзіт нафты праз Беларусь для Расеі зусім бясплатны.

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

Генеральны Сакратар ААН Бутрас Галі наведаў Беларусь. У Мінску ён меў перамовы з кіраўніцтвам краіны, у часе якіх гаворка ішла аб магчымай дапамозе Беларусі з боку міжнароднай супольнасці ў справе пераадолення наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Абмяркоўваўся ўдзел Беларусі ў праграмах ААН. Спадар Галі не выключае магчымасць удзелу вайсковых кантынгентаў нашай краіны ў міратворчых акцыях пад сцягам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.



*Фота БЕЛІНФАРМ*

## «ОТКРОВЕНИЕ» ТЫДНЯ

У артыкуле А. Рогалева, апублікаваным у газеце «Мы и время» гаворыцца: "КПСС унаследовала свою структуру от структуры тысячелетней православной церкви: поместный собор — съезд, архиерейский собор — ЦК, Синод — политбюро, патриарх — генеральный секретарь». З гэтага міжволі можна зрабіць выснову, што расейскае праваслаўе і расейскі бальшавізм маюць шмат агульнага. Цікава, што думае наконт гэтага мітрапаліт /па Рогалеву — сакратар абкома/ Філарэт?

## НАСТАЛЬГІЯ ТЫДНЯ

У час візіту ў Маскву прэзідэнт Казахстана Н. Назарбаеў выказаўся за трансфармацыю СНД у Еўразійскі саюз, дзе каардынуючым органам будуць нададзены і заканадаўчыя функцыі. Гэтую ідэю далей развіў спікер расейскага парламента У. Шумейка. У Еўразійскім саюзе будзе адзіная армія /Савецкая?/, адзіны парламент /Вярхоўны Савет СССР?/, адзіная валюта /рубель?/, адзінае грамадзянства і адзіны «государственный язык». Чаго не будзе ў гэтым Саюзе? Хочацца верыць, што не будзе там Беларусі...

## ПРЫЗНАЧЭННІ ТЫДНЯ

А. Бутэвіч — міністр культуры і друку Беларусі. А крыху раней на пасаду намесніка міністра прызначаны Г. Бураўкін. Старшынёй Камісіі Вярхоўнага Савета па галоснасці, сродках масавай інфармацыі і правах чалавека абраны С. Давідовіч.

## ПРАГНОЗ ТЫДНЯ

Першы намеснік міністра фінансаў Расеі У. Пятроў прагназуе інфляцыю 7—8 % у месяц, а курс долара ў адносінах да расейскага рубля праз пару месяцаў дасягне 3 тысяч рублёў.

## ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

У два з паловай раза павышаюцца цэны на чыгуначныя пасажырскія білеты. Цяпер паездка з Мінска ў Берасце будзе каштаваць 24 тысячы рублёў, у Маскву — 40 тысяч.

## ТРАГЕДЫЯ ТЫДНЯ

2 красавіка ў Віцебску дваццаціпяцігадовы вадзіцель аўтамашыны BMW-320 у нецвярозым стане на вялікай хуткасці выскачыў на тратуар. Загінулі шэсць пешаходаў: жанчына, маладыя бацька і маці з маленькай дачкою, маці з сынам. У бальніцу з траўмамі дастаўлена дзяўчына.

## ЗАКАЗ ТЫДНЯ

Як паведамляе друк, у Мінскі інстытут «Белпраект» паступіў заказ з Вярхоўнага Савета спраектаваць жалезную агароджу вакол будынка ВС. Архітэктары мяркуюць, што гэтага рабіць не варта, бо агароджа не ўпісваецца ў існуючае архітэктурнае асяроддзе. Але для чыноўнікаў ВС эстэтычны крытэрый — не аргумент. Так што агароджа хутчэй за ўсё паўстане.

## ПІКЕТ ТЫДНЯ

6 красавіка Беларуская Хрысціянска-дэмакратычная злучнасць выставіла пікет каля пасольства Расеі ў Мінску, пратэстуючы супраць эканамічнага і палітычнага шантажу, які Расея ўжывае супраць нашай краіны.

---

*З нагоды*

# ПРЭЗІДЭНЦКАЯ СТОМЕТРОЎКА

Ёсць на свеце шчаслівыя краіны, дзе кожны займаецца сваёй справай, дзе культура грунтуецца на гістарычных традыцыях, эканоміка — на здаровым сэнсе, палітыка — на доўгатэрміновых інтарэсах нацыі. У такой краіне грамадзянін, можа, і не адразу адкажа на пытанне: «А хто ў вас прэзідэнт?» А мо і зусім тае ў адказ: «А навошта мне гэта ведаць?» Бо ўпэўнены, што кім бы прэзідэнт ні быў, ён — чалавек, варты сваёй пасады. Праверанай часам Канстытуцыя, дасканалыя выбарчыя законы, агульная палітычная культура краіны робяць абсалютна немагчымай сітуацыю, пры якой дзяржаву можа ўзначаліць, скажам, дурань, авантурыст, псіхічна неўраўнаважаная асоба, і ўжо тым больш суб'ект, на твары якога напісана, што ён алкаголік альбо наркаман.

Мы жывём у іншай краіне. У нас здараецца і яшчэ пэўны час будзе здарацца ўсялякае. Закон аб выбарах Прэзідэнта Беларусі вельмі нагадвае апошні СССРаўскі закон аб выбарах у Вярхоўны Савет. Той закон павінен быў гарантаваць КПСС і падначаленым ёй структурам большасць у ВС, незалежна ад калізій передвыбарчай барацьбы. Гэты — прывесці да прэзідэнцкага крэсла В. Кебіча, кандыдата ад «партыі ўлады». Закон аб выбарах Прэзідэнта Беларусі надрукаваны ў газетах, кожны можа з ім азнаёміцца і ўпэўніцца, што гэта, бадай што, так. Бо сёння толькі В. Кебіч можа гарантавана зарупіцца падтрымкай сямідзесяці дэпутатаў ВС, толькі Кебіч мае ў сваім падпарадкаванні велізарную прапагандысцкую машыну і неабмежаваныя фінансавыя сродкі.

Для ўсіх астатніх кандыдатаў загадзя створаны штучныя перашкоды ў перадвыбарчым марафоне. Праўда, ці можна гэта назваць марафонам? На дварэ — красавік, а прэзідэнта Беларусь атрымае ўжо ў чэрвені. Таму гэта, хутчэй, стометроўка. Спрынт. Часу на раскачку няма, і на поспех можа разлічваць толькі той, хто ўжо сёння мае надзейнае кола прыхільнікаў, разгалінаваную партыйную /арганізацыйную/ структуру. А гэта маюць найперш «партыя ўрада» і Беларускі народны фронт. Сякуютакую арганізацыю і немалыя фінансавыя сродкі маюць камуністы. На нешта можа спадзявацца кандыдат, якога вылучыць так званае «Народное движение Белоруссии». Вось, бадай, і ўсё...

Ужо вызначаліся і магчымыя прэтэндэнты на прэзідэнцкую пасаду. В. Кебіч абапіраецца на верны яму дырэктарскі корпус прамысловасці, на «чырвоных памешчыкаў», якім добра пры калгасна-саўгасным ладзе; на люмпена, які чакае, калі нарэшце «манны нябесныя» пасыплюцца ў ягоную кішэню расейскія рублі; на расейскую «пятую калону» на Беларусі — на савецкіх адстаўнікоў і на афіцэраў нашай «беларускай» арміі, якія не прымаюць саму ідэю Беларускай дзяржавы і трызняць аб адраджэнні «адзінай стратэгічнай прасторы» і адзінай Савецкай Арміі; на «рускоязычных», якія лянуюцца вывучыць дзяржаўную мову, але гатовы марнаваць час на мітынгах і «кангрэсах», патрабуючы з трыбун «двуязычия»; проста на ненавісніцаў беларушчыны.

Лідэр народнага фронту З. Пазняк возьме галасы тых, хто на гарбачоўскім рэферэндуме галасаваў супраць СССР; увогуле галасы людзей, якія разумеюць, што Незалежнасць — гэта не прыхамаць «нацыянал-экстрэмістаў», а ўмова выжывання народа Беларусі ў жорсткіх варунках XX стагоддзя /бальшавіцкая рэвалюцыя, дзве сусветныя вайны, сталіншчына, Чарнобыль — усё тое, што было, але хто ведае, што яшчэ будзе?../. З. Пазняк можа спадзявацца на пэўную частку інтэлігенцыі, моладзі, дальнабачных прадпрымальнікаў — на тых, хто здольны прагназаваць сітуацыю на Беларусі, у блізкім замежжы і свеце.

Ёсць кола прыхільнікаў і ў С. Шушкевіча. У барацьбе за ўладу ўмела скарыстоўвалі імідж пакутніка, ахвяры таталітарызму Ельцын, Ландсбергіс, Гамсахурдзія, Валенса. Такі ж шанц мае зараз і былы спікер беларускага парламента. Да таго ж ён — ці не адзіны беларускі палітык, якога ведаюць за межамі нашай краіны. Калі браць да ўвагі наш комплекс непаўнавартасці і хваравітае жаданне падабацца Еўропе, Захаду, дык гэта таксама плюс у выбарчай кампаніі Шушкевіча. Ён сам быў у ЗША і вітаў Прэзідэнта Клінтана ў Мінску. Хто яшчэ можа пахваліцца такім? Хіба што Пазняк.

Шушкевіч даспадобы тым, хто Кебічу даўно не верыць /а гэта мільёны людзей/, а Пазняку верыць, але баіцца. Бо Пазняк начыста пазбаўлены папуліцкіх схільнасцей; абяцае толькі тое, што можа здзейсніць, называе рэчы сваімі імёнамі. І досыць часта выступае ў ролі «касандры», гаворачы, што сёння кепска, а заўтра будзе яшчэ горш — калі не пазбавімся небяспечных спадзяванняў на Кебіча і Расею і не возьмемся за розум. Многім гэта не падабаецца, ім хацелася б, каб іх суцяшалі больш ласкавымі словамі.

Адзіная, можа, Шушкевічава праблема сёння — хто будзе збіраць для яго сто тысяч подпісаў? У свой час ён ці не свядома паставіў сябе па-над партыямі і рухамі, а з некаторымі яшчэ і добра пасварыўся.

Тую ж праблему мае і А. Лукашэнка. Імідж барацьбіта з мафіяй — рэч добрая, і у народзе ён сёння, можа, не менш папулярны, чым Васіль Іванавіч з Пецькам і Анкай разам узятыя. Але зноў жа, хто возьме на сябе мутарную передвыбарчую працу дзеля інтарэсаў «народнага героя», калі ён шмат разоў прылюдна дэманстраваў сваю наўдзячнасць, лычом з трыбуны бруд на ўчарашніх саюзнікаў? Непаслядоўна неяк...

Хадзіў Лукашэнка каля камуністаў, але тыя вылучылі кандыдата са свайго асяроддзя. Меўся ўбіцца ў давер да «народнага движения», а яны, хутчэй за ўсё, падтрымаюць Кебіча. Можа, зрэшты, і знойдзе «спонсара», але ж час...

Часу сапраўды няшмат. Малаверагодна, што за гэтыя некалькі месяцаў нешта прынцыпова зменіцца ў беларускім менталітэце. А, значыць, ні ў якім разе прэзідэнтам не стане хто-небудзь з «новых», абсалютна невядомых грамадству людзей. Беларусь прагаласуе за нешта вядомае, зразумелае, за чалавека, які здолее пераканаць людзей, што ён такі ж самы, як і яны. І таму разумее іхнія клопаты і турботы. Так што — бліжэй да народа, спадары кандыдаты!

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

---

# КУЛЬТУРА ПАЧЫНАЕЦЦА З КНІГІ...

***Мы паведамлялі ўжо, што 16 сакавіка ў Доме кнігі, у Мінску, прайшоў «круглы стол» па тэме «Асаблівасці распаўсюджвання беларускай літаратуры і перыёдыкі».***

Гаворка адбылася актуальная і патрэбная. Так званы дзікі рынак усё больш упэўнена дыктуе свае правы, пераважная большасць насельніцтва знаходзіцца на мяжы выжывання, у выніку людзі мусяць эканоміць на духоўнай «ежы». З другога ж боку, беларускай кнізе, нацыянальнай перыёдыцы часта вельмі няўтульна поруч з камерцыйнымі выданнямі, што прапагандуюць секс, насілле.

Тым не менш, знаходзіцца нямала энтузіястаў сярод прадаўцоў кнігарняў, кіёскаў, якія працуюць па прызванні і робяць усё дзеля таго, каб неабходныя выданні своечасова прыходзілі да чытача.

Таму і вырашыла Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь сабраць разам распаўсюджвальнікаў беларускай літаратуры і перыёдыкі, каб не толькі абагульніць вопыт, а і падумаць над нявырашанымі пытаннямі, засяродзіць увагу на надзённых праблемах.

Як падкрэсліў міністр інфармацыі **А. Бутэвіч**, адкрываючы пасяджэнне, такі «круглы стол» праводзіцца ўпершыню. Анатоль Іванавіч падрабязна абмаляваў і становішча, якое склалася сёння ў дзяржаўнай інфармацыйнай прасторы. На 1 сакавіка было зарэгістравана 641 газета і часопіс. 742 арганізацыі атрымалі права займацца выдавецкай дзейнасцю. З'явіліся прыватныя тэлерадыёпраграмы. «Белсаюздрук» /мо ўсё ж трэба «Белдрук»?/, які цяпер знаходзіцца ў веданні Міністэрства інфармацыі, аказаў паслуг на 12,7 мільярда рублёў у год. Разам з «Белкнігай» гэтая лічба ўзрастае да 35 мільярдаў 380 мільёнаў рублёў. Канечне, не ад добрага жыцця кнігарні і кіёскі вымушаны гандляваць таварамі, якія не маюць дачынення да кніг і газет, аднак, як падкрэсліў міністр, гэта на сённяшні дзень адзіны спосаб выжыць. Але, на шчасце, нам удалося, у адрозненне ад некаторых нашых суседзяў, захаваць структуру кніжнага гандлю і друку як дзяржаўную. Расказаў А. Бутэвіч і пра тыя захады, якія, нягледзячы на ўсе цяжкасці, прымаюцца, каб беларуская кніга, нацыянальная перыёдыка прадавалася за межамі Беларусі.

«Праблемы распаўсюджвання нацыянальнай кнігі і перыёдыкі» — такой была тэма выступленняў генеральнага дырэктара аб'яднання «Белкніга» **А. Гурыновіча** і начальніка Рэспубліканскага прадпрыемства «Саюздрук» **Ю. Хмырова**. Прыводзілася нямала лічбаў, якія, з аднаго боку, сведчылі аб тым, што поспехі ў гэтых галінах ёсць, а з другога — падкрэслівалі прапісную ісціну, што сёння нічога бясплатнага не бывае. Выратаванне пакуль яшчэ ў тым, што спрацоўвае так званы дзяржаўны заказ, і гэта дае магчымасць выдавецтвам своечасова выпускаць неабходную літаратуру. Дзяржаўныя дазваляюць выжыць перыёдыцы, у першую чаргу — на беларускай мове.

У той жа час, канстатавалі выступаючыя, кнігагандаль не мае льгот, якія, скажам, даюцца магазінам, што гандлююць гароднінай; кнігарні пастаўлены ў роўныя ўмовы з камерцыйнымі магазінамі

Віншуем!

# ЛАЎРЭАТЫ — НАЗВАНЫ!







Рада Саюза пісьменнікаў Беларусі прысудзіла чарговыя літаратурныя прэміі творчага саюза.

Лаўрэатам прэміі імя Івана Мележа стаў **Уладзімір Калеснік.** Такую высокую ацэнку атрымала яго кніга літаратурных эсэ, крытычных артыкулаў «Усё чалавечае». У яе ўвайшлі матэрыялы адраджэнскага характару. Яны распавядаюць пра ўклад, што ўнеслі ў развіццё нацыянальнай літаратуры, культуры такія яе выдатныя дзеячы, як Р. Шырма, М. Забэйда-Суміцкі, У. Караткевіч, Ф. Янкоўскі і іншыя. Поруч змешчаны артыкулы, прысвечаныя творчасці Я. Янішчыц, А. Карпюка, М. Рудкоўскага, В. Зуёнка, Д. Бічэль-Загнетавай, А. Разанава... Прыцягвае ўвагу выразнасць пазіцыі даследчыка, яго аб'ектыўнасць у асэнсаванні розных літаратурных з'яў, уменне глядзець на мастацкі працэс у яго адзінстве.

Кніга паэзіі **Васіля Макарэвіча** «Везувій» нясе на сабе адбітак нашага складанага, а ў многім і супярэчлівага часу. Аўтар прываблівае чытача смеласцю думкі, вастрынёй узнятых праблем, здатнасцю па-новаму асэнсоўваць, а часам і пераасэнсоўваць шмат якія жыццёвыя з'явы. Кніга «Везувій» адзначана Літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова.

**Уладзімір Ягоўдзік** апошнім часам больш упэўнена адчувае сябе ў галіне дзіцячай літаратуры. Пацвярджэнне таму і яго кнігі «Янка і Ружа» і «Ці вернецца князь Кук?», за якія аўтару прысуджана Літаратурная прэмія імя Янкі Маўра. Пісьменнік, з аднаго боку, удала апрацоўвае фальклорныя матывы, а з другога, піша арыгінальныя творы, якія пашыраюць кругагляд дзяцей, вучаць іх назіральнасці.

27—28 красавіка ў Доме літаратара адбудзецца чарговы, XI з'езд пісьменнікаў Беларусі. На яго запрашаюцца ўсе члены творчага саюза.

# НЯВОЛЯ І СВАБОДА

## 11 КРАСАВІКА — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ ВЯЗНЯЎ ФАШЫСЦКІХ КАНЦЛАГЕРАЎ

Так было: з адной нявconfigлі ў другую няволю пераходзіў наш народ. У гады другой сусветнай вайны ў шталагах і канцлагерах сядзеў беларус як жаўнер польскай арміі і як чырвонаармеец. Сотні тысяч людзей пакутавалі ў Саласпілсе, Майданеку, Асвенціме, Равенсбруку, яшчэ сотні — на катаржных работах па ўсёй Германіі. А былі ж і «ўнутраныя» канцлагеры — у Грамах пад Полацкам, у Азарычах, у Трасцянцы, у Калдычэве...

Латышскі мастак Карліс Буш, былы вязень канцлагера Саласпілс, на свае вочы бачыў, як прыводзілі туды вялізныя калоны сялян з Асвейскай партызанскай зоны, дзе праходзілі ў 1943 годзе карныя экспедыцыі. Старых і хворых адпраўлялі на расстрэл, здаравейшых — на тарфяныя балоты, у каменаломні, дзяўчат — у дамы цярпімасці, з дзяцей /іх было ў лагеры 7 тысяч/ выкачвалі кроў для нямецкіх шпіталяў. «Едэм дас зайнэ». Кожнаму сваё... 48 напакаваных вошамі і людзьмі баракаў. Вісельня перад камендатурай. Веды з кулямётамі. Вялізны каток, у які ўпрагалі вязняў, у Саласпілсе называлі «тыграм»...

На Домскай плошчы ў Рызе, на валасных распрадажах замарыш-беларусік з Саласпілса ацэньваўся акупацыйнай адміністрацыяй у 10 марак. Дахадзяг аддавалі ў ахвочыя сем'і і задарма. Так у латышскую сям'ю трапіла Алачка Дзяшчонак з асвейска-расонскага памежжа. Зараз місіс Вільям-Аліна Лоўлар жыве ў Нью-Йорку, па суседстве з мамай Данчыка спадарыняй Юляй.

Няволя і Свабода. Сатана і Хрыстос. Цану канцлагерную мы як быццам уведалі. Цану Перамогі спазналі. А за волю-свабоду яшчэ і сёння трэба змагацца.

**Сяргей ПАНІЗНІК**



*Саласпілскія ваеннапалонныя.* *Гравюра К. Буша.*

# «ЗАБЯРЫЦЕ Ў ЧЫНОЎНІКАЎ ЗАПАЛКІ!»

## РАЗВІТАЛЬНЫ ЛІСТ ДА ЖЫХАРОЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Пасля паўтарагадовага блукання па розных чыноўніцкіх кабінетах у мяне склалася ўражанне, што большасць чыноўнікаў толькі і думае, як бы «пагрэць рукі». Для гэтага яны робяць усё, што ў іхняй уладзе, і не баяцца, што агульны дом, які завецца Рэспублікай Беларусь, можа і на самай справе «загарэцца» і яны «згарацъ» разам з ім. Якой бы дзяржаўнай важнасці ні абмяркоўваўся праект, у іхніх вачах заўсёды нямое пытанне: «Ці буду я мець з гэтага асабістую выгаду і менавіта сёння?». Іх не цікавіць заўтра.

Я разумею гэтых чыноўнікаў. Яны не вінаватыя ў тым, што ўсе жыхары рэспублікі пастаўлены ў сітуацыю, калі яны вымушаны спачатку думаць аб сабе, а потым, можа быць, і трошкі аб Радзіме. Камусьці вельмі падабаецца лавіць рыбку ў мутнай вадзіцы. Неяк, як па камандзе, усе, хто маюць магчымасць, кінуліся красці і абдурваць бліжняга. А свежы ветрык усё прыносіць і прыносіць прымаўкі, накшталт: «Калі ты такі мудры, то чаму ты такі бедны?».

Апошнія мае спадзяванні на выбранне прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Будзе прэзідэнтам навaспечаны дэмакрат, ці былы партакрат, гэта мяне не хвалюе. Галоўнае, каб ён быў сапраўдны **гаспадар сваёй краіны.** Галоўнае, каб ён думаў спачатку аб жыхарах Беларусі, а потым ужо аб жыхарах Расеі, Украіны, Польшчы, Літвы, ці там аб кімсьці ў Афрыцы.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь павінен памятаць, што Рэспубліка Беларусь не вельмі вялікая краіна, якая ніколі не будзе звышдзяржавай. Беларусь павінна сябраваць з усімі краінамі, і ў першую чаргу з Расеяй. Між тым, гэта не азначае быць пад неабмежаванай уладай Расеі, бо неабмежаваная ўлада нараджае нахабства.

Зноў я развітваюся з Беларуссю, маёй дарагой Радзімай. Зноў я вяртаюся ў гасцінную Канаду, якую я люблю, як другую маці. Ад таго энтузіязму, з якім я прыехаў паўтара года назад, не засталося нічога. Прапановы асабіста дапамагчы арганізаваць выбарчую кампанію таго ці іншага кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, я не прымаю, бо не лічу магчымым, пакуль узначальваю арганізацыю, адзіная мэта якой — развіццё ўзаемавыгадных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Канадай.

Бывайце здаровы, жывіце багата! Пастарайцеся выбраць годнага Прэзідэнта, сапраўднага бацьку для Беларусі. Думайце аб Беларусі! Вы ўсе ў адной лодцы, не раскачвайце яе! Толькі разам вы зможаце выплысці да заможнага, шчаслівага жыцця.

Я люблю Вас усіх,

**Аляксандр ПЯТРОЎСКІ,**
**Прэзідэнт Канада-Беларусь Фонду**

*Мінск, Беларусь*
*4 красавіка 1994 г.*

і кіёскамі. Ну, а ў дадатак неабходна ж і кнігарням, распаўсюджвальнікам друку неяк зводзіць канцы з канцамі. Вось і вымушаны яны часта ў некалькі разоў павышаць цану на перыядычныя выданні.

Нельга абмінуць і такі аспект. Цэны, найперш на кнігі, у розных гарадах розныя. Чым далей ад сталіцы, тым цана большая. Зразумела, транспартныя выдаткі ўзрастаюць, але пры чым тут чытач?! Мае значэнне і тое, у якім месцы знаходзіцца кропка па продажы літаратуры і перыёдыкі. На жаль, апошнім часам кіёскі пачалі «высяляць» з вакзалаў, цэнтральных плошчаў, галоўных вуліц гарадоў, вызваленая плошча прапаноўваецца... камерцыйным структурам.

Намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны **З. Санько** зрабіў паведамленне аб рабоце суполак і шляхах іх узаемадзеяння з прадпрыемствамі «Белкнігі» і «Белсаюздруку». Кантакты наладжаны, у асобных выпадках нават плённыя. У той жа час «Белспажыўсаюз» не вельмі ідзе на тое, каб распаўсюджваць выданні ТБМ. Таварыства ж, якое мае ў Мінску тры ўласныя кіёскі, прапагандуе кнігі дзяржаўных выдавецтваў. У прыватнасці, у іх можна купіць зборнікі з серыі «Нашы славутыя землякі», «Згукі Бацькаўшчыны» і іншыя.

«Белсаюздрук» павінен весці палітыку, якая б была прыярытэтнай у адносінах да беларускамоўных выданняў — з гэтай думкай галоўнага рэдактара газеты «Культура» В. **Іпатавай** нельга не пагадзіцца. Вольга Міхайлаўна расказала пра ўласныя, як рэдактара, дачыненні з «Саюздрукам», — дачыненні калі-нікалі горкія, а не радасныя.

Нямала на сённяшні дзень праблем з распаўсюджваннем літаратуры ў выдавецтваў. Але, як паведаміў дырэктар «Мастацкай літаратуры» **С. Андраюк,** выдавецтва жыве і працуе, рэгулярна выпускае выданні, неабходныя шырокаму колу чытачоў. Пры ўдзеле выдавецтва ў Мінску наладжаны «адраджэнскія ўрокі», праведзены «круглыя сталы» ў Глыбокім і з удзелам глыбачан — у Мінску. Але, з трывогай канстатаваў Серафім Антоновіч, бадай, адзіным заказчыкам кніг з'яўляецца «Белкніга». «Белспажыўсаюз» чамусьці заказы значна знізіў, меней стала прадавацца мастацкай літаратуры і ў кіёсках «Саюздруку». Неабходна падумаць і аб тым, каб сёння больш літаратуры паступала ў бібліятэкі, хоць там кнігу зможа знайсці чытач.

А якая сітуацыя ў правінцыі? **В. Тылец** з Віцебска паведаміла, што ў яе, як прадаўца і прапагандыста кнігі, праблем таксама зараз пабольшала. Адна з іх — папярэдне заказаныя кнігі не трапляюць да перыферыйнага чытача. З заказаных 172 экземпляраў гадавіка «Скарыніч» паступіла ўсяго 8. Альманахаў «Шляхам гадоў» было заказана 197 адпаведнікаў, атрымана — 28! А гэта ж выданні, якія акурат сёння, калі адбываецца нацыянальнае Адраджэнне, і патрэбны. З трывогай В. Тылец гаварыла аб тым, што цяпер у кнігарнях рэдкія госці пісьменнікі, што ўсё цяжэй становіцца праводзіць літаратурныя святы. А раней жа яны — былі! Раней нямала рабілі ў гэтым кірунку адпаведныя аддзелы райкомаў і гаркомаў партыі. Але ж адпаведныя аддзелы ёсць у рай- і гарвыканкомах, у кожным раёне ёсць намеснік старшыні райвыканкома, які адказвае за пытанні культуры. На жаль, далёка не ўсюды яшчэ ўсведамляюць, што культура ў многім пачынаецца з кнігі, літаратуры, з беларускамоўных перыядычных выданняў.

**Г. Станевіч,** падтрымліваючы В. Тылец, спаслалася на прыклад работы сваёй кнігарні ў Лідзе. Адзначыла, што вялікай папулярнасцю карыстаюцца выданні для дзяцей, найперш для дашкольнікаў. /І тут выдавецтву «Юнацтва» неабходна сказаць толькі дзякуй/. Ды ў Лідзе тая ж бяда, што і ў Віцебску. Туды не паступіла ніводнага экземпляра «Анталогіі беларускай паэзіі» у трох тамах! Сама Г. Станевіч убачыла яе толькі на выстаўцы «Беларуская кніга-93». Заказы ж на «Анталогію...» былі зроблены своечасова.

Паступова гаворка набывала ўсё большую актыўнасць. **Н. Аўраменка** /Магілёў/, **Н. Бабіч** /Магілёў/, **Т. Якубовіч** /Мінск/ і іншыя закранулі самыя розныя аспекты распаўсюджвання перыёдыкі. Дырэктар мінскай «Кнігарні пісьменніка» **Я. Бярэйшык** падзялілася вопытам, як яны прапагандуюць беларускую літаратуру, як стараюцца, каб кніга своечасова прыходзіла да чытача.

Сур'ёзную праблему закранула ў сваім выступленні намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Работніца і сялянка» **А. Захаранка.** Яна паведаміла, што калі адзін экземпляр гэтага часопіса бярэцца для продажу за 150 рублёў, дык прадаваць яго збіраюцца за 350 рублёў. Няйначай «Белсаюздрук» рупіцца толькі пра сябе!

Каб жа гэта былі праблемы адной «Работніцы і сялянкі»! Заўважылі, колькі каштуе ў кіёску нумар «Першацвета»? 200 рублёў! Па падпісцы ж цана яго /сакавіцкі нумар/ — усяго 55 рублёў. Цана другога нумара часопіса «Зрок» падскочыла з 80 падпісных да 300 «кіёскавых»! Падпісвацца трэба? Безумоўна, ды толькі на ўсе ж выданні не падпішашся!

За «круглым сталом» праблемы не вырашаюцца — яны абмяркоўваюцца. Але ж своечасовае і грунтоўнае абмеркаванне набалелага — ці не першы крок да вырашэння самых, здавалася б, невырашальных праблем?

**Н. К.**

У рамках выстаўкі «Беларуская кніга-93» адбылося прысуджэнне штогадовых прэмій выдавецтва «Мастацкая літаратура». Гэтым разам лаўрэатамі сталі **Людміла Мазанік** /прэмія імя Максіма Гарэцкага за падрыхтоўку да друку Збору твораў Язэпа Пушчы ў двух тамах/, **Кастусь Цвірка** /прэмія імя Уладзіміра Караткевіча за кнігу эсэ «Лісце забытых алеяў» і падрыхтоўку аднатомніка выбраных твораў Уладзіслава Сыракомлі «Добрыя весці»/, **Мікола Пракаповіч** /прэмія імя Максіма Багдановіча за кнігу паэзіі «Мяжа надзеі»/.

Слова пра новых лаўрэатаў сказалі галоўны рэдактар выдавецтва **Мікола Кусянкоў,** а таксама **Рыгор Барадулін, Васіль Сёмуха, Леанід Дранько-Майсюк.**

Дыпломы лаўрэатам уручыў дырэктар «Мастацкай літаратуры» **Серафім Андраюк.**

## НЕ ТОЛЬКІ НАРОДНЫ, А І ЗАСЛУЖАНЫ...

**Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь гэтымі вясновымі днямі расшчодрыўся на ўзнагароды. Як мы паведамлялі ўжо, І. Чыгрынаву прысвоена званне народнага пісьменніка. Пабольшала і тых, хто стаў заслужаным. Прынамсі, звання заслужаных дзеячаў мастацтваў удастоены Пятрусь Макаль і Ніна Мацяш. Як сказана ва Указе, «за плённую творчую дзейнасць у галіне паэзіі і драматургіі». Заслужаным работнікам культуры стаў Эдуард Валасевіч — за «значны ўклад ў развіццё беларускай літаратуры».**

**Старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Арсень Ваніцкі ганараваны гэткім жа званнем «за вялікі асабісты ўклад у адраджэнне нацыянальнай культуры, садзейнічанне развіццю дружбы і культурнага супрацоўніцтва з народамі іншых краін».**

## ПРЫЗНАННЕМ У ЛЮБОВІ

**да роднай зямлі, мілай сэрцу і душы Беларусі стаў у Доме літаратара творчы вечар Валянціны Аколавай «Дазволь мне, Беларусь, твой боль абняць...». Пра творчасць паэтэсы гаварылі, а таксама чыталі творы, прысвечаныя ёй, сябры-таварышы, старэйшыя калегі: А. Лойка, Л. Акаловіч, А. Пісьмянкоў, М. Скобла, М. Вяршынін і іншыя. З цікавасцю былі ўспрыняты і выступленні акцёраў, спевакоў В. Анісенкі, М. Захарэвіч, Т. Мархель, Я. Навуменкі, В. Шутавай, А. Атаманава...**

**В. Аколава прачытала свае новыя творы, у тым ліку ўрыўкі з гістарычнага рамана ў вершах «Партрэт Вітольды Слуцкай» і лірычнай камедыі «Пракурор і казіно».**

## ДАМІНІК РУДНІЦКІ — ПРАДСТАЎНІК...

**позняга барока, пісаў на польскай і беларускай мовах. У свой час карыстаўся немалой папулярнасцю, але, на жаль, сёння амаль забыты. Захады, каб вярнуць яго спадчыну, толькі робяцца. Крокам у гэтым кірунку сталі і пошукі А. Мальдзіса, які знайшоў у Віленскім гістарычным архіве два творы, аўтарам якіх, як ён мяркуе, з'яўляецца Д. Рудніцкі. Пра гэта А. Мальдзіс расказвае ў артыкуле «Два рэлігійныя вершы XVIII стагоддзя», змешчаным у трэцім нумары часопіса «Хрысціянская думка».**

**У гэтым жа нумары можна прачытаць артыкулы А. Грыцкевіча «Уніяцкая царква на Беларусі ў канцы XVII — пачатку XIX стагоддзяў», У. Неўдаха «Арганная культура на Беларусі», гутарку намесніка старшыні Беларускай каталіцкай грамады А. Бяляцкага з настаяцелем Вішнеўскага касцёла ксяндзом У. Чарняўскім «Кожны народ павінен маліцца ў сваёй мове», урывак з паэмы Л. Случаніна «Ісус Хрыстос», заканчэнне «Расказаў з гісторыі Беларусі для школы і народу» А. Станкевіча, тэалагічную працу Л. Гарошкі «Душа», нарыс Я. Шунейкі «У бязмежную даль» /пра касцёлы на тэрыторыі былой Расіі/...**

## ЧЫМ БОЛЬШ КРАДЗЁМ, ТЫМ БОЛЬШ... БАЧЫМ

**Як ні парадаксальна, але гэта менавіта так. Па-ранейшаму знаходзіцца нямала жадаючых /на жаль, колькасць іх павялічваецца/ перапрaвіць за мяжу найбольш каштоўныя творы мастацтва, у першую чаргу, безумоўна, прадметы даўніны, каб выгадна прадаць іх. Разам з тым, як кажуць, і мытнікі не дрэмлюць, вяртаюць крадзенае. Больш таго, апошнім часам вернутыя такім чынам творы прапаноўваюць на выстаўкі.**

**Адна з іх адкрылася ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, што ў Мінску. Экспазіцыю яе склала канфіскаванае пры спробе незаконнага вывазу за апошнія пяць гадоў. Найбольш тут старадаўніх ікон. Шмат у экспазіцыі статуэтак, розных вазачак, іншых царкоўных рэчаў, што адначасова з'яўляюцца і творамі мастацтва.**

*Адгалоскі*

# ГЭТА НАША ГІСТОРЫЯ

### ПРА ЧАСОПІС «ПРАЛЕСКА» І ЯГО ПУБЛІКАЦЫІ СТАРОНАК ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

Не кожнага пісьменніка можна назваць пісьменнікам-гісторыкам, не кожны ўзваліць на сябе такую цяжкую ношу, як глыбокае вывучэнне і даследаванне гісторыі сваёй краіны, калі яна, гэта гісторыя, не вывучалася і не прапагандавалася дзесяцігоддзямі. Сёння мы толькі пачынаем прыадчыняць дзверы ў праўдзівую гісторыю роднага краю, знаёміцца з ёю самі і пераказваць нашым дзецям.

Новы часопіс для выхавацеляў дзіцячых садкоў і для бацькоў «Пралеска» — гэта сапраўды часопіс новы, які вучыць, выхоўвае сэрца і душу, тлумачыць, прапагандуе тое, што было знішчана абэцэдаршчынай і загарульшчынай. Менавіта гэты часопіс гутарыць з сям'ёй, бацькамі, дзядамі і іншымі выхавацелямі пра нашу слаўную гісторыю.

З першага артыкула «Пралескі» /1992, N 5/ з рубрыкі «Адкуль наш род» У. Арлова я пачала вывучаць гісторыю Беларусі разам са сваім шасцігадовым сынам. Дзіўна /і не дзіўна!/, што я, філолаг, скончыўшы БДУ, не ведала нават прозвішчаў славутых дзеячаў, якія нарадзіліся, жылі на маёй зямлі ці проста наведвалі яе.

Праўда, для мяне гісторыя Беларусі пачала адчыняцца тады, калі з'явіліся першыя працы гісторыка Міколы Ермаловіча, творы Кастуся Тарасава, Леаніда Дайнекі і інш. Але такія даступныя, напісаныя не навуковай, а простай мовай гістарычныя аповяды аб нашай краіне для выхавальнікаў з'явіліся ўпершыню ў часопісе «Пралеска».

І вось не так даўно чытаю артыкул «Уроки ужасов для дошколят» у «Советской Белоруссии», N 26—27 за г.г. Ганна Катлярова ў ім расказвае, як яна **«случайно** прочитала журнал для детских садов «Пралеска», NN 9 и 10 за прошлый год. Прочитала и испугалась: кто и для кого пишет такое?..» І яшчэ больш крута: «кто позволяет разжигать среди детей национальную рознь?» Дык вось, яна, Г. Катлярова, прачытаўшы **выпадкова** толькі NN 9 і 10 «Пралескі», «ужаснулась». А я здзівілася! У маёй сям'і, сярод родзічаў ёсць рускія і ўкраінцы, іх дзеці вывучаюць гісторыю Беларусі па часопісе «Пралеска» і толькі ўдзячны гэтаму выданню, якое, я паўтараю, «асмелілася» ў такі складаны для Адраджэння Беларусі час расказваць сапраўдную гісторыю пра свой край.

Рэдакцыя часопіса і яго аўтар У. Арлоў, пакуль друкуюцца апавяданні пад агульнай рубрыкай «Адкуль наш род», атрымалі тысячы пісьмаў з удзячнасцю, і не толькі ад жыхароў Рэспублікі Беларусь. А тут на́ табе: Ганне Катляровай, Іллю Масткову /газета «Советская Белоруссия», 1994, 5 лютага, NN 26—27/ і некаторым іншым захацелася прозай і нават вершамі крыкнуць: «Ату! Ату! Ці не ўсё вы хочаце ведаць? Ці трэба вам гэта?» «Ишь ты, захотели жители Беларуси знать историю своего края!» Ды яшчэ тыя, маладыя, што маюць маленькіх дзетак! Ды яшчэ тыя, старыя, што маюць унукаў. Зачыніць, «не пущать! Ату іх! Ату!»

Сам жа І. Масткоў /каментатар артыкула Г. Катляровай/ прызнаецца, што «Письмо **заставило** почитать **некоторые** его /часопіса «Пралеска». — **Т. Ф.**/ номера и возмутиться вслед за А. Котляровой» ...Шкада, што таварыш І. Масткоў не ўнік у сучасную «Праграму па гісторыі Беларусі для сярэдняй школы», у змест новых падручнікаў. Адчуваецца, што ён не чытае гістарычных часопісаў, нашай гістарычнай літаратуры, не разумее, што такое «подлинное национальное возрождение», а так проста, «з пляча» пачынае «выдергивать факты» з апавяданняў У. Арлова.

І калі я чытаю тыя факты, хочацца запытаць І. Масткова: «А дзе тут няпраўда? А калі і якія заваёўнікі чужых зямель вялі сябе лагодна і прыстойна? А чаго яны ішлі на чужыя землі? А што, можа, і праўда не было ў нас сваёй гісторыі, каменнага і жалезнага веку, старажытных багоў, святаў нашых продкаў? Не было Рагвалода і Рагнеды, бітваў на Судоме і Нямізе, Ізяслава і Брачыслава, Усяслава Чарадзея, Еўфрасінні Полацкай, князя Валодшы і вайны з крыжакамі, Тура і Міколы Гусоўскага, Канстанціна Астрожскага і Льва Сапегі, пра якіх апавядае нашым маленькім грамадзянам У. Арлоў?»

І калі я вывучаю са сваім сынам гісторыю па Арлову /па часопісе «Пралеска»/, мяне пачынаюць цікавіць і наступныя пытанні: для чаго Бог стварыў Зямлю і насяліў яе людзьмі? Як трэба жыць чалавеку? Якім ён павінен быць? Як трэба шанаваць чалавека любой нацыянальнасці? Ці можна прыніжаць яго і цэлыя народы? Да чаго прыводзяць на зямлі войны, зайздрасць, барацьба за ўладу? Хто заўсёды пакутуе пры войнах? Чаму людзі павінны быць шчырымі, міласэрнымі, незайздроcлівымі? Чаму менавіта Беларусь прагнулі захапіць ворагі? Чаму ўсе людзі, усе дзеткі павінны жыць у дружбе? І ці не яшчэ і таму мы павінны горача любіць свой край, што ён, як і яго народ, шмат пакутаваў ад войнаў?

Каб выхаваць чалавека сумленным і міласэрным, не ўяўным патрыётам-інтэрнацыяналістам, а сапраўдным патрыётам, гаспадаром зямлі, трэба, на мой погляд, далучаць да мінуўшчыны свайго краю менавіта старэйшых, а праз іх і дзетак, бо яны ёсць наша будучыня. Г. Катлярова, І. Масткоў і некаторыя іншыя так і не зразумелі, наспех прачытаўшы два нумары «Пралескі», што гэты часопіс не для дашкольнікаў, якія не ўмеюць яшчэ чытаць, а найперш для ўсіх нас, выхавацеляў беларускіх дзетак.

Хочацца верыць, што часопіс «Пралеска», яго калектыў, Міністэрства адукацыі РБ не спалохаюцца выпаду «Советской Белоруссии» і не зачыняць браму ў гісторыю Беларусі.

**Т. ФАМЕНКА,**
**навуковы супрацоўнік Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей.**

*Рэпліка*

# БЕЗГУСТОЎШЧЫНА — ДЗЕЦЯМ...

Бацькам, дзеці якіх выхоўваюцца ў дзіцячых садках, даводзіцца час ад часу даплачваць з уласнай кішэні то за святкаванне Новага года, то за выступленне лялечнага тэатра. Бацькі згаджаюцца з такімі выдаткамі, бо разумеюць, што гэта ідзе дзецям на карысць. Але бывае і іншае.

На пачатку гэтага года ў многіх дзіцячых садках Мінска пачалі распаўсюджваць новыя кніжкі-размалёўкі з абавязковым патрабаваннем да бацькоў — купіць іх. Трапіла такая кніжка і да мяне. Паглядзеў і здзівіўся: як можна такое выдаваць ды яшчэ для дзяцей! Бо ў названых размалёўках «бізнес» дзялкоў ад мастацтва, мне здаецца, пераходзіць у здзек з маленькіх грамадзян Беларусі. Дадам, што разышлася гэтая кніжка па садках з лёгкай рукі Мінскага ГАРАНА.

З першай старонкі на дзяцей пазіраюць розныя жахлівыя стварэнні: нешта падобнае да мядзведзя, які раве ў тэлефонную трубку, прычым палова тэлефона «залазіць» на апошнюю старонку. Далей — воўк з двума нажамі і двума пісталетамі за поясам і з сякерай на плячы. Да пары ваўку — рыцар у жалезных латах, але з фантастычным аўтаматам у руцэ, а з-пад пахаў у яго звісаюць яшчэ два кулямёты. Незразумела толькі, навошта тады гэтаму рыцару яшчэ і шчыт?

Безумоўна, мастак, які пажадаў захаваць ананімнасць, тэхнакрат у душы. Калі на малюнку няма верталёта ці матацыкла, то яго паспяхова замяніць мадэрнізаваны бронетраспарцёр, абвешаны ракетамі розных калібраў. Калі ж яшчэ гадаваць любоў да зброі, як не ў дзіцячым садку!

Адна такая размалёўка заменіць дзесяць рэкламных ролікаў па тэлевізары. Ва ўсякім выпадку, так здаецца, калі паглядзець на шчаслівыя ўсмешкі, з якімі звяры, скапіраваныя з герояў дыснееўскіх мульцікаў, раз'язджаюць на «іншамарках».

Даніна народным казкам, якія так любяць дзеці, — брыдкія вобразы Бабы-Ягі без аднаго вока і Цмока, які невядома з якой нагоды таксама сядзіць у машыне.

Пад канец намаляваны чорт з рожкамі, ікластаю пашчай, бантам на шыі ды кальцом у носе, які шчыра рагоча. Зразумела, што такому герою гэтыя размалёўкі прыйдуцца вельмі даспадобы. А дзеці, якім такое шчасце падваліла, відаць, на думку стваральнікаў, павінны скакаць ад радасці, як пацукі-мутанты на апошняй старонцы.

Прынамсі, аб стваральніках — яны невядомыя. У кніжцы не ўказваецца ніякіх прозвішчаў, а на вокладцы адсутнічаюць якія-небудзь выходныя дадзеныя. Размалёўкі надрукаваны ратапрынтным спосабам на кепскай паперы. Краі старонак няроўна, абы-як абрэзаны. Такую кніжку нават у руках трымаць непрыемна. Ці не таму яе прапануюць купляць у «добраахвотна-прымусовым парадку»?

Першая думка, якая прыходзіць у галаву, калі перагартаеш тыя размалёўкі, — вось, аказваецца, на чым можна рабіць бізнес, пры вядомай долі спрыту і нахабства! Намаляваць гэтыя карцінкі левай, як кажуць, нагой, зрабіць з іх кніжку і праз знаёмых «прапіхнуць» яе ў мінскія дзіцячыя садкі. Затраты мінімальныя, а «навар» відавочны. У метадычным аддзеле ГАРАНА мне пацвердзілі ў прыватнай гутарцы, што яны задаволены мастацкім узроўнем размалёвак. Але аўтараў і выдаўцоў гэтага «твора» назваць не пажадалі. А ўвогуле, скаргаў з боку бацькоў да іх не паступала, і навошта я лезу не ў свае справы?.. Урэшце, якая карысць з тых скаргаў! Хіба ад іх што зменіцца? На тым разлік і заснаваны, што бацькам, заклапочаным агульным пагаршэннем умоў жыцця, будзе не да нейкіх размалёвак...

**Ягор КОНЕЎ**

*Пошта*

# КАНЕЦ АТЭІЗМУ

У наш час цяжка быць матэрыялістам і атэістам. Усё болей людзей далучаецца да царквы. Гэта і зразумела, матэрыялістычная дактрына вядзе да поўнага спусташэння, губляецца сэнс жыцця і страчваюцца ўсе каштоўнасці. Матэрыялісты кажуць, што чалавек, грамадства, увогуле біясфера — гэта адна з форм існавання матэрыі, а сама матэрыя — вечная. Але самі яны не рэкламуюць таго, што вынікае з іх тэорыі. Няхай сабе матэрыя вечная, але формы яе — не вечныя. Такім чынам, чалавек, грамадства, жывая прырода — усё гэта рана ці позна знікне. Сляпы выпадак, які, згодна матэрыялістычнай тэорыі, спарадзіў жыццё на Зямлі, гэтае жыццё і знішчыць. Жыццё на Зямлі пачалося без удзелу чалавека, без яго волі яно і скончыцца. І сэнсу ў чалавечым жыцці не болей, чым у жыцці тых казюрак, якіх ён, ідучы па лесе, раздушвае дзесяткамі, нават не заўважаючы гэтага. Калі няма Бога — чалавечае жыццё на мае сэнсу. Чаму б тады не жыць так, як хочаш, для свайго задавальнення; навошта мараль — яна толькі перашкаджае; у жыцці пануе мацнейшы, хочаш — забі, хочаш — украдзі. Але чалавеку невыносна жыць жывёльнымі інстынктамі. Чалавек не можа жыць без сэнсу, без каштоўнасцей. І тады матэрыялісты пачынаюць красці каштоўнасці ў тых, у каго яны ёсць.

У наш час атэістам быць проста немагчыма. Бо атэізм абвяргае яго ўчарашні сябра — навука. І чым болей развіваецца навука — тым болей яна пацвярджае Біблію. Яшчэ ў 1929 годзе астраном Эдвін Хабл даказаў, што сусвет пашыраецца, і пашыраецца аднолькава ва ўсіх накірунках. А вядомыя астраномы А. Сандадж і Г. Тамман у сваіх артыкулах, надрукаваных у 1974—75 гадах у часопісе «Астрофізыкэл джорнэл», даказалі, што сусвет стварыўся ў выніку «вялікага выбуху», і яны вылічылі, што выбух гэты адбыўся прыкладна 15 мільярдаў гадоў таму. Сусвет пачаўся са стану бязмежнае сціпрасці /шчыльнасці/, сканцэнтраванай у адной кропцы, — гэта значыць фактычна з нічога /усе мы ведаем з геаметрыі, што аб'ём кропкі роўны нулю/. Такім чынам, мы бачым, што тэорыя «вечнай матэрыі», як снегавік пад веснавым сонейкам, ператварылася ў лужыну, у якой апынуліся яе стваральнікі.

Атэізм — гэта рэлігія малаадукаваных людзей, гэта рэлігія XIX стагоддзя. Хаця атэісты і ганарыліся навуковасцю сваёй дактрыны, але навука іх ідэі якраз і абвергла.

**Андрусь ДЫЛЮК,**
**хрысціянін з Беларускай Эвангельскай Царквы**

*г. Мінск*

***У канцы мінулага года ў «Звяздзе» быў надрукаваны артыкул А. Касценя «Віцебшчына ўжо не дасягне даваеннай колькасці насельніцтва», дзе быў закрануты шэраг дэмаграфічных і этналагічных аспектаў, звязаных з жыццём сучаснай Віцебшчыны. Нам, як спецыялістам дэмографам і этнолагам, хацелася б унесці ў высновы, зробленыя А. Касценем у яго артыкуле, пэўныя карэктывы і дапаўненні.***

# ЦІ ТОЛЬКІ ДЭМАГРАФІЧНАЯ «ЯМА»?

## БЕЛАРУСКАЕ НАСЕЛЬНІЦТВА НА ВІЦЕБШЧЫНЕ СКАРАЧАЕЦЦА. ЧАМУ?

Сапраўды, як гэта ні сумна, але Віцебская вобласць да цяперашняга часу не аднавіла даваеннай колькасці насельніцтва. Да вайны тут жыў кожны пяты жыхар Беларусі, і па колькасці насельніцтва вобласць саступала толькі Мінскай. Па дадзеных жа перапісу 1989 года доля Віцебшчыны ў агульнай колькасці насельніцтва рэспублікі складала ўжо толькі 13,8 %, і яна адсунулася на 4-е месца, пакінуўшы ззаду толькі Магілёўскую і Гродзенскую вобласці. У асноўным гэта можна растлумачыць вынікамі Вялікай Айчыннай вайны. На 1 студзеня 1950 года насельніцтва вобласці складала толькі 72,7 % даваеннай колькасці, у той час як у Брэсцкай — 97 %, Мінскай — 94 %, Гродзенскай — 90 %, Магілёўскай — 81 %, Гомельскай — 80 %.

Так, А. Касцень мае рацыю, сцвярджаючы, што ў Віцебскай вобласці сапраўды мае месца дэмаграфічны крызіс. Яе насельніцтва скарацілася з 1728,3 тыс. чал. на пачатку 1941 г. да 1438 тыс. у 1992 годзе. У 1991 годзе ўпершыню ў пасляваенны час у Віцебскай вобласці памерла /18,1 тыс. чал./ людзей больш, чым нарадзілася /17,8 тыс. чал./, а ў разліку на 1000 чалавек — адпаведна 12,6 і 12,4.

У сувязі з гэтым паўстаюць да болю знаёмыя пытанні «Хто вінаваты» і «Што рабіць»? Што ж з'явілася прычынай самых нізкіх паказчыкаў нараджальнасці, самых высокіх — смяротнасці і мінімальнага натуральнага прыросту, што назіраліся на Віцебшчыне на працягу ўсіх пасляваенных гадоў? Гэты феномен Віцебшчыны доўгі час не меў вытлумачэння.

Паспрабуем разабрацца. У цяперашні час сувязь паміж этналогіяй і дэмаграфіяй /у перакладзе са старажытнагрэчаскай «этнас» азначае прыкладна тое ж самае, што і «дэмас»/ даследчыкамі ўсведамляецца вельмі моцна. І адказ крыецца, у першую чаргу, у асаблівасцях дэмаграфічнай і нацыянальнай структуры насельніцтва, якія аказваюць вялікі ўплыў на ўзнаўляльныя працэсы.

Ёсць такі выраз — «якасць жыцця». Ён усё аб'ядноўвае і ўсё ўлічвае, у тым ліку і дэмаграфію. Якая ж з гэтага пункту гледжання якасць жыцця жыхароў Беларусі? Па нараджальнасці за 10 месяцаў 1993 года сярод 7 еўрапейскіх дзяржаў былога СССР Беларусь знаходзіцца на трэцім месцы /пасля Малдовы і Літвы/. У той жа час цяпер Беларусь уваходзіць у лік краін былога СССР з найбольш складанай дэмаграфічнай сітуацыяй, якая рэзка пагоршылася пасля чарнобыльскай катастрофы. Жанчыны Беларусі нараджаюць усё менш. Цікава прасачыць дынаміку нараджальнасці дзяцей на той ж Віцебшчыне за апошняе дзесяцігоддзе. У 1983 — 1987 гг.яна дасягнула тут свайго піка /да 22 тыс. чал./. Потым пачала спачатку паволі /1988 г. — 20,8 тыс. чал./, а потым і рэзка зніжацца /1989 г. — 19,7 тыс., 1990 г. — 18,8 тыс./. Наогул, натуральны прырост насельніцтва скараціўся ў цэлым па рэспубліцы. Калі ў 1985 годзе гэты паказчык складаў 59,3 тыс. чал., то ў 1992 — 11,3 тыс. У 1993 колькасць памерлых перавысіла колькасць народжаных на 11 тыс. чалавек.

У апошні час выразна абазначылася такая крайне негатыўная тэндэнцыя, як рост смяротнасці ў выніку ненатуральных прычын. Напрыклад, у 1993 г. у параўнанні з 1992 годам колькасць знарочыстых забойстваў у рэспубліцы ўзрасла на 20,3 %.

Ідзе няўхільнае зніжэнне сярэдняй працягласці жыцця насельніцтва Беларусі. Каля 20 % хвароб у рэспубліцы ўзнікаюць з-за ўздзеяння неспрыяльных фактараў навакольнага асяроддзя. А ў шэрагу гарадоў /Гомель, Магілёў, Наваполацк, Мінск/ гэты фактар з'яўляецца нават вядучым. Слабейшымі сталі дзеці. Алергічныя рэакцыі на знешняе асяроддзе, прадукты харчавання змянілі плынь некалі «класічных» дзіцячых хвароб да непазнавальнасці. Практычна кожны год педыятры канстатуюць з'яўленне новых вірусаў. Сёння з 1000 дзяцей на Беларусі 997 хворыя /«Звязда», кастрычнік 1993 г./. Пасля Чарнобыля палова кормячых мацярок не могуць карміць сваіх дзяцей грудным малаком, бо ў ім знаходзіцца радыеактыўны цэзій. За апошнія 10 гадоў у Рэспубліцы Беларусь колькасць анкалагічна хворых павялічылася на 45 %. Прычым, як ні дзіўна, рэкардсменам па колькасці анкахворых з'яўляецца менавіта Віцебская вобласць, якая лічыцца самай «чыстай».

Аднак нізкі ўзровень нараджальнасці, які не забяспечвае простага замяшчэння аднаго пакалення другім, не толькі віцебскі феномен — гэта агульная праблема для большасці больш-менш развітых краін. На Беларусі ў апошнія 10—15 гадоў нараджальнасць вышэйшая за расійскія, украінскія, сярэднееўрапейскія паказчыкі. Што ж тычыцца дадзеных А. Касценя аб перавышэнні смяротнасці над нараджальнасцю, то, напрыклад, у квітнеючай Германіі такое было амаль чвэрць стагоддзя назад — у 1970 г., а таксама ў не беднай Даніі ў 1980 г. Дэмаграфічныя асаблівасці нельга не ўлічваць. Так, напрыклад, не ведаючы іх, можна падумаць, што «старэючая» Швецыя па агульным каэфіцыенце смяротнасці ўдвая абагнала «маладую» Мексіку, хоць «сярэдні» швед жыве на 12 гадоў даўжэй за «сярэдняга» мексіканца. На самай справе гэта абумоўлена тым, што доля пажылых у насельніцтве Швецыі значна вышэйшая, чым у Мексіцы.

Больш высокую смяротнасць, чым нараджальнасць, а адсюль і скарачэнне колькасці насельніцтва А. Касцень звязвае з рэаліямі сённяшняга дня. Вядома, падзенне ўзроўню жыцця ў рэспубліцы ніяк не садзейнічае з'яўленню на свет дзяцей і шчаслівай старасці. Але крызіс натуральнага ўзнаўлення насельніцтва — а ў Віцебскай вобласці, як і ў іншых рэгіёнах Беларусі, такі крызіс сапраўды мае месца — звязаны перш за ўсё з працяглымі дэмаграфічнымі працэсамі, а таксама асаблівасцямі нацыянальнага складу насельніцтва вобласці. Праводзіць жа прамую залежнасць паміж дэмаграфіяй і эканомікай некарэктна. Што тычыцца рэзкага спаду нараджальнасці ў гэтыя гады, дык дэмографы яго называюць другім дэмаграфічным рэхам вайны. Дэмаграфічная гісторыя Беларусі цяжкая. Чаго варты хоць бы страты Беларусі ў гады другой сусветнай вайны? На крывой дэмаграфічнага прыросту гэтыя страты выглядаюць як глыбокія зазубрыны. У сувязі з гэтым заслугоўваюць вялікай цікавасці ніколі дагэтуль не публікаваныя дадзеныя, якія паказваюць, калі ж саюзныя рэспублікі былога СССР дасягнулі даваеннай колькасці насельніцтва /гл. графік/.

| | 1940 | 1950 | 1951 | 1952 | 1953 | 1954 | 1955 | 1956 | 1957 | 1958 | 1959 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Эстонія | 1,05 | 1,09 | | | | | | | | | |
| Латвія | 1,87 | 1,94 | | | | | | | | | |
| Малдова | 2,47 | 2,29 | 2,39 | 2,46 | 2,48 | | | | | | |
| Расія | 110,01 | 101,44 | 102,95 | 104,59 | 106,72 | 108,43 | 110,54 | | | | |
| Украіна | 41,31 | 36,59 | 37,22 | 37,92 | 38,37 | 38,99 | 39,27 | 39,74 | 40,42 | 41,18 | 41,87 |
| Літва | 2,93 | 2,57 | 2,56 | 2,59 | 2,61 | 2,61 | 2,61 | 2,64 | 2,67 | 2,67 | 2,71 |
| Беларусь | 9,05 | 7,71 | 7,78 | 7,75 | 7,69 | 7,69 | 7.76 | 7,86 | 7.91 | 7,96 | 8,06 |

| | 1960 | 1961 | 1962 | 1963 | 1964 | 1965 | 1966 | 1967 | 1968 | 1969 | 1970 | 1971 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Літва | 2,76 | 2,80 | 2,85 | 2,88 | 2,92 | 2,95 | | | | | | |
| Беларусь | 8,15 | 8,23 | 8,34 | 8,44 | 8,48 | 8,56 | 8,66 | 8,72 | 8,84 | 8,92 | 9,00 | 9.08 |



Першае дэмаграфічнае рэха вайны на той жа Віцебшчыне назіралася ў пачатку 60-ых гг. /1961 г. нарадзілася 27,3 тыс. чал., а ў 1962 г. — ужо толькі 25,9 тыс., у 1963 г. — 23,7 тыс. чал., 1965 г. — 21,4 тыс. чал., 1967 г. — 20,3 тыс/, калі ўвайшлі ў шлюбны ўзрост дзеці, што нарадзіліся ў 1941—1945 гг. Натуральна, што Віцебская вобласць, як і іншыя вобласці Беларусі, недаатрымала патэнцыяльных жаніхоў і нявест. Было створана менш сем'яў і ўпала нараджальнасць. Спатрэбілася амаль 20 гадоў, каб колькасць народжаных у Віцебскай вобласці зноў крыху павялічылася /у 1983 і ў 1987 гг. — па 22,0 тыс. чал./. Але нават гэты параўнаўча невысокі ўзровень цягнуўся нядоўга — усяго 3—4 гады. І вось у 1990 г. шлюбнага ўзросту дасягнула малалікае пакаленне, народжанае ў шасцідзесятыя гады, што зноў-такі выклікала нізкую нараджальнасць /1990 г. — 18.8 тыс. чал., 1991 г. — 17,8 тыс. чал./. Калі ў 1985 г. на 1000 жанчын ва ўзросце 25 — 29 гадоў даводзілася 125 нованароджаных, то ў 1992 г. — 86.

Дадзеныя сведчаць пра тое, што кожная «асобна ўзятая» сучасная жыхарка Беларусі нараджае за сваё жыццё прыкладна ў два разы менш дзяцей, чым яе бабуля. Цяперашняе ж падзенне нараджальнасці звязана таксама і з такімі яшчэ дзвюма акалічнасцямі: 1/ змены ў пола-ўзроставай структуры насельніцтва /на пачатак 1993 г. ва ўзросце 20—29 гадоў у рэспубліцы было на 113 тыс. жанчын менш, чым у 1985 г. У Віцебскай жа вобласці доля жанчын ва ўзросце 15—49 гадоў скарацілася з 45,4 % у 1985 г. да 43,9 % у 1992 г./ і 2/ каляндарным планаваннем тэрмінаў з'яўлення патомства ў сям'і.

У выніку зніжэння ўзроўню нараджальнасці і павелічэння працягласці жыцця для ўзроставай структуры насельніцтва вобласці характэрны дзве асаблівасці: па-першае, павелічэнне колькасці людзей старэйшых узростаў /калі ў 1959 годзе доля жанчын у пенсійным узросце склала 19,3 %, мужчын — 9,5 %, то ў 1989 г. яна павысілася адпаведна да 30 і 13 %; доля ж асоб ва ўзросце 60 гадоў і старэй за апошняе 30-годдзе павялічылася на 50 % і, па-другое, зніжэнне колькасці дзяцей /так, з 1959 па 1989 гг. доля дзяцей ва ўзросце да 1 года паменшылася на 40 %, ва ўзросце ад 0 да 9 гадоў — на 30 %/.

На неспрыяльную дэмаграфічную сітуацыю ўплывае і цэлы шэраг іншых фактараў. У прыватнасці, павелічэнне колькасці мацярок, якія нарадзілі дзяцей па-за замужжам. У 1980 годзе колькасць такіх дзяцей ад агульнай колькасці народжаных складала 6,4 %. У 1985 — 7,1, 1990 г. — 8,5 %, 1992 г. — 9,4 %.

Не спрыяе здароўю нацыі і алкагалізацыя насельніцтва, якое расце з кожным годам. Рэспубліка займае першае месца ў былым СССР па ўжыванні алкагольных напіткаў усіх відаў /гл. табліцу/, што, натуральна, не можа не адбіцца на паказчыках смяротнасці.

Ужыванне алкагольных напіткаў усіх відаў
/літраў абсалютнага алкаголю на душу насельніцтва/

| Краіны | 1980 | 1985 | 1990 | 1992 |
|---|---|---|---|---|
| Азербайджан | 2,7 | 2,1 | 1,5 | 1,8 |
| Арменія | 4,8 | 3,9 | 2,9 | 2,8 |
| Беларусь | 10,2 | 8,8 | 5,7 | 6,3 |
| Казахстан | 8,5 | 6,6 | 4,1 | 3,9 |
| Кыргызстан | 6,6 | 4,7 | 2,9 | 3,0 |
| Малдова | 6,3 | 4,1 | 3,3 | 3,4 |
| Расія | 10,5 | 8,8 | 5,6 | 5,4 |
| Таджыкістан | 2,7 | 2,0 | 1,3 | 1,2 |
| Туркменістан | 4,3 | 3,5 | 2,7 | 2,5 |
| Узбекістан | 4,0 | 3,1 | 2,2 | 2,2 |
| Украіна | 6,8 | 5,8 | 4,0 | 4,0 |
| Грузія | 4,2 | 3,2 | 3,2 | ... |
| Літва | 11,3 | 10,0 | 5,2 | ... |
| Латвія | 11,3 | 9,2 | 5,3 | ... |
| Эстонія | 11,8 | 10,4 | 6,0 | ... |

*Рэспубліка Беларусь, дзяржавы СНД і асобныя замежныя краіны /статыстычны зборнік/, Мінск, 1992.*

Цяпер пра этнічныя працэсы на той жа Віцебшчыне. Удзельная вага беларусаў тут сярод насельніцтва да 1989 года ў параўнанні з 1959 зменшылася нязначна — з 81,2 % да 79,4 %. Другое месца па колькасці займаюць рускія. Іх удзельная вага ў гэтай галіне заўсёды была вышэй за сярэднерэспубліканскую /у 1989 г. — 15,2 %, а ў РБ — 13,2 %/. За апошнія 30 гадоў колькасць рускіх тут павялічылася амаль удвая, што звязана з пасляваенным прамысловым будаўніцтвам і стварэннем шэрагу новых вытворчасцей. Свой уклад у гэты працэс уносіць натуральны прырост і асіміляцыя. Галоўным рычагом асіміляцыі з'яўляюцца міжнацыянальныя шлюбы. У 1989 годзе амаль трэцяя частка ўсіх шлюбаў былі міжнацыянальнымі. Беларусь з'яўлялася, мабыць, адзінай рэспублікай былога СССР, дзе ў руска-беларускіх сем'ях пры нараджэнні дзяцей іх часцей за ўсё запісвалі рускімі. Выбар менавіта рускай нацыянальнасці тлумачыўся шырокім распаўсюджаннем рускай мовы і часта поўным пераходам на рускую мову ў руска-беларускіх сем'ях.

У апошнія 10 гадоў усё больш прыкметную ролю ў працэсах нараджальнасці пачынае іграць сацыяльнае асяроддзе, у прыватнасці, этнічная прыналежнасць, якая побач з іншымі культурна-бытавымі традыцыямі фарміруе і традыцыі, якія кіруюць рэпрадуктыўнымі паводзінамі. Больш нізкі ўзровень нараджальнасці рускага насельніцтва /у параўнанні з беларускім/, якое мае даволі значную ўдзельную вагу ў агульнай колькасці насельніцтва вобласці, і з'яўляецца адной з прычын таго, што Віцебшчына мае

*(Працяг на стар. 12)*

## БАТЛЕЙЧЫНЫ НЕСПАДЗЯВАНКІ



«Батлейка — гэта чарадзейная скрыня, унутры якой заўсёды знойдзеш цуд», — прагучала са сцэны Мінскага абласнога тэатра лялек /г. Маладзечна/. У той дзень, з нагоды Міжнароднага свята тэатра, дарослыя й маленькія маладзечанцы атрымлівалі неспадзяванку за неспадзяванкаю. Спярша гаспадароў сцэны віншавалі госці. Маленькія лялечнікі з тэатральнай студыі «Пралеска» паказалі камічнае дзейства са слыннымі персанажамі — царом Максімілянам, дзеўкай Дрыпай, Пастрыгачом, Цыганкай, Адолькам, Катам, Смерцю з касой. Узорны лялечны тэатр Дома культуры чыгуначнікаў пацешыў узорным «капуснікам». Дзеткі з абласнога дома дзіцячае творчасці таньчылі й спявалі пад скрыпачкі вучняў музычнае школы.

А ў адказ дарослыя лялечнікі з «Батлейкі» падаравалі прэм'ерны спектакль — «Чароўны камень», шматфарбнае відовішча, дзе чырвона-чорныя падкопы ліхой Варажбіткі сустрэлі супрацiў з боку ўдзельнікаў светлага сялянскага абраду Дажынкаў. І дабро, як мае быць, перамагло.

П. В.

*На здымку: сцэна са спектакля «Чароўны камень».*

## ЗМЕШЧАНА Ў «ЗРОКУ»

І другі нумар штомесячніка «Зрок» багаты на цікавыя матэрыялы. Прапануецца чарговая гутарка М. Ермаловіча — «Прадказанні, якія спраўдзіліся». Апублікаваны артыкулы Х. Крываноса «Цэрквы Лагойска», А. Малчанава — «Першыя бібліятэкі Мінска», вершы С. Панізніка, гумарыстычныя вершаваныя мініяцюры В. Шымука, старонка для дзетак «Ліхтарык» /замежны фальклор і творы Я. Журбы/, публіцыстычныя развагі М. Жэўно «Выбар Расіі», шэраг іншых матэрыялаў.

## ЗАПРАШАЕ ДОМ ЛІТАРАТАРА

Споўнілася 180 гадоў з дня нараджэння неўміручага кабзара Тараса Шаўчэнкі. З нагоды гэтага юбілею сёння, 8 красавіка пройдзе вечарына беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязяў.

А 12 красавіка будзе адзначана 60-годдзе з дня выхаду ў свет аповесці Якуба Коласа «Дрыгва».

На 13 красавіка запланаваны прагляд мастацкага фільма «Аз воздам», створанага на кінастудыі «Беларусьфільм». Аўтары сцэнарыя — У. Бутрамееў, Б. Сцяпанаў з удзелам Ф. Конева. Рэжысёры-пастаноўшчыкі — Б. Сцяпанаў, М. Касымава, Б. Шадурскі. Аператар — І. Рэмішэўскі.

14 красавіка адзначаюцца 75-ыя ўгодкі з дня нараджэння Веры Палтаран.

Творчая вечарына Алеся Ставера «Беларусь — Край натхнення паэтаў» збірае сяброў 19 красавіка.

Прагляд дакументальных фільмаў «Леў Сапега, канцлер» /аўтар сцэнарыя У. Мароз, рэжысёры Р. Ясінскі, В. Сукманаў, аператар С. Пятроўскі/ і «Успамін пра Міколу Равенскага» /аўтар сцэнарыя У. Мароз, рэжысёр М. Ждавоўскі, аператар С. Пятроўскі/ запланаваны на 21 красавіка.

Вечар памяці кампазітара Аляксандра Арэхава — 25 красавіка.

Згаданыя мерапрыемствы пачынаюцца ў 18 гадзін 30 мінут.

Секцыя перакладу збіраецца 14 красавіка а 15 гадзіне.

У гэты ж час, але 20 красавіка, пачынаецца пасяджэнне «круглага стала» «Родная літаратура. Новае ў школьным навучанні». Дакладчык — акадэмік Міхась Лазарук.

***Перад чытачом — новая «Анталогія беларускай паэзіі». Тры важкія тамы, кожны аб'ёмам за шэсць соцень старонак. Папярэдні трохтомнік выйшаў аж 33 гады назад, а з таго часу вельмі многае перамянілася ў жыцці і мастацтве. Выпуск у свет «Анталогіі...» 1993 года — гэта і культурная, і мастацкая, і, калі хочаце, палітычная акцыя. Пэўны час ад дзён выдання мінуў, і, думаецца, чытаючыя людзі на Беларусі ўжо склалі аб трохтомніку сваё меркаванне. Таму, не прэтэндуючы на універсальнасць і валоданне ісцінай «у апошняй інстанцыі», выкажу колькі думак аб з'яве, безумоўна, прыкметнай у нашым літаратурным жыцці.***

Вінцук КАВАЛЕНКА

# ЛЁС НАРОДА — ЛЁС ЧАЛАВЕКА

Прыкметнасць гэта найперш у колькасці паэтычных імён, што прапануюць нам рэдактары і ўкладальнікі анталогіі. Дарэчы, ужо адзін пералік прозвішчаў навукоўцаў і паэтаў, што працавалі над выданнем, проста вымушае чытача чакаць ад яго высокапрафесійнага, акадэмічнага ўзроўню: Р. Барадулін, Н. Гілевіч, В. Зуёнак, П. Панчанка, М. Танк, А. Лойка, У. Гніламёдаў. І чаканні гэтыя ў значнай ступені апраўдаліся. Так разнастайна гісторыя айчыннай паэзіі да XX стагоддзя яшчэ не была прадстаўлена: Г. Цамблак, А. Рымша, Л. Мамоніч, К. Філалет, Віталій, А. Мужылоўскі, С. Собаль, І. Труцэвіч, І. Палоўка, А. Белабоцкі... Многія імёны ў лепшым выпадку былі знаёмы чытачу па спецыяльнай навуковай літаратуры. Вядомых жа аўтараў складальнікі, як правіла, імкнуцца падаць больш поўна, чым у 1961 годзе, — так з С. Полацкім, Г. Леўчыкам і іншымі. У сваёй прадмове пад назвай «Лёс народа — лёс паэзіі» да выдання Н. Гілевіч сціпла напісаў, што яна можа здзівіць «людзей, маладасведчаных у гісторыі беларускай культуры». Каб гэта было так! Мяркуем, што, прынамсі, першы том можа ўразіць і студэнтаў-філолагаў, і аспірантаў, і некаторых прафесійных літаратараў.

Трэба заўважыць, што пры вялікім «ахопе» матэрыялаў, маючых дачыненне да літаратуры, многія з іх носяць хутчэй пазнавальную, чым эстэтычную значнасць. Гэта тычыцца «прысвячэнняў» С. Собаля /«На герб их милостей панов Стеткевичов»/, І. Палоўкі /«На стародавный и пресветлый герб ясневелможных их милостей панов Могилов»/, І. Труцэвіча /«На старожитный герб их милостей панов Горбацких епикграмма»/. Тое ж сустракаем і ў 2-м томе. Цікава, скажам, сустрэць творы А. Смаленца, але тое, што засталося ад яго спадчыны, наўрад ці дазволіць яму заняць пачэснае месца ў гісторыі айчыннай паэзіі. Ізноў-такі несправядлівасць лёсу. Па тым нямногім, што засталося ад спадчыны асобных паэтаў, бачыш, чаго пазбаўлены наш сучаснік.

Зазначым адразу: складальнікі «Анталогіі» зрабілі тое, што даўно трэба было зрабіць: рашуча ўключылі ў яе прозвішчы тых дзеячаў культуры і асветы, што належалі не толькі Беларусі, а таму прыналежнасць іх да гісторыі айчыннай літаратуры часам аспрэчвалася. Як быццам той жа Сімяон Полацкі з-за таго, што выхоўваў дзяцей рускага цара, пераставаў быць беларусам! Мусіць, меў рацыю У. Караткевіч, калі горка іранізаваў, што ад сваёй вялікай беднасці беларусы аддаюць сваіх геніяў іншым народам...

Тое ж — з так званымі беларуска-польскімі пісьменнікамі: Янам Баршчэўскім, Аляксандрам Рыпінскім. Пачынальнікаў не тое што не заўважалі, але да апошняга часу неяк асцерагаліся друкаваць — хто яго ведае, наколькі яны беларускія?

Яшчэ адна, ці не самая важная станоўчая якасць выдання: літаратура паказана **як працэс**. Ад самых пачаткаў — ад «Слова...», якое так многа гаворыць беларусу, — і да нашых дзён. Менавіта на такое прачытанне «Анталогіі» арыентуе нас уступны артыкул Н. Гілевіча, у якім прасочваецца рух беларускай паэтычнай думкі на фоне жыцця краіны. Нялёгкім было /і застаецца!/ гэта жыццё, а таму і лёс нашай паэзіі аказаўся надзвычай трагічным. Па-першае, гэта «правалы» ў развіцці, якіх, бадай, не зведала ніякая іншая нацыянальная літаратура — ад XIII да XV стагоддзя, ад XVII да XIX. Паланізацыя, русіфікацыя — усяго гэтага хапіла б, каб збіць з ног і больш развітую славеснасць. А 30-ыя, 50-ыя гады нашага веку — што гэта, як не «белыя плямы», за якія мы павінны «дзякаваць» таталітарны рэжым?

Па-другое, лёс многіх і многіх беларускіх паэтаў. Міжволі, гартаючы тамы «Анталогіі», задумваешся аб злым Коне, што з-за пляча сек самае лепшае ў нашай культуры. П. Багрым, М. Багдановіч, У. Караткевіч... Зорка Палын ззяе над гісторыяй беларускай паэзіі!

Так, шлях нацыянальнай літаратуры быў пакручасты і няроўны. Гэта не паслядоўны і паступовы рух наперад, як гэта было ў больш шчаслівых літаратур, а раптоўныя скачкі, прастоі і нават адыходы назад. Многія з'явы ў культурным жыцці краіны цяжка ацаніць адназначна. Чым з'явілася для Беларусі яе далучэнне да Расіі ў канцы XVIII стагоддзя? Збаўленнем ад польскага гнёту ці пачаткам новага, больш жорсткага нацыянальна-сацыяльнага ўціску? Калі пачынаецца **новая** беларуская літаратура — з XIX ці з XX стагоддзя? Н. Гілевіч лічыць, што з XIX-га, але, на наш погляд, сапраўдная мастацкая літаратура пачынаецца толькі тады, калі ў ёй узнікае чалавек, калі ідэя творчасці зліваецца з асобай у адно цэлае. З гэтага пункту гледжання ля вытокаў Адраджэння стаялі Купала, Багдановіч, Колас, Бядуля, Гарун. Выклікае пярэчанні ва ўступным артыкуле і схема «ад рамантызму да рэалізму», якая звыкла накладваецца на шлях развіцця літаратуры пачатку XX стагоддзя. Думаецца, усё было куды складаней. Не ў «ізмах» справа, ды і ці трэба лічыць рэалізм найвышэйшым дасягненнем мастацкага слова, тым больш паэтычнага? На наш погляд, лепшым доказам адваротнага служаць прасякнутыя рамантычнасцю радкі цудоўнага верша самога Н. Гілевіча:

...А я лягу-прылягу
Край гасцінца старога,
Галавой на пагорак,
На высокі курган,
А стамлёныя рукі
Вольна ўшыркі раскіну,
А нагамі ў даліну —
Хай накрые туман...

Не падыходзіць да згаданай канцэпцыі і творчасць класікаў беларускага Адраджэння: Купалы, Коласа, Багдановіча.

Што датычыцца Коласа, то тут асаблівых праблем не ўзнікае. Ужо з пачатку творчай дзейнасці яго цягнула да апавядальнасці, да рэалістычнай эпічнасці, што не выключае існаванне ў спадчыне вялікага пісьменніка праўдзівых лірычных шэдэўраў. Падспудная лірычнасць беларускага мастака добра адчуваецца ў падабраных для «Анталогіі» вершах. Тут і «Усход сонца», і «Адлёт журавлёў», і «Ручэй», і тое, што ў падручніках імянуецца «лірычнымі адступленнямі» з «Новай зямлі»:

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасць мая!
Што маё сэрца да вас парывае?
Чым так прыкованы я

К вам, мае ўзгорачкі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя смутку і жальбы нядолі,
Поўныя сумнай красы?

Купала ж у «Анталогіі» чамусьці выглядае як паэт амаль выключна грамадзянскай тэматыкі. Укладальнікі тут пайшлі па шляху актыўнай публікацыі раней забароненых твораў. «Удзельная вага» іх досыць вялікая: многія купалаўскія вершы, змешчаныя ў трохтомніку, не ўвайшлі ў вядомы сямітомны Збор твораў. Што ж, вельмі добра, што шырокі чытач пазнаёміцца з малавядомым Купалам, даведаецца, што і ў другой палове 20-х паэт мужна адстойваў ідэю нацыянальнай незалежнасці Бацькаўшчыны — доказам таму будуць такія вершы, як «Акоў паломаных жандар» ці «Ёсць жа яшчэ...» І нават у «дазволеных» да перавыдання ў 70-х творах ён меў мужнасць сказаць аб сваім, набалелым:

І засумуецца патомак,
Калі дазнаецца аб нас,
Што нейкі з нас хоць быў не зломак,
А плечы гнуў у крук не раз...

/«І прыйдзе», 1926 года/

Што і гаварыць, гучыць надзвычай надзённа. І ўсё ж грамадзянская лірыка — толькі адна з граней усеабдымнага купалаўскага генія. І як нам здаецца, не самая лепшая. Ужо даводзілася пісаць /і менавіта ў «ЛіМе»/, што забароненыя ў свой час вершы паэта, хаця і вабяць сёння свежасцю і надзённасцю тэматыкі, але з мастацкага боку ім уласцівы ўсе недахопы «палітычнай лірыкі» — рытарычнасць і мноства літаратурных штампаў: «Звоны путаў», «крывавы грош», «раз'юшаныя сатрапы» і г. д. Дык ці трэба ад «пачэснага звання» «рэвалюцыйнага дэмакрата» цягнуць пісьменніка на новую пасаду «нацыянал-камуніста» /па выразу С. Станкевіча/? Зразумела, што нельга было абысці «Мужыка», з якога пачынаўся Купала, «А хто там ідзе?», «Спадчыну», «Беларускім партызанам», як твораў хрэстаматыйных. Але ці не пара рашуча адмовіцца ад «ілжэкласічных» вершаў накшталт «Арлянятам» і «Алесі», штучна ўзнёслых і экзальтаваных? Чаму б замест іх не ўключыць у зборнік «Прарока», «Вячэрнюю малітву», «Чалавеку» — творы па-філасофску глыбокія і мастацка дасканалыя, скіраваныя на спасціжэнне жыцця асобы, чалавечай душы?

І яшчэ. Практычна «за кадрам» застаўся надзвычайна багаты і разнастайны міфалагічны свет Купалы, якому ён надаваў велізарнае значэнне.

Тое ж адбылося і з «язычніцкім» светам М. Багдановіча. У «Анталогію» не ўвайшло ніводнага верша з цыкла «У зачараваным царстве», якім адкрываецца яго адзіны прыжыццёвы зборнік /нагадаем, што для паэта было вельмі важным размяшчэнне цыклаў у «Вянку», іх унутраная ўзаемасувязь/. І таксама нельга не заўважыць, што філасофія і эстэтыка Багдановіча напрасткі звязаны з нацыянальнай міфалогіяй. На жаль, не знайшлося месца і для вершаў цыкла «Каханне і смерць», якім паэт меркаваў **завяршыць** свой зборнік, — цыкла экзістэнцыяльнага, эмацыянальна насычанага.

«Не пашанцавала» /зрэшты, як і заўсёды/ Змітраку Бядулю. Яго наогул часта /і, як нам здаецца, зусім памылкова/ залічваюць у «другі эшалон» нашай паэзіі. Гэта павялося яшчэ з 20-х, калі сталі пісаць аб «небеларускасці» яго паэтычнай творчасці. Невядома, што мелі на ўвазе даследчыкі — ці то нацыянальнасць Бядулі /цікава было б, калі на гэтай падставе нашы суседзі адмовіліся б, скажам, ад Мандэльштама/, ці то яго вельмі своеасаблівую творчую індывідуальнасць, непадобнасць на іншых. У выніку і сёння цікавы пісьменнік застаецца для многіх аўтарам «Салаўя» і «Сярэбранай табакеркі». Баімся, што «Анталогія» не пераканае чытача ў іншым. Мяркуем, што замест напаўвучнёўскіх вершаў Бядулі 1909—11 гадоў можна было б знайсці больш сталыя і цікавыя: «Дазволь...», «Сухавеі», «Сэрца прарока» і іншыя. Няма цудоўных вершаў у прозе, такіх, як «Кветка», «Спатканне». Нарэшце забароненыя творы прадстаўлены толькі вершам «Званы». Між тым у вядомы пяцітомны Збор твораў /1985—89/ увайшла добра калі палова паэтычнай спадчыны пісьменніка і асабліва мала — з напісанага ў 1917—20 гады. І гэта была не толькі «палітычная» лірыка, але і творы багатага філасофска-лірычнага гучання /«На біблейны лад», «На Галгофе», «Каменны Бог», «Харству» і многія іншыя/.

Старая хвароба беларускай крытыкі — «няласка» да ўсяго індывідуальнага, няўвага да асобы, чалавека ў літаратуры. Таму і дбалі аб «блізкасці да народу», а пасля — аб «партыйнасці». Аддадзім належнае рэдактарам і ўкладальнікам «Анталогіі» — яны з гэтай хваробай змагаюцца. Другі том, як і ў выданні 1961 года, адкрываецца падборкай са спадчыны М. Чарота. Але «ўракамуністычных» «Босых на вогнішчы» мы

*«Анталогія беларускай паэзіі». У 3 тамах. Мн., «Мастацкая літаратура», 1993.*

ўжо ў ёй не знойдзем. Наадварот, прачытаем цудоўную лірычную мініяцюру «Сенажаці і полі аснежаны»:

**Дзеці пальцамі шыбы з узорамі**
**Размалёўваюць, тулячы плечы.**
**Згорнуць у жменю сняжыначкі-зоры**
**І бягуць пасмактаць у запеччы.**

Вось як, аказваецца, можна было пісаць і ў «штармавых» дваццатых! Вельмі добра, калі ў нізцы вершаў П. Броўкі замест «зарубежнай» лірыкі і «Дэкрэта Леніна» з'яўляюцца «Александрына» і «Пахне чабор». Ці ў А. Звонака «Цень Ефрасінні» замест «Нас партыя вядзе». Такія прыклады можна было б множыць, але ўсё ж адзін «партыйны» твор у якасці павучання для нашчадкаў трэба было пакінуць — «Дзяржаўны гімн БССР» М. Клімковіча. Памятаеце, той самы, дзе аўтар ужо ў першым радку спяшаецца выказаць свае «верноподданические» пачуцці, потым паспешліва пералічвае неабходную атрыбутыку /Ленін, партыя/ і толькі напрыканцы ўспамінае пра «ўвесь беларускі народ».

У другім томе «Анталогіі» з'явіліся імёны паэтаў з цікавым, складаным і трагічным жыццёвым шляхам: М. Арла, М. Краўцова /аўтара беларускага адраджэнскага гімна/, А. Смаленца, А. Салаўя. Ёсць творы высокай эстэтычнай значнасці — вершы Н. Арсенневай, Л. Геніюш. Часам натрапім на праўдзівыя адкрыцці. Здзіўляе свежасцю і вастрынёю паэтычнага зроку «Верасніёвае пано» І. Канчэўскага:

**Ў Барнардынскай прысадзе**
**шапочуць пажоўклыя лісці,**
**Ледзь прыкметны на сцежках**
**бліскучыя шкуркі каштанаў,**
**І вада у Вяленцы ад зімна**
**сіней і празрысцей,**
**Гаманіць з камянём аб працекшых**
**гадох без устану...**
**...І выходзіць між дрэў,**
**ў патаемную вечара пору,**
**Князь апошні Літвы,**
**ў хвалях гаснучых зыбкага свету,**
**З барадой кучаравай —**
**даспелых каштанаў калёру,**
**Са струсёвым пяром, што, як воблак,**
**пад чорным берэтам...**

Напеўнасць /на жаль, пры перадруку ў вершы засталіся некаторыя памылкі, скажаючыя яго рытміку; у гэтым урыўку мы імкнуліся іх паправіць/, дасканаласць і празрыстасць вобраза, вастрыня паэтычнага зроку нагадваюць М. Багдановіча, яго «Летапісца», «Перапісчыка». І памёр Канчэўскі, як і Багдановіч, у 26 і таксама ад сухот... А яшчэ засталася цікавая філасофска-публіцыстычная спадчына пісьменніка, якая патрабуе сучаснага даследавання.

Хай не крыўдуюць аматары паэзіі прызнаных майстроў — М. Танка, А. Куляшова, П. Броўкі, П. Глебкі, А. Звонака, М. Лужаніна, А. Зарыцкага, — але ў першую чаргу звяртаюць на сябе ўвагу такія вось прыемныя нечаканасці, імёны, што ўвайшлі ў літаратурны ўжытак зусім нядаўна: Н. Арсеннева, М. Сяднёў, Зоська Верас. Дзеля апошняй паэткі прыйшлося нават парушыць агульную кампазіцыю выдання — трэба сказаць, што «Анталогія» пабудавана па храналагічным прынцыпе, дзе рашаючае значэнне меў год нараджэння пісьменніка. Зроблена гэта было, мабыць, для таго, каб не пакрыўдзіць сучасных паэтаў рознага ўзросту, змясціўшы іх творы ў самым канцы.

Пераходзячы да аналізу сучаснай паэзіі, адзначым адразу, што яна прадстаўлена ў трохтомніку надзвычай шырока. Гэта і зразумела, і апраўдана: сёння ў Беларусі суіснуюць аж тры паэтычныя пакаленні. Прадстаўнікі старэйшага з іх — П. Панчанка, Максім Танк, А. Вялюгін, П. Прыходзька, А. Марціновіч — пачыналі яшчэ да Вялікай Айчыннай. Па сталасці і ўзроўні паэтычнага майстэрства да «старэйшын» беларускай лірыкі трэба аднесці Р. Барадуліна, А. Вярцінскага, Н. Гілевіча, Г. Бураўкіна, А. Лойку. Побач з імі стаяць тыя, каго ўжо няма, хто пайшоў ад нас заўчасна /Хаця хто ж з паэтаў адыходзіць «у час»?/: Е. Лось, У. Караткевіч, С. Гаўрусёў, М. Стральцоў... Па-рознаму яны прыходзілі ў літаратуру, але для ўсіх гэтых майстроў характэрна тое, што сапраўдны росквіт іх творчасці прыпаў на «адліжныя» 60-ыя. Гэтыя ж гады сталі стартавай пляцоўкай сярэдняга пакалення: К. Камейшы, В. Іпатавай, С. Панізніка, У. Някляева, А. Разанава. Тут можна казаць аб пэўнай драматычнасці іх лёсу, бо гады паэтычнага росквіту прыпалі на безаблічныя сямідзесятыя — васьмідзесятыя, калі не толькі цяжка тварылася, але і дыхалася. Можа, таму агульнае ўражанне ад паэзіі сярэдняга пакалення /хаця і не ўсе з гэтым пагодзяцца/ — нейкі падспудны смутак і самота. Гэтага не ведае /ці амаль не ведае/ пакаленне, што прыйшло ў літаратуру ў апошнія гады, у часы адноснай свабоды мастацкай думкі і слова: С. Сокалаў-Воюш, А. Глобус, Л. Дранько-Майсюк, А. Сыс, І. Багдановіч.

Зразумела, што ў падзеле сучасных паэтаў на тры /не на дзве, не на чатыры/ групы ёсць пэўная ўмоўнасць. Заўсёды адчуваеш нейкую няёмкасць, калі такую тонкую рэч, як літаратура, імкнешся ўціснуць у нейкія акрэсленыя рамкі. Але, як мне здаецца, менавіта тры ўзросты, тры пакаленні вызначаюць сёння шляхі развіцця беларускай паэзіі. Здаецца, спалучэнне сталай мудрасці старэйшых, жыццёвага вопыту і майстэрства 40—50-гадовых і імпэт і максімалізм маладых павінны былі б даць цудоўны вынік. Можа быць, гэта і занадта суб'ектыўна, але, думаецца, няма падстаў гаварыць аб нейкіх новых працэсах у айчыннай лірыцы. На першы погляд парадокс: не такое ўжо і істотнае «паслабленне» таталітарызму ў 60-х дало надзвычай моцны пад'ём літаратуры — і ў першую чаргу паэзіі! — ледзь не ва ўсіх рэспубліках былой савецкай дзяржавы. А ў 90-ыя, у часы куды большай свабоды, «новай хвалі» пакуль што не відаць. Тлумачэнні такой сітуацыі могуць быць наступнымі: па-першае, мастацтва ніколі не бывае напрамую звязана з жыццём, яно можа суадносіцца з ім вельмі апасродкавана, а можа нават гэтае самае жыццё адмаўляць. Па-другое, мы занадта часта выдаём жаданае за існуючае. Дэмакратыя, якую абвяшчаюць з высокіх трыбун, і дэмакратыя ў жыцці — зусім не адно і тое ж.

Да гэтага далучаюцца тыя хранічныя «хваробы», што як бы перадаюцца ў нашай паэзіі ад пакалення да пакалення.

Адна з заганаў сучаснай лірыкі — яе публіцыстычнасць. Адна справа — мець акрэсленую грамадзянскую пазіцыю і зусім іншае — ствараць рыфмаваныя газетныя перадавіцы і ўсур'ёз лічыць гэта паэтычнымі творамі. Яшчэ раз аддадзім належнае складальнікам «Анталогіі» — як правіла, палітычныя «аднадзёнкі» на яе старонкі не траплялі. Але што зробіш, калі «ўдзельная вага» такіх твораў у зборніках і ў перыёдыцы празмерна вялікая? Вось і трапляюцца радкі: «Калі сустракае улада гасцей, / Яна ўспамінае музыкаў, паэтаў...»; «...Праўду кажаш ты, браце мой, / Годзе / Нам саромецца роднае мовы»; «Дыназаўры-бульдозеры высмакчуць нафту густую»; / Здрыганýцца каўшы, экскаватары залямантуюць»...; «І знайшоў я там стрэльбу і штык. / І зрабіў я з іх скрыпку і смык...»

Нягледзячы на спробы маладзейшых эксперыментаваць з формай /А. Сыс/, вобразнасцю /«Кола» Л. Дранько-Майсюка прымушае ўспомніць гумілёўскі «Заблудзіўшы трамвай»/, пашыраць тэматыку /зварот да старажытнай міфалогіі, хаця і не без уплыву М. Багдановіча, у А. Мінкіна, «урбаністычныя» вершы С. Сокалава-Воюша/ агульнае ўражанне пакідае жадаць лепшага. Па-ранейшаму «вясковасць» для многіх — ледзь не сінонім «беларускасці». Ізноў сустракаем на старонках «Анталогіі», прысвечаных маладым, традыцыйныя вобразы, што павінны сімвалізаваць народны лад жыцця: «Збалела бабуля мілая...»; «Жыве старэнькая бабуля каля самых могілак...» і г. д. Яшчэ адна «рэптыльная» /выраз В. Быкава/ тэма: лірычны герой адчувае непазбыўную тугу па родным кутку /але пры гэтым чамусьці ўсё ж жыве ў горадзе/:

**Ты адбі мне тэлеграму,**
**Што у нашай старане**
**Ў ціхай вёсцы Белы Камень**
**Выпаў белы-белы снег.**

Зусім не зневажаючы «вясковую» тэматыку, усё ж адзначым, што патрэбна нешта большае, чым рэалістычныя і настальгічныя замалёўкі «пра вёску». І гэтае большае — у самавыяўленні, у асабістасці светаадчування. Яўна слабых вершаў у «Анталогіі» мала. Зрэдку натрапіш на твор, больш падобны на самапародыю: «Каханне наша, як пажар. /Але ніхто яго не тушыць...» Куды больш вершаў прафесійных, добра «зробленых», але — дзіўная справа! — пакідаючых чытача раўнадушным. Прачытаўшы іх, нельга сказаць, што ў душы «струны нейкія рваліся» /Бядуля/. Часам не толькі не рвуцца, але і ўвогуле не гучаць. Ясна, што менш за ўсё ў гэтым можна абвінавачваць рэдактараў і складальнікаў «Анталогіі» — яны імкнуліся даць самае лепшае, самае таленавітае /толькі вось часам грамадская і літаратурная актыўнасць у маладзейшых з поспехам замяняе працу за пісьмовым сталом/. Зазірнём яшчэ раз у трохтомнік 1961 года і з задавальненнем зазначым, што ўсе колішнія 30-гадовыя аўтары — У. Караткевіч і Р. Барадулін, А. Лойка і Г. Бураўкін, К. Цвірка, Хв. Жычка — сталі ў наш час прызнанымі майстрамі мастацкага слова. Пажадаем гэтага і сённяшнім маладым.

Завяршаючы размову аб «Анталогіі беларускай паэзіі» 1993 года, адзначым, что яна мае поўнае права заняць пачэснае месца на паліцах вучоных, даследчыкаў і аматараў роднай літаратуры і гісторыі. Зразумела, на базе выдання нельга «манаграфічна» вывучаць творчасць Купалы ці Гаруна, Караткевіча ці Танка. Мэта выпуску ў свет «Анталогіі» іншая, і яна, як нам здаецца, дасягнута. Перад намі — <u>шлях</u> айчыннай паэзіі ва ўсёй яго складанасці і супярэчлівасці. І шлях гэты, спадзяёмся, больш не будзе перарывацца, а, нягледзячы на ўсе існуючыя цяжкасці, будзе працягвацца — «усё ўперад — і вышэй!»

Анкета

***Задумваючы чарговае анкетаванне /анкеты «ЛіМа» — традыцыя даўняя/, мы мелі на мэце наступнае: даведацца пра грамадскі і творчы тонус нашых пісьменнікаў, пра іх задумы і планы, пра тое, у чым яшчэ рэалізуюць яны свае здольнасці, акрамя літаратуры. Г. зн. імкнуліся раскрыць іх ва ўсёй паўнаце асабовых праяў. Для гэтага былі прапанаваны наступныя пытанні:***

*1. ЦІ ПІШАЦЦА СЁННЯ, І, КАЛІ БЕЗ ПРЫМХАЎ, ТО ШТО ІМЕННА?*

*2. ЦІ ЎЗНІКАЛА ЖАДАННЕ ПЕРАГЛЕДЗЕЦЬ НАБЫТКІ, ПАМЯНЯЦЬ АРЫЕНЦІРЫ, ЗВЯРНУЦЦА ДА ІНШЫХ ТЭМ І ЖАНРАЎ?*

*3. СФЕРА ВАШЫХ ЖЫЦЦЁВЫХ ІНТАРЭСАЎ /ТАК ЗВАНАЕ ХОБІ/.*

***Цяжка сказаць наперад, наколькі здзейснілася задуманае, — пра гэта меркаваць чытачам. А пачынаем мы публікацыю анкеты адказамі вядомага празаіка, былога лімаўца Алеся Асіпенкі.***

# ЛІТАРАТУРА — ЖЫЦЦЁ

1. Ці пішацца сёння?..

«А чаму не павінна пісацца? — здзівіўся я. — Таму, што састарэў, што час цяпер цяжкі, ганарары мізэрныя, наклады малыя, не хапае паперы, фарбаў, магутнасцяў і наша бедная літаратура ўсё роўна не вытрымае канкурэнцыі з бульварнай літаратурай на рускай мове, што запаланіла кніжны рынак, — памрэ? Таму, як кажуць у народзе, не трачь, кум, сілы, апускайся на дно?»

Старасць — не перашкода для творчасці, хоць і не радасць. Што ж наконт цяжкасцей, дык сумленнаму пісьменніку заўсёды пісалася цяжка, а выдавацца-друкавацца было яшчэ цяжэй. А калі ён, крый божа, спрабаваў стварыць нешта не ў рэчышчы сацыялістычнага рэалізму, на яго навальвалася зграя рэдактараў, цэнзараў, крытыкаў, ідэалагічных дагматыкаў і проста пільных чытачоў. Нагадаю хоць бы лёсы Алеся Наўроцкага, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Андрэя Макаёнка, Алеся Разанава, Аляксея Карпюка, Аляксея Кулакоўскага, ды і сам я, паспрабаваўшы сысці з выслізганай дарогі бытавізму, атрымаў недазволены ўдар ніжэй пояса.

Пішацца або не пішацца, залежыць не ад дабрабыту пісьменніка, не ад стану эканомікі і палітычнай кан'юнктуры, а ад грамадзянскай спеласці творцы, чысціні яго намераў і таленту. Той, хто сядае за пісьмовы стол з думкамі аб золаце і славе, абражае пяро вечных пакутнікаў і донкіхотаў літаратуры, а яны і толькі яны з'яўляюцца рыцарамі і сейбітамі прыгожага пісьменства.

Мяркую, што для пісьменніка цяперашні час вельмі цікавы з усіх пунктаў гледжання. Звярніце ўвагу, якая цяпер пярэстасць думак і меркаванняў, нечаканасць узлётаў і крахаў, стварэнне новых міфаў і разбурэнне старых, якая раскаванасць у словах і разняволенасць у дзеяннях — увесь спектр гаманкога жыцця, чаго людзі не ведалі ад часоў рэвалюцыі. Мы ж усе думалі аднолькава, ва ўсякім разе думалі не як гаварылі, а гаварылі не тое, што думалі.

А якія персанажы ўзніклі на жыццёвых даляглядах сучаснасці! Ды Гогаль са Шчадрыным пазайздросцілі б нам, слухаючы, напрыклад, трансляцыі з пасяджэнняў Вярхоўнага Савета. Якое буянства фарбаў, якія тэмпераменты! А якая мова! Мешаніна ніжагародскай з заходнебеларускай! А якая раскаванасць! З трыбуны гавораць пра трагедыю беларускага народа, а яго «лепшыя сыны» ў гэты час ходзяць па зале, спяць, чытаюць газеты, весела смяюцца. А з другога боку, зірніце на герояў нашага дзікага рынку. Ды яны варты пяра такіх геніяў літаратуры, як Бальзак, Заля, Дастаеўскі. Бедалага Раскольнікаў — усяго бледны іх цень, а Смердзякоў — хлапчук, якога зацюкала асяроддзе.

Як жа можа не пісацца, калі героі самі лезуць у творы. Толькі не ляянуйся, малюй!..

Што датычыць другой паловы пытання, то хачу запэўніць, што прымхаў я не баюся, а вось літаратурных марадзёраў асцерагаюся. Таму адказваю дужа каротка. Рыхтую кнігу, у якую мяркую ўключыць дзве ці нават тры аповесці, апавяданні, якія пераважна друкаваліся ў «ЛіМе», і яшчэ апавяданні з цыкла «Курортны блюз», якія амаль не друкаваліся. Справа, безумоўна, няпэўная. Але нічога! У бога дзён многа. Спадзяюся, што напісанае не прападзе і будзе некалі выдадзена.

Галоўны ж мой клопат — раман «Дараванне грахоў». У ім я хачу зазірнуць пад маскі сучаснікаў, паказаць, хто ёсць хто. Пакуль пішу і бракую напісанае. Зноў і зноў перапісваю.

2. Ці ўзнікла жаданне перагледзець набыткі?..

У прадмове да перавыдання рамана «Марсельскія тайны» Эміль Заля выказаў думку, якая здаецца мне і надзённай і слушнай.

«Я намераны абвергнуць адну з небыліц, якія распаўсюджваюцца на мой адрас. Людская пагалоска сцвярджае, быццам мне даводзіцца чырванець за свае раннія творы... Я заўсёды пісаў тое, што думаў, заўсёды гаварыў тое, што лічыў сваім абавязкам гаварыць, і мне няма патрэбы адмаўляцца ні ад сваіх твораў, ні ад сваіх поглядаў».

Сапраўды, чаму пісьменнік павінен пераглядаць набыткі, а значыць і адмаўляцца ад сваіх твораў? Усякі ж перагляд сваёй творчасці — ёсць не проста яе рэвізія, але і непазбежная ампутацыя здаровага, хоць і нялёгкага жыцця. А калі ты памыліўся, калі табе здалося, што гэтая частка хворая, тады як быць? Гісторыя літаратуры стракаціць прыкладамі, калі зацюканыя творы і іх аўтары праз нейкі час набывалі вагу і сэнс пры другіх абставінах.

Я не магу адмовіцца ад сваёй няспелай, груваасткай аповесці «Паплавы». Чаму? Ды таму, што ў ёй я паспрабаваў гаварыць пра тое, што цяпер называецца экалогіяй, а я тады называў гэта абаронай зямлі ад валюнтарызму чалавечай дзейнасці. Цяпер бы я напісаў тое ж іначай. Але я не стану перарабляць аповесць, правіць яе з вышыні набытага вопыту. Яна — кавалак майго жыцця, маёй тагачаснай свядомасці, нарэшце яна — мая асабістая гісторыя...

Што датычыць змены арыенціраў, дык асабіста я стаўлюся да яе з асцярогай. Па-першае, арыенціры найчасцей мяняюць тыя, хто іх не мае. Па-другое, усякая змена арыенціраў, а яна заўсёды мае палітычную афарбоўку, з'яўляецца ні чым іншым, як канфармізмам, прыстасаваннем да рэжымаў і новых умоў. Па-трэцяе, змена арыенціраў у нашых умовах нагадвае мне аперэтачны канфармізм, як у аперэце «Вяселле ў Малінаўцы», дзе сцягі на хатах мянялі ў залежнасці ад таго, якая ўлада за ноч устанаўлівалася ў сяле.

Пісьменнік, лічу я, павінен усё ж быць вышэй партый з іх вузкапрактычнымі інтарэсамі — захоп улады — і зачумленай ідэалогіяй, якая імкнецца тэарэтычна абгрунтаваць партыйныя захады па захопе ўлады. Партыі, як бы яны тое ні хавалі, хварэюць на адну і тую ж хваробу — прадузятасць. Вось што пісаў Альберт Эйнштэйн аб прадузятасці такіх філосафаў, як Мах і Отсвальд: «... філасофскія прадузятасці замінаюць правільнай інтэрпрэтацыі фактаў нават вучоным са смелым мысленнем і з тонкай інтуіцыяй». Што ўжо гаварыць пра партыйную ідэалогію і партыйных ідэолагаў, якія не цярпяць іншых ідэалогій.

Не, я не адмаўляю пісьменніку на права састаяць у нейкай партыі — камуністычнай, сацыялістычнай, ліберальна-дэмакратычнай, хрысціянскай ці манархічнай. Гэта справа асабістая. Але я перакананы, што пісьменнік /калі ён становіцца членам нейкай партыі не з кан'юнктурных меркаванняў/ становіцца рупарам партыі, звычайным пласкацікам, чалавекам, які жыве ў двухмернай прасторы — лева-права — ды яшчэ бачыць толькі дзве фарбы: белую для сваёй партыі, чорную — для ўсіх астатніх. А гэта ўжо чалавечая трагедыя, якая, аднак, пласкацікам недасяжна.

З нагоды звароту да новых тэм і жанраў, мушу зазначыць, што кожны новы твор пісьменніка — новая тэма. Васіль Быкаў зусім не пісьменнік адной тэмы — ваеннай. Кожны яго твор — новая, арыгінальная тэма.

А наконт звароту да іншых жанраў: не, не збіраюся.

3.

Не люблю слова «хобі». Ёсць жа нашы адвечна беларускія словы: «захапленне», «любімы занятак». Мяркую, што «хобі» не адэкватна «жыццёваму інтарэсу».

Некалі Андрэй Макаёнак жартаваў наконт хобі: «Маё хобі — рэдактарства, а захапленне — літаратура».

Сапраўды, літаратурная творчасць — і абавязак, і жыццёвы інтарэс, і любімы занятак, і захапленне. Усё і адразу! Асабліва цяпер, напрыканцы жыцця, бо і так згублена безліч дарагога часу на пустыя сядзелкі, нарады, сходы і іншую жыцейскую дробязь.

Літаратура — жыццё.

**Алесь АСІПЕНКА**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## «У АЛЕСЯ ПА ПЯТНІЦАХ»

раз у месяц пачалі збірацца гомельскія пісьменнікі і аматары літаратуры. Малады паэт, прызнаны не толькі ў родным горадзе, але і ў былым Саюзе эквілібрыст Алесь Шэліпаў — вялікі сябра мясцовых літаратараў — прапанаваў: калі ласка да мяне на агеньчык, творцы! Творцы адгукнуліся. І як было не адгукнуцца, калі справа і сапраўды цікавая — збірацца разам, каб бліжэй пазнаёміцца за кубкам кавы, абмеркаваць новыя творы калег, параіцца, як жыць-тварыць далей.

На першай сустрэчы «У Алеся» ў цэнтры ўвагі быў паэт Юрый Фатнеў, аўтар шматлікіх зборнікаў вершаў, што выдаваліся ў Алма-Аце, Маскве, Мінску і Туле. Раней калегі ведалі яго толькі як паэта, а «пятніца» дазволіла бліжэй пазнаёміцца з Фатневым і як з чалавекам, даведацца, што сёння на ягоным рабочым стале. Аказваецца, у апошні час Юры Сяргеевіч напісаў некалькі гістарычных раманаў, а вось выдаўцоў пакуль знайсці не можа, хоць творы маюць станоўчыя рэцэнзіі, асобныя з іх стаялі нават у выдавецкіх планах, але так і не пабачылі свету. Прычына — банальная: няма паперы, няма сродкаў, няма... Няма пакуль у чытачоў і цікавых раманаў.

Ю. Фатнеў прачытаў свае новыя вершы, адказаў на пытанні, якія па-сяброўску падсыпалі яму адказны сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Васіль Ткачоў, празаік Анатоль Бароўскі, аматары літаратуры Уладзімір Казілец і Змітро Міхайлоўскі.

«У Алеся па пятніцах» бліжэй пазнаёмяцца паміж сабой не толькі гомельскія пісьменнікі і прыхільнікі іх творчасці, але і людзі іншых творчых прафесій: мастакі, акцёры...

В. БАРХАНАЎ

## «МАЛАДЗІЧОК» — МАЛЕНЬКІМ...

Вытворча-выдавецкае прадпрыемства «Маладзічок» вырашыла парадаваць хлопчыкаў і дзяўчынак серыяй кніжак-расфарбовак. Першая з іх «Беларускія ўборы» /мастак А. Карповіч/ толькі што выйшла з друку.

Што гэта за выданне, відаць са звароту да малых: «Мой юны сябар! Ты нарадзіўся ў Беларусі. Гэта цудоўная зямля, дзе многа рэк, лясоў, азёр. Тут жывуць прыгожыя, працавітыя людзі. Багатая гісторыя нашага краю. Хутка ты падрасцеш і сам упэўнішся ў гэтым. Сёння ж мы пастараемся крышку дапамагчы табе. Перагарнуўшы старонкі гэтай кніжкі, ты даведаешся, як апраналіся дзяўчынкі і жанчыны ў розных кутках сінявокай Беларусі шмат гадоў назад. Ты зможаш і сам паўдзельнічаць у тым, што стагоддзямі стваралася рукамі продкаў».

На падыходзе кніжка, якая пазнаёміць са старадаўняй беларускай апраткай хлопчыкаў і мужчын.

## ЧАРГОВАЯ КНІЖКА Ў «БІБЛІЯТЭЦЫ...»

Часопіс «Маладосць» працягвае адкрываць маладых аўтараў. Як на сваіх старонках, так і ў «Бібліятэцы...». Гэтым разам выйшаў зборнік прозы Алеся Ветаха «Ружовая зні́чка» /другі ў сёлетнім годзе/. Акрамя аднайменнага апавядання, кніжку склалі і іншыя творы «малога» жанру — «Рэліквія», «Жывём аднойчы», «У ранішнім сутонні», «Сустрэчы з нябожчыкамі», а таксама аповесць «Не пакідай, надзея».

Малады аўтар так вызначае сваё крэда: «Кожны твор нараджаецца з патрэбы выказаць той уласны стан душы, які хоць у нечым сугучны іншаму чалавеку».

Такі ён, Алесь Ветах... Ветах — у прозе, а ў крытыцы і літаратуразнаўстве ён выступае пад сваім уласным прозвішчам — Бельскі. Гэтае імя добра вядома лімаўскаму чытачу.

## УРОК ЛЁСУ...

Чарговы з адраджэнскіх урокаў, што праводзяцца па ініцыятыве выдавецтва «Мастацкая літаратура» і рэдакцыі «Настаўніцкай газеты», прайшоў у мінскай сярэдняй школе N 11. Гэтым разам вучні і настаўнікі мелі магчымасць бліжэй пазнаёміцца з унікальнай кнігай — «Споведдзю» Ларысы Геніюш.

Як вядома, Ларыса Антонаўна пісала яе не разлічваючы, што рукапіс калі-небудзь убачыць свет. Сама яна так і не дачакалася публікацыі, а рукапіс захаваў вядомы археолаг М. Чарняўскі. Ён і прапанаваў яго часопісу «Маладосць», які і апублікаваў яе ў 1990 годзе.

А кніга выпушчана «Мастацкай літаратурай» летась.

Пра гэта і гаварылі на ўроку нязломнага лёсу М. Мятліцкі, У. Рубанаў і Г. Шупенька. На сустрэчы ў выкананні школьнікаў прагучалі творы Л. Геніюш.

Паэзія

Віктар ЯРАЦ



# ПАД НЕБАМ СУСТРЭЧ І РАССТАННЯЎ

## ЯК ВОДГАЛАС ВЯКОЎ...

Каменьчык з кручы кінеш у Дняпро —
паверхня ледзь разыдзецца кругамі,
як водгалас вякоў, што адплылі даўно
маруднымі калодамі-самамі.
Сарвеш травіну ля сцяжыны той,
што пратаптана да цябе задоўга, —
і ў слых увойдзе гул вады марской,
шырокай — ад Дняпра да самай Волгі.
Мінуўшчына — кляні яе ці ўзнось
хвальбою да нябёс — сваё сказала;
сваю цяплынь і разам з ёй мароз
яна забрала ў славе і няславе.
Але і нам пакінуты даўно
сляды не толькі знакаў надмагільных:
і жвір парой пячэ, нібы агонь,
якім чаўны, як вепрукоў, смалілі.
І з даўніны стагоддзяў, бы з віроў,
дыхне ў спякоту летняю часінай
нам невядомай свежасцю дуброў,
дзе тоне ў пушчах зычны рык зубрыны...

## ПЫЛ

На маёй радзіме пыл — не сляпы.
На маёй радзіме пыл — не глухі.
На маёй радзіме пыл — не нямы.

На мяне — трывушчы — пазірае ён
погляды відушчым адзвінелых дзён.

Слухае і ў промнях і ў глухой начы:
нашы словы сёння пра каго, аб чым?

Галасам адвечным — зразумей яго —
раніць слых і лечыць з ласкай і тугой.

## АКРАВЕРШ

Апякае скроні не свяціла —
тое, што не гасне ў вышыні,
а зямнога прыцягнення сіла —
моцная і ў атамныя дні.

## ЗАЦЯТЫЯ ЗМАГАРЫ

Апантаныя прагаю велічы
і нудой па імперскіх багах
заклікаюць, гісторыю цвелячы,
ачарніць нашай веры сцяг.
Наша слова гатовы арканамі
зацягнуць у магільны друз.
Раяць стаць зноў без роду іванамі:
— На фига нам твоя Белорусь!
Спіць сумленне хімічнымі сопкамі.
Янычарства квітнее ўраджай.
Даспадобы ім бульбачка сопкая
і маўклівай цярплівасці край.
— Нам побольше б
огурчиков с водочкой,
пожирней, понаваристей щей.
Ну а мова твоя нам зачем?
Разве плавает в ней селёдочка?
Завіхаюцца — ды з ліставачкай.
Распінаюцца — ды з трыбун.
Камень цяжкі за пазухай тоячы,
пад сябе, як раней, грабуць.

●

Зямны анёл — душа.
І ў век прагрэсу,
ёй на зямлі патрэбна неба ўсё ж,
як яблыні, і коласу, і лесу
патрэбны ў спёку ратавальны дождж.
Па зорах і па светлых аблачынах
як толькі засумуецца душа —
імчым на матацыклах і машынах
/кюветы ледзь відны на віражах/.
Гарачыя астуджваючы скроні
сустрэчным ветрам, як трава, густым,
ляцім ад сцен бетонных, бы з няволі,
глытаем выхлапны на трасах дым.
А недзе сярод поля, сярод лесу
спыняемся і слухаем душой —
заложніцай тэхнічнага прагрэсу, —
як неба ачышчае вышынёй.

## НА РАДЗІМЕ

А словы, што песціў, гадамі насіў
далёка ці блізка адгэтуль,
нібы растварыла нябесная сінь,
як ямы рачныя, адкрытыя ветру.

Галінкай бярозы, галінкай сасны
душа стаць гатова ў маўчанні,
хоць век запісаў ёй свае галасы
пад небам сустрэч і расстанняў.

●

За гарадской ускраінай марознаю
чыгункі кальцавое палатно.
І хмельныя тут ветры і цвярозыя
начных адхонаў будзяць снежны сон.

Рабочыя вагоны — строга графіку —
бягуць па рэйках ранішняй парой
між чорных дрэў,
што стынуць зімняй графікай,
дзе сок вясной бунтуе пад карой.

І гучна колаў галасы сустрэчныя
вятрам вандроўным прагнуць паўтараць
пра клопатныя справы чалавечыя,
што, як кальцо, нідзе не перарваць.

Як дзень ні завіхаецца-стараецца,
ды ўбачыць: змрок бярэ ў палон святло.
І зоркам, як абходчыкам, да раніцы
чыгункі праслухоўваць палатно.

●

Расстацца — больш не сустракацца...
Дрыжэлі зоркі на рацэ.
Быў сведкам цвет начных акацый:
сляза сцякала па шчацэ.
Пара ісці...
Пра ўсё, здаецца,
перагаворана — і ўсё ж
чаму ж так гулка б'ецца сэрца,
як неспакойны ў бераг Сож?
Цябе праводжу і пакіну.
Рака ўздыхне чыёй віной?
...І апякуць пасля ўспаміны
Той — незабытаю — слязой.

## НОЧ ТВАЙГО СВЯТЛА

Ноч абняла зямлю сваімі снамі.
Зіма снягамі ўкрыла чорны дол.
Пра ўсе разлукі, што былі між намі,
нас не спытаў стары сасновы дом.

Тваё дыханне роўнае цяпер мне
да самага світання берагчы,
аж покуль ранак промні не паверне,
нібы ў замках усіх святліц ключы.

Завеі, не гудзіце каля вокан.
Яшчэ на вейках сон, як ціш галін,
Ці смольным сценам сніцца бор высокі,
з іглістай снег, марозных поўдняў стынь?

Ці сніцца ім жывіца залатая,
што прабівае тоўстую кару?
Твой сон вартую, нібы гавару
з далёкім днём, што ночы асвятляе.

●

Усё — ад мураша да вяршаліны
паранеяй сасны —
пакліча, страсянуўшы чад машынны,
далей ад мітусні.
Глядзі, нібыта іншапланецянін,
на гонкі ствол і цень,
сачы, як залатым бурштынам стане
жывы ў ствале прамень.
Разглядзь не толькі воблакі над лугам,
пух дзьмухаўцовых крон —
сляды траншэй, што йшлі, як боль,
ад Буга
да волжскіх нескароных сгром.
Працяты токам неўміручых сокаў
травіны і сасны,
не абміні падземны ўздых глыбокі
між быту і хлусні.

●

На мароз пунсавеюць нябёсы.
Караваны плывуць варання.
Хто прыдумаў, што смутак увосень
асядлае зямлю, як каня?

Хто сказаў, што з апошняй лістотай
заміраe душа, нібы гай?
У крыві, як у цёплых сотах,
незабыты разлігы май.

Тут, дзе мёду з мядовае грушы
напіліся прамень і пчала,
ліст павольна над сэрцам кружыць —
як працяг і любві, і святла.



Мал. Ул.СКРЫГАНАВА

Яўген КАРШУКОЎ



## МАНА

**Наслухаўся зашмат я плётак,**
**Якi быў мой далёкі продак:**
**Нікчэмны, цёмны і забіты...**
**Ды не! Быў продак самавіты,**
**Сумленны, мудры, працавіты.**
**Насіў ён горда галаву,**
**Любіў і Бога, і царкву,**
**Край шанаваў, сяброў не ганіў,**
**Цаніў цнатлівасць у каханні,**
**I непахіснасць у змаганні,**
**I дужасць браў ад родных ніў,**
**Якія мужна бараніў.**
**А плёткі... Плётак лёс такі:**
**Ім вераць, мабыць, прастакі.**

## НЕ ПА БІБЛІІ

**Ёсць кніга мудрая паводзін,**
**I гэта свет даўно зазначыў...**
**На жаль, з маіх сяброў ніводзін**
**Па ёй жыцця не перайначыў,**
**I ўжо бясспрэчна нам вядома,**
**Што нехта, з кім мы ў добрай дружбе,**
**Грашыць не толькі ў сябе дома,**
**Грашыць і на дзяржаўнай службе.**

**I як стрымаць тут абурэнне:**
**Той — услаўляе ўсе рэжымы,**
**Той — прадае сваё сумленне...**
**Ці ж не занадта ўжо грашым мы?!**

## ДЗІВАЦТВА

**Сёй-той падумае: дзівацтва**
**Успамінаць сваё юнацтва...**
**Які ўжо раз пачуеш зноўку**
**Пра ранак, луг, касу-літоўку,**
**Пра тое, як блішчалі росы**
**I беглі да ракі пракосы,**
**Як адчуваў сябе мужчынам**
**Зялёны дробненькі хлапчына,**
**I як балелі яго рукі,**
**Але ж касіў ён без прынукі,**
**Хоць побач чуўся голас строгі:**
**«Не спі, сынок, глядзі пад ногі...»**
**А пад нагамі — кветкі, кветкі...**
**Было ўсё гэта каля Веткі,**
**Там, дзе цярэбіць Сож дуброву.**
**Там — прыгажосць, паверце слову,**
**Такой не знойдзеш прыгажосці,**
**I тыя дні для сэрца — госці...**
**Калі ж расхітвала знямога,**
**Ішлі спачыць касцы да стога.**
**П'яніла маладое сена,**
**I засыналі ўсе імгненна.**
**А сонца — цалавала плёсы,**
**Сушыла свежыя пракосы.**
**...Якое мілае дзівацтва**
**Успамінаць сваё юнацтва!**

## ІСЦІНА

**Сказаць сабе, сябрам пара,**
**Вам, спадары пачцівыя:**
**Не вернем ісціну дабра —**
**Засмокча прагнасць хціваяя.**

**А там — нястача, жабракі...**
**Бывай, бывай, духоўнае!**
**Ці ж гэта лёс у нас такі —**
**Не бачыць, што галоўнае?**

## ХАРАКТАР

**Бясконцы бой, не просты бой**
**На вартасць: хто ты, што ты...**
**Змагаюцца паміж сабой**
**Дзве розныя істоты.**

**Адна з іх дзякуй кажа мне**
**За чуласць, чалавечнасць.**
**Другая з'едліва кляне**
**За мяккасць і сардэчнасць.**

**«Перш-наперш працай даражы», —**
**Я чую словы збоку.**
**А побач голас: «Не скажы,**
**Прасцей жыць абібоку!»**

**I зноў той голас не маўчыць,**
**Цяпер гучыць лісліва:**
**«I без сумлення багачы**
**Жывуць сабе шчасліва...»**

**Істоты гэтыя — ва мне.**
**Ратуй жа мяне, Божа!**
**У іх бязлітаснай вайне**
**Ніхто не пераможа.**

## У МЕСЯЧНУЮ НОЧ

**Мяне заўжды хвалюе месяц,**
**Зялёных промняў чарадзей.**
**Ці ў полі я іду, ці ў лесе —**
**Ён нада мной са мной ідзе.**

**Не спіцца ў клопатах і горы —**
**Я выбіраюся з жытла,**
**I вось плыву ў зялёным моры**
**Яго гаючага святла.**

**Забудуцца трывог прычыны**
**У ззянні казачнай начы,**
**I моўчкі клічуць аблачыны**
**Далей плыць з імі ў далячынь.**

**Ды за плячыма — камяніцы...**
**Тых, хто там спіць, ноч не кране,**
**Хоць дорыць месяц таямніцы**
**Не толькі гэтай ноччу мне.**

## ВЕТЭРАНАМ

**Шкадую: я — не ветэран,**
**Быў бацька ветэранам.**
**I хоць не ад смяротных ран,**
**Памёр ён дужа рана.**

**Пакінуў ордэны адны**
**Ды амулет-асколак...**
**Балюча, цяжка. Тых, з вайны,**
**Штогод вузее кола.**

**Жылі... Як жыць без іх далей?**
**Наўрад ці лепей будзе.**
**...Былі, былі сярод людзей**
**З сумленнем чыстым людзі.**

Проза

Вітаўт ЧАРОПКА

# АБРАЗКІ



Мне сніўся сон, што ў самым прэстыжным часопісе, дзе на кожнай старонцы зіхацяць, як раса на траве, мудрасці крыштальныя россыпы, дзе прарокаў і апосталаў адкрытасць вочы невідушчым расплюшчвае, дзе зорных вышынь тыямніцы фарбамі ўсходу высвятляюць літараў шэрую геаметрыю, дзе першаіснай праўды крохкі шкілет часоў далёкіх фаліянты на сабе трымае, я прачытаў верш майго сябра.

Радок за радком я разблытваў зямной сутнасці заблытаны клубок, і тонкая нітка выслізгвала з маіх рук радок за радком.

I радок за радком дух сумнення мяне пакідаў, і цярновы веры вянок калючкамі мяне цвярозіў.

У вялікім малое я пазнаваў, у малым — вялікае.

Я зайздросціў сябру, які здолеў у словы ўкласці сэрца свайго пульс і душы сваёй ахвярны агонь, каб ажывіць іх і людзям спевам аддаць. Ён Бог, думалася мне.

А раніцай, калі начныя цені ўпалі з вокнаў маіх, я доўга думаў аб гэтым сне. I раптам — азарэнне. Гэта ж я з душы сваёй высек іскру натхнення і пісьмёнамі сноў запісаў на цьмяных старонках начы. Аднак ноч забрала з сабою гэтыя старонкі. А ўспомніць верш не мог, толькі апошнія радкі:

**I выпадае непатрэбнае раскаянне**
**З вуснаў ад раскаяння здранцвелых.**

---

Колькі дзён засталося, але іх трэба яму пражыць. Калі ёсць душа, дык трэба яе ратаваць, каб апраўдаць сваё нараджэнне. Толькі як лёгка абяцалі вярнуць яго з людскога мноства і як лёгка забывалі руку падаць пры сустрэчы. Але яшчэ горш, калі жанчына, якой прызнаўся «Кахаю», як нявінная ахвяра яго пачуцця, да другога сыходзіць. I як дзіця, схаваўшыся ад людскіх вачэй, крыўду сваю аплача. Толькі што плач... Плач не плач... Абышто-нішто... У яго камень на сэрцы, а ў іх камень за пазухай. Як добра было б жыць у іншай Айчыне, іншай жанчыне мовіць слова прызнання, іншым людзям верыць. Толькі, дзе гэтая Айчына?

---

Ніхто не абрадуецца жабраку, за стол не запросіць ніхто і ўсякі яму ўслед пасмяецца. Хто ўказаў яму на парог? Дзе яго дом? I хто ён такі? Што ён ведае пра зло і падман? Што ён ведае пра грашовае кляймо на сэрцах людзей? Наіўны шукальнік дабраты і чуласці...

I вось у душы ягонай нянавісць мсцівым рыцарам падымаецца. Давыдаў сціх стрымлівае адчай: «Божа, адпомсці тым, хто крыўдзіць мяне».

Так ідзе ён па нашай убогай зямлі. На слова міласці ў працягнутую далонь камень кладуць. Так збірае ён камяні. А заўтра нехта з нас пойдзе па слядах жабрака. Дык лепш захаваць камяні, каб кінуць іх у самага шматгрэшнага з нас. А хто ім будзе? Можа, і ты, а можа, і я.

---

Як манна небная падае з нябёсаў снег. Але што нам да яго. Прагнасць дала нам старт. Спознімся на хвіліну — страцім гадзіну. А гадзіна можа каштаваць такога вабнага Заўтра. Вось і трэба нам Заўтра сёння. Нават сэрца не паспявае за імклівым крокам нашым. Нам бы «пламенный мотор» замест яго. Дагнаць, апярэдзіць, пасцець, выхапіць, забраць... Як карусель круціцца пад нашымі нагамі зямля і на разагрэтай юдолі тае небная манна. I слата паглынула нашыя сляды.

---

У гэтым горадзе, дзе крыжы храмаў пачарнелі ад дыхання людзей, мы сустрэліся з табой. Ты прыйшла да мяне ад законнага мужа і ягоны сын так і не назваў мяне татам. Не такая гэта і бяда. У нас ёсць дом і мы вязні шчасця нашага ў ім. Неўпрыкмет дзень змяняе дзень. Толькі сёння, калі глядзеў на горад, на гэтыя лабірынты вуліц, што накрыліся ценем крыжоў, убачыў — няма шыбы ў вакне. Вецер-прывід забіраецца ў наш пакой і мы яго не заўважаем. Зразумела, можна ўставіць шыбы, ды толькі хто стане зрываць старонкі календара, каб не нагадвалі яны, што разам з часам старэем і мы?

---

Не сатвары сабе куміра. На скрыжалях напісана не для нас. Мы верым падманлівым прарокам і словы іх за ісціну прымаем. А я стварыў сабе каханую. Усемагутным я быў перад ёю. Я смяяўся з яе, і свой гонар хавала яна за маўчанне. Пад позіркам маім апускала яна вочы, пакорліва несла ярмо маёй улады. Я быў усемагутным, пакуль не мовіў: «Кахаю». Мая сіла растала ў яе абыякавасці. Мая мара застыла ў яе маскай выхаванай ветлівасці. Мая пяшчота стала яе незадаволенай усмешкай. Я твой раб і рабскай сваёй душой ненавіджу цябе, майго ўладара. Не чакаю міласці ад цябе. Пераможанаму падаравана няволя. I ў патаемных марах на папялішчы твайго дома я заваладаў зноў табой. Не, не перамогі хачу — а быць п'яным ад цябе. I я мог гэтак зрабіць. Толькі хіба нянавісць не падняла руку Гарыславы на свайго ўладара? I не кроў яе бацькоў упала з ляза мяча, а сляза спакутаванай душы. Адной слязы хапіла, каб сэрца сцялася і разарвала путы п'янага сну, і прачнуўся Уладзімір цвярозы ад кахання.

---

Так любіў сябе, што чужая кроў здавалася тваёй. Паверыў у сваю геніяльнасць і малога ад жыцця не хацеў. Колькі гадоў нёс свой самападман і сагнуўся ад яго цяжару. Сваімі ж гадамі і заплаціў за расчараванне. А ў жыцця іншыя каштоўнасці і грош ім цана. I хоць бы грош асеў у тваёй кішэні. Мабыць, паверыў не ў тое. Мабыць, ліхтар прыняў за зорку. Мабыць, праспаў свой час. Вось і сунешся па горадзе, як цень. Ненавідзіш нават сонца, бо пад ім не знайшоў цёплага месца сабе. Незразумелы і некаханы, што табе да нашых хваляванняў, каб хоць малое ад жыцця адхапіць?

---

I зноў вечарам гэты чалавек стаяў пад вокнамі нашага дома. Ты, якая накрываеш мне стол. Ты, якая сцелеш мне ложак. Ты, якая сцеражэш мой сон. Ты — мая. Дык, што ты ўтойвала ад мяне, што адкрыла яму існае? У чым твая тайна? Якая несправядлівасць — ён ведае гэтую тайну, а я не. Відаць, ёсць яшчэ іншае пачуццё, чым страсць. Пачуццё, што ўзносіць над усёй мітуснёй — невядомае і чароўнае. I шчасця паўнату спазнаў гэты чалавек, што замярзае на ветры сцюдзёным перад нашымі вокнамі.

---

Мяне білі па твары, таму што быў я слабейшым і кулаком не мог адстаяць сваё месца пад сонцам. Я ў Бога не верыў, а значыць не верыў у цуд, што хтосьці мяне абароніць. I сам сабе абарону знайшоў. Лісліва глядзеў у вочы мацнейшым і на клічку «Раб» ахвотна адклікаўся. Цяпер я стаяў на шухеры, пільнаваў спакой мацнейшых ды ім на пацеху лупцаваў слабейшых. У вачах іх бачыў сябе прыніжанага, і ў жаласлівых енках чуў свой голас баязлівы, і боль іх у сэрцы маім адбіваўся. Я не апраўдваюся і не каюся. Хочаш быць мацнейшым, — забудзь пра слабасць сваю. Толькі вось ад даўняй звычкі дранцвею я перад рэзкім узмахам чыйсьці рукі. Я моцны, я моцны, а для гэтага мне патрэбны слабы.

---

Не пужай ты, цемра, хочаш, душу растрасі да самых яе апошніх рабрын, але ўсё роўна расціснеш ты кулак. I выпырхне з далоні тваёй новы дзень. I калі прыйдуць сюды, каб зірнуць на таго, каго распнулі на крыжы, яго не ўбачаць. Вось здзівяцца. Казаў жа: «У вашых сілах ускрыжаваць, але не забіць». Не верылі, а раніцай прыйдуць і паверацъ.

Няма цябе са мною. Нідзе я цябе не сустрэў: ні на вуліцах, ні на баляваннях, ні ў снах. Кахаю, бо цябе няма. I твой голас — гэта хімера ў начной цішы. I твае вочы — гэта хворае маё ўяўленне. I ты — гэта эфемерная мара пра каханне...

Ды вось ты з'явішся аднойчы і пройдзеш паўз мяне. Не мовіш ты, што гэта ты. А я цябе не заўважу. I можа быць, пасля ты ўзгадаеш пра мяне, ды толькі не будзеш ведаць ні майго імя, ні майго дома, і ты пакахаеш мяне, бо мой голас загучыць у тваёй начной цішы і позірк мой адчуеш на сэрцы сваім.

## ПАРАДАВАЛІ МАЙСТЭРСТВАМ

**У канцэртнай зале Маладзечанскага музычнага вучылішча выступіла акадэмічная харавая капэла Белдзяржуніверсітэта. У рэпертуары яе не толькі класічныя харавыя творы, але і менш вядомыя і зусім невядомыя творы беларускай мінуўшчыны. Так, напрыклад, гэты калектыў пазнаёміў аматараў харавога мастацтва з зусім невядомым і адноўленым капэлай творам — кантатай XVIII ст. Дырыжору Мікалаю Кашура, які з'яўляецца і мастацкім кіраўніком, давялося шмат папрацаваць, каб слухачы ўпершыню пачулі і адчулі хараство гэтага музычнага твора.**

## І ГАЛЕМ ПАПРАСІЎ ДУШУ...



**Два пасольствы — Францыі ды Ізраіля, а таксама Міністэрства культуры Беларусі і Яўрэйская абшчына аб'ядналі свае намаганні, каб... аб'яднаныя намаганні французскіх тэатраў Маленькага Монпарнаса ды Тэатра нябачнага дапялі і да беларускіх падмосткаў. 10 красавіка спектакль «Галем» адбудзецца на сцэне Рускага тэатра Беларусі, — спектакль, які суправодзілі да нас шматлікія ўхвальныя водгукі самых разнастайных французскіх выданняў і прыз прэсы на Міжнародным фестывалі акцёрскіх дасягненняў у Канах 1991 года. Сцісла ды вычарпальна выказаўся «Нувэль Абсэрвацёр», назваўшы аўтара ідэі спектакля і выканаўцу Бруна Абрахама-Крэмера віртуозным акцёрам.**

**Трэба зважыць на тое, што легенда пра Галема ўзыходзіць да найстаражытных біблейскіх расповядаў, дзе Адам, стаўшыся стварэннем з зямлі /з гліны/, зрабіўся-такі стварэннем чалавечым, разумным. Бруна Абрахам-Крэмер сведчыць у сваёй прадмове да спектакля, што ўплыў гэтай легенды быў такі моцны, а сама яна — такая жывучая, што падчас другой сусветнай вайны яўрэі пачалі... ствараць галемаў у канцэнтрацыйных лагерах, мяркуючы, што гэта адзіны іхні паратунак...**

**У Пражскім яўрэйскім гета жыў рабін Лаёў Бен Безалель, — такі абазнаны ў навуках ды таемных ведах, што калі чарговая хваля антысемітызму ўзнялася над галовамі ягоных людзей, тыя, вядома, са спадзяваннем паглядзелі на рабіна... І спрактыкаваны знаўца Кабалы стварыў для абароны асілка з гліны — Галема, і ажывіў яго. Але Галем порстка расшалопаў свае магчымасці ды ўзнамерыўся ледзь не паўстаць супраць свайго стваральніка. Праўда, дзіўны дыскамфорт не даваў яму пачувацца ўпэўнена, паўнаварта, а прычына была ў тым, што асілак Галем так і не зрабіўся чалавекам. Дапяўшы да прычыны, замірыўшыся, Галем проста папрасіў душу ў свайго стваральніка...**

*На здымку: аўтар спектакля і выканаўца ўсіх роляў Б. Абрахам-Крэмер. Сцэна са спектакля.*

## МАЛАДЫ, ВЯДОМЫ І — ЗАСЛУЖАНЫ

**Сёння гэта датычыцца мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага камернага хору Ігара Мацюхова. Некалькі гадоў таму малады хормайстар стварыў у Мінску маладзёжны камерны хор з такіх, як і сам, энтузіястаў ды нават фанатыкаў харавога спявання. Той па сутнасці самадзейны калектыў неўзабаве «вымусіў» кіраўнікоў культуры парупіцца пра стварэнне т. зв. новай выканаўчай адзінкі на дзяржаўным узроўні — Мінскага камернага хору на чале з І. Мацюховым. Малады абноўлены калектыў, з ужо «заваяванай», «сваёй» публікай, адметнымі праграмамі, перакрочыў праз межы Беларусі і цяпер з поспехам выступае ў Еўропе. Рэпертуар — багаты, у тым ліку малавядомая праваслаўная музыка, адроджаныя з небыцця харавыя партытуры кампазітараў, якія працавалі на Беларусі ў мінулыя стагоддзі, духоўная музыка М. Шчаглова-Кулiковіча, М. Равенскага, навінкі нашых сучаснікаў. Падчас фестывалю «Мінская вясна» хор выканае прэм'еры літургічных твораў С. Бельцюкова ды А. Залётнева. А мастацкага кіраўніка калектыву будуць віншаваць не толькі з прэм'ерай: днямі Ігару Мацюхову нададзена ганаровае званне заслужанага дзеяча мастацтваў рэспублікі. Віншуем!**

***«Ідылія» В. Дуніна-Марцінкевіча на сцэне Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы***

# УТАЙМАВАННЕ БАНАЛЬНАСЦІ,

## альбо Ідылія напрыканцы стагоддзя



*Віктар Манаеў /Ян Губач/*



*Віталь Рэдзька /Караль Лятальскі/*



*Георгій Маляўскі /Ян Дабровіч/*

«Я ведаю, што жыццё — рэч невясёлая. Барані нас, Божа, ад драм і драматургаў, а разам з імі ад усялякага пачуцця нянавісці або прыкрасці. Больш як трэба я знаходжу гэтага ў сваёй газеце».

Праз колькі часу, адасобіўшыся ад аўтара, словы гэтыя зрабіліся маёю малітваю-распачыннем няўдзячнай рэцэнзійнай працы. Да традыцыйных «сопляў ды вопляў» з нагоды тэатральнай падзеі заманілася дадаць чагосьці адасоблена-неідылічнага, кампліментарна-стрыманага ды адчувальна-важкага. І нагадаць, што на прэм'еру «Ідыліі» адгукнуліся, бадай, усе нашы газеты. Аднак спектакль прынясе яшчэ сюрпрызы...

### Мікалай ПІНІГІН

Па шчырасці, спектаклі М. Пінігіна — заўсёдная выдатная нагода крытыку свердзіць сваю дасведчанасць. З'яўленне «Ідыліі» — нагода нагод, напрыклад, распавесці, як спектаклі рэжысёра мяняюцца ў часе ды прасторы, адметна ўплываючы на іхняе невясёлае пракатнае жыццё. Як само невясёлае жыццё адгукаецца на сцэне «Аповесцю пра бяздомных сабак», «Аўтобусам», «Жанчынаю з мора», «Жыццём Карыцына», «Каханкамі з Каліфорніі», «Драконам», «Курыцай», «Тутэйшымі», — іх з'яўленне, прынамсі, дакляравала гледачам шторазовае свята нечаканасцяў, найблізкае да ўтварэння новага тэатральнага кірунку, — як бы не празяхнуць, не праваронiць ягонае ўзнікненне! «Ідылія» дала нагоду згадаць пра «тэатр насмешкі», — пра вызначэнне А. Жакара, дадзенае тэатру А. Жары. Даследчык, арыентуючыся перадусім на «Караля Убу», удакладняў, што мае на ўвазе не сатыру нораваў, але, хутчэй, «эзатэрычную ідэю новай тэатральнасці». Тая, папраўдзе, зусім адыходзіць ад «крытэрыяў вонкавай верагоднасці і жыццепадабенства», але, паводле рускага даследчыка С. Ісаева, «тэатральная творчасць тут раўнапраўная ды раўназначная рэчаіснасці наўкола». Сфармулявана быццам бы пра тэатр Мікалая Пінігіна...

Я зачапілася за Альфрэда Жары і ягоны тэарэтычны артыкул «Пра бескарыснасць тэатра для тэатра» пасля аднаго дапушчэння-супадзення, пасля неадназначнай гістарычнай насмешкі, якая дала нагоду Жары ўкласці ў вусны Вядучага з «Караля Убу»: «Дзеянне, шаноўныя дамы і спадары, адбываецца ў Польшчы, а значыць — нідзе». І няхай у п'есах Жары самая мова «ўзарваная яшчэ на лінгвістычным узроўні», няхай паводле самога Жары «аўтарскі твор толькі выйграе, калі публіка нічога не зразумее і застанецца нямком»: «... у Польшчы, а значыць — нідзе». Гэтае «нідзе» ўразліва адаб'ецца на рэжысёрскім і мастакоўскім вырашэнні сучаснага спектакля, цягнучы за сабой знакамітае «я паўсюль — і нідзе» з той самай французскай класікі. «Нідзе» — гэта толькі ў тэатры... Праўда, калі «Караль Убу» ў 1896 годзе выставіўся пад асвятляльны рыштунак тымчасовай парыжскай сцэны, «мы» ўжо сто гадоў лічыліся складнікам Расейскай імперыі /апошні падзел Рэчы Паспалітай, нагадвае праграмка спектакля, прыпаў на 1795 год/, але «бытавая праўда» ўсё яшчэ загадвала Дуніну-Марцінкевічу «пераплятаць польскія дыялогі з крывіцкімі» /У. Сыракомля/. Праўда і тое, што гэтыя пераплеценыя дыялогі, гэпаўшы на сцэну ў 1852 годзе, нашмат апярэдзілі заяву з п'есы Жары, але ж «Караля Убу» «можна з поўным правам узяць за пункт адліку гісторыі авангарда», — ад «Сялянкі» /«Ідыліі»/ ацалелі толькі згаданыя дыялогі ды адзіны ліст клавіра...

Дык вось, «тэатр насмешкі» Жары, спарадзіўшы тэатральны авангард, а таксама неадменна выклікаючы маю зайздрасць прастатою пунктаў адліку ды сведчання нараджэння, сам праз сто гадоў выявіў, як на першай беларускай сцэне ягонымі, па бальшыні сваёй, здавалася б, тэарэтычнымі вышукамі ўзброіўся спадар рэжысёр, надта далёкі ад тэарэтызавання. Вядома, з папраўкамі: ён жа не капіроўшчык, хоць сабе і самога Жары. Рэжысёр нікога са сцэнічных стварэнняў не змушае здзекавацца, — хіба насміхацца, хіба строіць кепікі, — добразычліва! Напрыклад, з... алагічнасці і абсалютнай умоўнасці тэатральнага дзеяння, — з таго, што сталася падмуркам «свята нечаканасцяў» тэатральнага авангарда! З таго, што за якое стагоддзе ператварылася ў агульныя месцы процьмаю самага рознага кшталту твораў /і тэатральных, і не/, — чарговая насмешка гісторыі, — стаўшыся апірышчам так званай масавай культуры. Крайнасці сышліся. Пасміханне гісторыі спынілася грымасаю. Пашча масавасці ашчэрылася, і мы, небаракі, з пераляку ледзь заўважылі шэрагі зубоў-жорнаў. Тут яўна да месца працытаваць з ранішняга Олдаса Хакслі пра баруканне мастака з банальнасцю, пра прыручэнне гэтага монстра ды ягонае творчае выкарыстанне. Але што высноўваць? Што Пінігін, пасміхаючыся, прапануе нам развітацца з нашым агульным мінулым /«Развітанне з XX стагоддзем...» — так называлася адна з рэцэнзій на «Ідылію»/? Здаецца, як ніколі смяяліся мы на ягоных жа «Тутэйшых». Адсмяяўшыся, здзівіліся, угледзеўшы ў тэксце Янкі Купалы рэпліку пра незвычайных людзей, якія ў такую скрутную часіну могуць радавацца. Зразумелі, здаецца, што Купала аб'яднаўся з Пінігіным, каб давесці нацыі пра годнасць пошукаў самой сябе. Зразумелі? Шкада, трагічна-смяшлівае ўсведамленне не сталася набыткам мас. Культуры мас. Або адметнай мастацкай міфалагізацыяй, — першаю перамогаю над монстрам-банальнасцю: тэатр абмежаваны ў часе і прасторы свайго ўздзеяння. Мо лепей для «Тутэйшых» было б заставацца неразгаданымі? Пакуль спектакль змяняўся, пакуль з яго вынікалі новыя сэнсы ды старыя крыўды, аўтарскі твор /Янкі Купалы і Мікалая Пінігіна/ нічога не выйграў. Дня, калі б тэатр, наследуючы прароцтву Жары, апанавалі толькі тыя, хто ўмее разумець, не выпала. Балазе ішлі тыя, хто не забыўся радавацца. Яны першымі вярнуліся — ужо на «Ідылію». Пачатак шмат якіх пачаткаў нашай сцэны. Мімаходзь «пачатак» засведчыў, як літаратурны твор, далёкі ад класічнай дасканаласці, набывае класічнае сцэнічнае прачытанне. А сцэнічная класіка з пастуховай нязмушанасцю ляснула пугаю-высноваю пад самым маім зацікаўленым носам: «... усялякі праўдзіва істотны крок наперад суправаджаецца зваротам да пачатку... дакладней, да абнаўлення пачатку. Ісці наперад можа толькі памяць, а не забыццё». Такім чынам адметны адказ на маё бяздушнае пытанне — чаму, маўляў, Мікалай Пінігін не возьмецца, нарэшце, за Чэхава з Шэкспірам, даў сам Бахцін. Супраць Бахціна, здаецца, і Жары не памкнуў бы...

### Зіновій МАРГОЛІН

Упершыню давёў сваю беззаганную мастакоўскую рацыю мэтру Пінігіну падчас спрэчак над «Курыцай» М. Каляды. Вырашыўшы перадусім сцэнічную прастору, стварыў вобраз дзіўнага жыццёвага калідора для спадароў мастацкага савецкага гарту /крок улева, крок управа, адпаведна/: спектакль распавядаў пра норавы ды лёсы правінцыйных акцёраў. Сцэну па дыяганалі дзяліла сцяна-выгарадка, катухі жытла ператвараліся ў катухі для мастацтва /пакоі інтэрната — у грымёркі/. А, галоўнае, прадметы абсталюнку набывалі якасць аксесуараў, — дзверы, напрыклад, урачыста выносіліся на сцэну, каб бразнуцца ў належны момант перад належным персанажам... Што, само сабою, раскатурхала маю літаратурную абазнанасць, давёўшы да насмешак згаданага ўжо Жары: «Існуе два віды афармлення: усярэдзіне нейкага памяшкання і пад небам. Абодва яны прэтэндуюць на тое, што ўяўляюць, скажам, пакоі або палі». Дык вось, у «Ідыліі» З. Марголін спалучыў «пакоі» з «палямі» пад «небам», падвесіўшы пад каласнікі ці то глобус Беларусі, ці то алегорыю тэатра /што там вісела ля ўваходу ў тэатральна-відовішчнае прадпрыемства Шэкспіра, маючы на ўвазе і ў назве цэлы свет?/, а мо і нешта такое, што можа ўтрымацца толькі цудам стаўлення да яго... Ёсць пэўная рацыя ў тым, што гэтае паўсферычнае ўтварэнне сваім важкім выглядам часам пераігрывае акцёраў, пакуль глядацкая абазнанасць прыструньвае дасведчанасць: выдаткі вытворчасці мелі нахабства зладзіць свой «тэатр насмешкі». Пад гэтым дзівосным прадметам з надпісам «Ідылія», у якім кожны мае права ўгледзець хоць сабе прыхаваную пародыю і на маскультурныя гвяздарчыя забавы /нейкія бліскучастыя падабенствы гвяздароў ростам пад тэатральнае неба з'явяцца на фурах у атуленні оперных пейзанаў, крутнуць паўсферу, выкрыюць сякія-такія рэжысёравы недагляды.../. А можна — алегорыю пасміхання з перадфінальнага тэксту пра пекны Парыж, Рым прыгожы і слынны, швейцарскія горы, старыя Афіны і адданасць карцінную роднаму краю,.. які вісне над патрыятычнымі галовамі ўвесь у таполях і здаецца, ці то тэатрам, ці то фальваркам. Во будавалі!.. Сцэнаграфія падказвае разуменне акцёрскага выканання — нічога грунтоўна-сур'ёзнага, усё — гульнёю, усё — з насмешкаю. Змоўчу пра падрабязнасці сцэн з сялянамі ў дымах — рэжысёрска-мастакоўскія пародыі на знакаміты фантам «Дружба» з маскоўскай ВДНГ, пра дзівосныя глобусы-альтанкі для закаханых у садзе з другога акта, пра эфектную зорную ноч, якой кіруе... хто там мусіць кіраваць у крылах ды са стрэламі? — круцячы паўсферу далікатненька й ціха, — каб хоць дастаць да яе, драбіны прыцягнуў з сабою... Атмасферы добрай насмешкі надае гуллівае асвятленне, аднолькавыя кітайскія ліхтары ў знакамітай сцэне ў садзе, — калі процьма народу таўчэцца й піхаецца на сцэне, паводле драматургавай ідэі не заўважаючы адно аднаго /як заўважыў Віктар Скарабагатаў, — проста насмешка з класічных опер!/, — чарговыя жарцікі мастака спектакля. Дарэчы, адмысловыя строі выканаўцаў, нібыта з узорных посцілак шытыя, чымсьці нагадваюць жарты мастачкі-графіка

Таццяны Беразенскай. Тым вальней пачуваюцца досціпы мастачкі па касцюмах Людмілы Ганчаровай — складкі на спадніцах, гэсткі, паскі, кішэні, паласатыя мужчынскія трыко ў абліпку, капялюшыкі, — асабліва тады, калі, напрыклад, адзін з герояў клятчасты еўрапейскі гарнітур зменіць на строй нацыянальны — з шабляю...

## Уладзімір КУР'ЯН

Пра музыку ў А. Жары я не вычытала нічога, таму мушу без падказак нагадаць, што музыка оперы С. Манюшкі і К. Кжыжаноўскага належыць... У. Кур'яну. Складваецца са шматлікіх стылізацый і пародый. Я дачула, напрыклад, і са знакамітага «Млынара» Ф. Шуберта, і з Моцарта, і з Расіні, і яшчэ процьму такога хрэстаматыйна-смяшлівага, што без Віктара Скорабагатава, музычнага кансультанта спектакля, баюся памыліцца. Паланез «Развітанне з Радзімай» у перадэпілогавай сцэне пазналі ўсе. Асаблівая шыкоўнасць тэатральнага абыходжання ў тым, што выканаўцы з апошніх складоў паэтычнага радка пачыналі кожны наступны музычны радок... А трыо закаханых персанажаў у згаданай «садавай» сцэне пела ўзнёсла пра свайго мілага анёла, упарта не чуючы адно аднаго, пры гэтым драматычныя акцёры не пазніліся, не разыходзіліся і не пускалі пеўняў! Музыка то характарызавала персанажа, то, выклікаючы музычную згадку, прадвызначала іхнія ўчынкі, — пачувалася самастойна і радасна. Опера ж пад музычным кіраўніцтвам і накіроўваннем У. Кур'яна, пэўна, мела б поспех у самога Манюшкі, дый ва ўсіх з тых мінулых стагоддзяў, з каго Кур'ян нязлосна пакпіў, развітваючыся... са сваім стагоддзем?

## Галіна ШЫЛЯНКОВА-ВОРАНАВА

Ставіла танцы: беларускія, яўрэйскія, пастаральныя, свецкія тагачасныя. Годна падтрымала стыль насмешкі, вызначаны рэжысёрам. На жаль, мне не дадзена апісваць танцы так, каб пераканаць у іхняй выключнай значнасці для спектакля. Усе танцы, аднак, нароўні з трупаю выконвалі і студэнты Беларускай акадэміі мастацтваў, і публіка ў шчыраваннях балетмайстра пазнавала вучняў Л. Манаковай, якія ўжо паспелі прадставіцца дасціпным канцэртам ды «Лысаю спявачкай» Э. Іянескі. А гэта спадар Іянеска, між іншым, улічыўшы досвед Жары пра бескарыснасць тэатра для тэатра, давёў агульную бескарыснасць тэатра. Але — неабходнасць. Гэтаксама намагуся і я давесці неабходнасць ды непаўторнасць кожнай работы ў тэатры ды ў канкрэтным спектаклі «Ідылія».

## Юры АВЯР'ЯНАЎ

Адметна распачынае дзею, кантралюючы ёпернае сцябанне сялян /ягонаму Камісару належыць адзіная арыгінальная Манюшкава арыя/. Падступовы /каварны/, хітрамудра абаяльны. Трымае ў руках або за горла ўсё наваколле, пры гэтым віртуозна ўнікае небяспекі выбіцца з жанру спектакля. /Ён, дарэчы, вызначаны як пастараль, але ж пра тэатр насмешкі я, што магла, распавяла/. Абаяльны нават са сваёй кульгавасцю, ён гэтаксама віртуозна... выб'ецца з вобраза, падпарадкуючыся Пінігінавым знаходкам, — гэта значыць, раптоўна кіне кульгаць! У адлаведнай сцэне... Няхай недагаворанасць станецца інтрыгаю-рэкламаю для спектакля. А я дадам, што ад прыроды нікуды не падзенешся, і як маеш разумныя вочы, дык мусіш іх хаваць. І не схаваеш. Таму герою Ю. Авяр'янава Выкрутачу з гучным імем Банавентура ўяўляць з сябе надта закаханага ў Юлію-Югаську, цэнтральную фігуру мужчынскіх звадаў-дамаганняў спектакля, адлачатку неяк не выпадае. Акцёрскае выкананне дасць нам здагадку пра нейкі хітрамудры разлік Выкрутача, з якім ён перахітрыў сам сябе: у нейкі момант захваляваўся, занепакоіўся ды... укахаўся-такі! Ды так, што пагадзіўся ісці на спатканне ў сад і там ужо дамагацца Юліі-Югаські. А прычакаць — уласнае жонкі, шляхцянкі-кнігаманкі, як самахарактарызуецца яна ў куплетах... Л. Дранько-Майсюка...

## Лілія ДАВІДОВІЧ

Уршуля Выкрутачова першы і апошні раз ціхмяна сядзе і пасядзіць у сцэне агульнага прадстаўлення маянткоўцаў маладому гаспадару, які толькі-толькі прыбыў з-за мяжы. Усе яе наступныя выхады выдаюць на баявыя вылеты: як нямашака відавочнага здарэння або прыгоды якой, дзе б можна было б паўдзельнічаць, Уршуля знойдзе. Або ўтворыць. Я не раз чула адметную польскую мову Ю. Авяр'янава /і не адно ў «Тутэйшых» — на сцэне Беластоцкага тэатра імя А. Вянгеркі ён выканаў па-польску адну з самых складаных роляў у Гогалевым «Рэвізоры»/, Л. Давідовіч, метадычна аддзяляючы гук ад гуку, слоўка ад слоўка, інтанацыю ад афарбоўкі, дасць дыхту самой фабуле... І мястачковым польскім маўленнем /шляхцянка/, і перыядычнымі зваротамі да вычытанага з кніг — каб супаставіць знаёмыя кніжныя сітуацыі з хамскімі жыццёвымі /кнігаманка/; тэксту згадак, натуральна, няма, і актрыса маляўніча перажывае іх паўзамі. Да ўсяго, паводле яе ж спеваў, дурня мужа мае. І таму... паразумеецца з Югаськаю, напераменкі заахвочваючы дзяўчыну да адказаў то хусцінкаю, то цукерчынаю, і смела падмацаваўшыся порцыяй кніжных досведаў, выйдзе на спатканне да мужа пад оперным плашчом... Праўда, замест шляхетнага грэбавання зламае аб спадніччніка свой парасон /а на паратунак у выкананні Ю. Авяр'янава лепей адзін раз паглядзець, як колькі разоў прачытаць/, — вось яны, выдаткі нешляхетнасці свету ды някніжнасці жыцця!

## Віталь РЭДЗЬКА, Віктар МАНАЕЎ

Дуэт, як вы разумееце, бальшаваты, каб яго, нават наследуючы насмешкам Жары, можна было абысці: цэнтральныя фігуры сцэнічнай звады, ахвяры спярша іншаземных, а потым айчынных жаночых вабнотаў. Але ж у спектаклі, здаецца, ім лепей за ўсё разам. Мроіць ды ўздыхаць. Здаецца, і разлучае іх не Юлія-Югаська, не рэўнасць-паздраслівасць, не банальнае сямейнае шчасце, якое на траіх не дзеліцца. Што?

Першы выхад акцёраў ператвораны ў першы выезд: уведзены ў курс справы Юліяй і яе бацькам, глядач чакае з-за французскіх межаў гаспадара таполева-тэатральных краявідаў Караля. Ён са слугой Янам, адцягнена пазіраючы наўкола і круцячы педалі ровара-тандэма, эфектна з'яўляюцца з-за кулісаў, робяць круг і ўрачыста натыкаюцца на граблі, якія на нашых вачах парупіўся падкласці Навум Прыгаворка /яшчэ адна сардэчная ахвяра паненкі Юліі/. Смех выклікае і міжвольнае параўнанне: стагоддзе мадэрнізуецца. Выезду тандэма папярэднічаў выезд Юльчынага бацькі /Г. Маляўскі/ на збудаванні з адным велізарным колам і трыма маленькімі /такія цяпер ёсць у цырку/... Бургамістр Маляўскага ў «Драконе» воляю Пінігіна калісь карыстаўся самакатам... М-м... Дык я пра граблі. Не, пра тандэм. Ай, пра дуэт! У чым адданы Францыі модны мужчына можа вяртацца на радзіму? У паласатым трыко, саламяным капелюшы-канацье і высокіх боціках. Каб, ступаючы па родных абшарах, скалупваць з іх сёе-тое і прыгожым французскім словам выкрываць ягоную смярдзючую сутнасць... Але не на адну франкамоўную акцёрскую адсябеціну часам падае цень перабору. Акцёрскімі ацэнкамі, бывае, задужа дзівіць В. Манаеў, якога публіка любіць даўно, аддана і заахвочвае шчыра, — надта свежы ў памяці публікі Мікіта Зносак з Купалавых «Тутэйшых», — сапраўдны ўлюбёнец! І падахвочаны акцёр час-почас нагадвае свайго Мікіту — то пластыкаю, то імгненнымі праходкамі па авансцэне, то адметна пададзенымі паставамі /мізансцэнамі цела/. Зразумела, ад такога адметнага вобразу зусім хутка адысці цяжка дый не трэба, але там, дзе ў Яна, паводле ўсіх задач ды тлумачэнняў, мусіць узнікаць пачуццё да Юліі-Югаські, акцёр падае запамінальны шэраг тэхнічных адметнасцяў, і далей, здаецца, толькі каб не адстаць ад гаспадара Караля, балабоніць пра ўкаханасць, пра пекныя пачуцці і да т. п. Нейкая ўнутраная выпетранасць выдае і Яна, і В. Манаева. Няўжо стомленасць Парыжам? Інерцыя добрага свецкага тону — трэба, маўляў, кімсьці займаць сэрца ды язык?

Віталь Рэдзька таксама згадвае сваю, бадай, самую адметную з роляў-папярэдніц, Бальзамінава з вядомае п'есы. Спектакль быў ягоным дыпломам. Але ў ролі Караля акцёр якраз адчувальна падае мяжу між парыжскімі трызненнямі і новым, як высвятляецца, сталым захапленнем Юліяй. Ягонае вясёлае парыжскае жыццё, так непераканаўча прыдуманае драматургам, дасціпна ператворана акцёрам у мару мараў, мрою мрояў, летуценне летуценняў персанажа Караля. Акцёр ведае, што ў кожнага — свой Парыж, а Каралеў спраўджваўся дзесьці на мяжы ўяўнага і відавочнага. Таму і пакідаць яму нічога пэўнага ды асаблівага не даводзіцца. Франкаманія сыходзіць услед за паласатым трыко. Злупліваецца разам з пляжнаю паласатаю скуркаю свабоды, роўнасці і братэрства, пазбавіўшы гаспадара са слугою выдаткаў ад гэтых нечуваных парыжскіх модаў. Родная зямля працверазіла і паставіла на месцы абодвух: кожнаму — сваё. Пах гною спрацаваў як пах нашатыру.

Так, «Ідылія» перапоўнена насмешкамі зусім не ідылічнага кшталту. Вобразам, характарам, учынкам персанажаў спатрэбілася больш за сто гадоў, каб... асучасніцца? Мяркую, каб спраўдзіцца на тэатральную поўніцу. Бо, паводле М. Пінігіна, тэатр заўжды пасміхаецца сам з сябе, а ў «Ідыліі» напрыканцы стагоддзя — і пагатоў. І не аднымі пародыямі, а кепікамі ды жартамі з айчыннай ды сусветнай класікі: сам з сябе, сам з сябе перадусім. Не вульгарная сацыяльшчына разводзіць на падмостках слугу з гаспадаром, але радасныя кпіны з тэатральных амплуа: калі матэрыял не вытрымлівае важкасці сур'ёзу, разважае Пінігін, дык для радасцяў можна развязаць мяхі. Оперны Караль шчодра сілкуецца акцёрскім абаяннем Віталя Рэдзькі, само жыццё бароніць Караля ад айчыннай нянавісці ды прыкрасці расчараванняў. І з Юліяй яго змацуюць відавочныя вымогі сэрца, ды праца душы, і Яну ён прыязна не адмовіць: жыві, маўляў, браце, тутака, спадзявайся... Караль у фраку, будзем шчырымі, прадставіцца годным акцёрам, здолеўшы не толькі арганічна ўвайсці ў абставіны, прапанаваныя Юліяй-Югаськай, не толькі асвойтацца са спектаклем, зладжаным ёю, як вядома, дзеля абарачэння франкамана ў айчыннае веравызнанне, але і адпавядаць той адзінай і галоўнай ролі, на якую прызначыла яго паненка. Што робіць з чалавекам айчынны пах! Пазбаўляе тэатральных ілюзій прынамсі...

## Зоя БЕЛАХВОСЦІК


Лілія Давідовіч /Уршуля/


Юрый Авяр'янаў /Банавентура Выкрутач/


Зоя Белахвосцік /Юлія-Югаська/

Фота Віктара СТРАЛКОЎСКАГА і Галіны МАСКАЛЁВАЙ

У самай рамантычна-прадвызначанай ролі актрыса, на маю думку, супярэчыць развагам насмешніка Жары пра акцёра-марыянетку /імі, як вядома, ужо хутка-хутка ўзброіцца Крэг/: «Твае блакітнасці нязменны», — сказаў пра такіх істот паэт з іншае нагоды. Пасля выбітна-опернага сцябання сялян, — змушэння, мовім так, узяць удзел у тэатральнай гульні перад Каралем, — паненка Юлія выпырхвае на сцэну чароўнай... пра насмешку я не дам забыцца... пастушкаю-патрыёткаю. Які-такі спартыўны інтарэс няволіць Юлію заняцца перавыхаваннем франкамана? Рацыя актрысы, аднак, беззаганная: калі той стаміўся ад чакання Парыжа, дык Юлію стаміла чаканне кахання. Калі той дакрануўся да мары, яна гэтую мару проста абмацае, абамне дый зляпіць з яе тое, што мерыцца. А мерыцца, прымерваецца да кахання: «Калі я цябе прыдумала, зрабіся такім, як я хачу». І Караль Лятальскі, мусячы абыходзіцца без Парыжа, не здолее ўстаяць перад каханнем. Вось, бадай, адзінае здарэнне, перад слушнасцю якога цішэюць рэжысёравы кепікі. Тое, што чаўпецца між бальшынёй закаханых, яшчэ не ўчапілася ў Юлію ды Караля. Мы, гледачы, заспелі самы далікатны момант: уяўленні пра аб'ект кахання, так бы мовіць, супалі з самім аб'ектам /Зоя Белахвосцік, дэманструючы гэта, пераменіць іронію на разгубленасць/. А яна, Юлія, падпарадкуючыся вандроўнай сюжэтнай модзе драматургавага стагоддзя, мусіць удаваць сялянкаю. У «Ідыліі» — каб прыемная нечаканасць саслоўнага выкрыцця канчаткова прысараміла ды прыструніла Каралеву стомленасць Парыжам.

Па ходзе справы Юлія ў ролі Югаські мусіць даваць рады самым непарыжскім праявам мужчынскай увагі. Мусіць выблытвацца са звадаў сямейнай парачкі Выкрутачоў. Мусіць рыхтаваць апафеоз сваіх любоўных намаганняў у цёмным садзе пад музычны шоргат зорнай паўсферы. Мусіць своеасабліва ўбівацца ў ласку Каралю — убіваючыся яму ж у вочы... Актрыса, даючы рады блакітнасцям гераіні, то хуліганіста працытуе сваю Аленку з Купалавых «Тутэйшых», лірычна-ўзнёсла распавядаючы бацьку пра свае намеры, то, пераконваючы Уршулю Выкрутачову ў сваёй сялянскай невінаватасці, возьмецца падкрэслена карыстацца навадаранай насоўкаю, то, беручы ўдзел у скоках па прыездзе Караля ў маёнтак, насмешліва ператрактуе ролю пастушкі-дабрадзейкі, маляўніча паваліўшыся разам з дворняю пад тэкст пра тое, як Караль здолеў напаіць цэлую дружыну. Пад гэткае «падзенне» ў фінале першага акта глядацкае чаканне падсцеле саломкі адпаведнага працягу: усе ж ведаюць, чым скончыцца смяшлівая авантура паненкі паводле літаратуры, — шлюбам, натуральна, але Зоя Белахвосцік вабіць гледача ў сіло цікаўнасці: як жа дастырнуе яна да такога банальнага фіналу?

Жыццё — рэч невясёлая. І калі ў сад, акрамя цябе самога, выйдзе трое ўкаханых у цябе, дык тваю ідылічную зваду можа перастрэць не ідылічная /барані нас, Божа, ад драм і драматургаў!/. Актрыса балансуе на мяжы, асталяванай жанрам. Ёй, бадай, можна паспачуваць: на фоне дуэта Караля і Яна застаецца толькі гуляць светлаценем па нязменных блакітнасцях сваёй гераіні, а драматург для развіцця ролі шмат чаго не дадаў. Зоя Белахвосцік, спачуваючы Юліі, па-жаночаму творыць свой сцэнічны свет. І — стварае, каб, літаральна ўзяўшы партнёра за руку, падвесці да фіналу спектакля ўсю грамаду сцэны і залы. У кош паветранага балона стануць закаханыя, але тутэйшы, айчынны дождж перастрэне палёт. Балон-паўсфера, ідылічная радзіма, насунецца на герояў, ледзь не прыціскаючы іх да зямлі. Дый жа балон, абцяжараны сялянскімі дарункамі-алегорыямі, ці здолеў бы падняцца сам? Рэжысёрскія алегорыі — празрыстыя. Акцёрскія насмешкі — запаволеныя. «Ідылія»... скончана раз і на заўжды?

## Георгій МАЛЯЎСКІ, Анатоль ЛУЦЭВІЧ, Генадзь АЎСЯННІКАЎ напераменкі з Арнольдам ПАМАЗАНАМ

Ролі Яна Дабровіча /Г. Маляўскі/, Шчырэцкага /Я. Луцэвіч/, які мусіць заступіць на месца хцівага спадніччніка Камісара, Навума Прыгаворкі /Г. Аўсяннікаў і А. Памазан/, рупара, так бы мовіць, народных ідэй і мудрасцяў, — функцыянальна-аздобныя, але атрымаліся каларытнымі, запамінальнымі. Усе акцёры, па сутнасці, мусяць час-почас мяняць толькі свае строі, настроі ды стаўленне да насельнікаў сцэны. Персанажы напраскі залежаць толькі ад індывідуальных акцёрскіх праяў. Таму, скажам, Памазанаў Прыгаворка выяўляецца больш гнуткім і падатным для авантур паненкі Юліі /яна намаўляе яго выйсці ў сваёй сукенцы ў сад на спатканне да Яна Губача, і толькі сляпы ці оперны герой не разгледзіць ягоную плячыстую паставу/. Дапамагае ёй амаль бескарысліва, бо разлікі на сімпатыі Югаські надта ўжо няпэўныя.

Або Г. Маляўскі як мага цаляе ў свайго Дабровіча: крыху іранічна згаджаецца дапамагаць дачцэ перавыхаваць франкамана ды... уцягваецца ў гульню, і нават налаўчона падыгрывае Юліі як партнёрцы! Не без ягонага ўдзелу гульнёю спакушаецца і ціхмяны Шчырэцкі, якому А. Луцэвіч не шкадуе разважлівасці ды ўраўнаважанасці. Але ўзяць на сябе ролю Камісара /а Караль, узяўшыся кіраваць маёнткам, карае Выкрутача і за адлупцаваных сялян, і за заляцанні да Юліі/ яго вабіць менш за ўсё...

Цягне, цягне напісаць, як беларускі тэатр спакусіўся воляю вольнаю новага часу і годна вызваліўся ад тэатральных банальнасцяў у адным асобна ўзятым спектаклі, бо менавіта воля, паводле класіка, выяўляе «забойчую неабдымнасць сферы банальнага». Але жыццё — рэч невясёлая. Барані нас, Божа, ад драм і драматургаў, а разам з імі ад усялякага пачуцця нянавісці або прыкрасці. Больш як трэба я знаходжу гэтага ў сваёй газеце.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

**P. S.** Цытаты належаць Т. Ману і А. Стэндалю.

Угодкі

# «САМАЙ ГОРКАЙ ЗЯМЛІ ДЗІВАСІЛ...»

***28 сакавіка споўнілася б 75 гадоў Веры Сямёнаўне Палтаран — знакамітаму беларускаму нарысісту і не менш слыннаму крытыку, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусь і проста цудоўнаму, спагадліваму чалавеку. Не дажыла яна да гэтага юбілею. Пайшла заўчасна з жыцця пяць гадоў назад пасля цяжкай і невылечнай хваробы... Акурат у дзень нараджэння. Так і не паспела пабачыць сваю кнігу «Чалавек на вятрах часу». Зборнік жа ўспамінаў, артыкулаў, вершаў «Не пакідай нас, Вера...», прысвечаных памяці В. Палтаран, пабачыў свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1993 годзе.***

Якой жа была яна, Вера Сямёнаўна Палтаран? Чым кіравалася ў жыцці, да чаго імкнулася? На гэта і дае адказ кніга «Не пакідай нас, Вера...», назва якой набывае глыбокі сэнс. За гэтымі словамі — і зваротак да канкрэтнага чалавека, але адначасна гэта і вера, той душэўны стан, чаго так часта не хапае ўсім нам сёння ў тлумных і няўпэўненых буднях. Вера ў дабро, справядлівасць, шчырасць. Вера ў чалавека. Гэтай верай і жыла Вера Сямёнаўна...

Па праву даўняй сяброўкі, яшчэ з гадоў студэнцтва, з часу навучання ў Мінскім педагагічным інстытуце /а гэта было перад вайной, у 1937—1941 гадах/, першай мае слова М. Барсток /«Шчырае сяброўства»/. Праз колькі старонак яшчэ адзін водсвет таго даўняга, што сёння паступова становіцца набыткам гісторыі — успаміны журналісткі Н. Граковіч «Залатая кветка Палесся». Таксама, магчыма, у асноўным асабістае, але менавіта з гэтага «свайго» паступова вымалёўваецца тое, што дазваляе гаварыць пра В. Палтаран, як пра асобу неардынарную, чалавека, прывабнага ва ўсіх адносінах. «Даўно стала банальным, — сведчыць Н. Граковіч, — паўтараць чэхаўскае выслоўе, што ў чалавеку ўсё павінна быць прыгожым — і твар, і адзенне, і думкі. Мушу прызнацца — гэтыя словы заўсёды ўсплываюць у памяці, калі думаю пра Веру».

А гэта — сведчанні тых, каго з Верай Сямёнаўнай звялі журналісцкія шляхі-дарогі. Падчас працы ў рэдакцыях «Чырвонай змены», «Маладосці». Праўда, у М. Аўрамчыка /«Сапраўдная інтэлігентка»/ ёсць і згадкі куды больш раннія: «Я помню яе яшчэ з даваеннай студэнцкай пары, таму што яна была каханаю майго сябра, любімца Кузьмы Чорнага — Уладзіміра Кандрацені, які зыркай знічкаю прамільгнуў на небасхіле беларускай прозы і загадкава-таямніча загінуў у вайну». Для тых, каму імя У. Кандрацені нічога не гаворыць, нагадаю: яшчэ гадоў дзевяць назад яго забаранялася згадваць у друку...

Запыняю ўвагу акурат на такой цытаце з успамінаў М. Аўрамчыка, каб лішні раз нагадаць, наколькі ў жыцці шмат неспадзяванага. Калі б Вера Сямёнаўна была жывая, яна, відаць, нямала цікавага магла б расказаць пра У. Кандрацbackwardsеню, у біяграфіі якога па-ранейшаму нямала «белых плям». Тады ж вымушана была, як і многія, маўчаць. Дарэчы, калі пазней М. Аўрамчык паказаў ёй адзіную кнігу гэтага пісьменніка «Любоў» /цудам захавалася ў вёсцы/, В. Палтаран «нічога не сказала, а толькі моўчкі пакруціла галавою, як рабіла гэта, калі была надта ўсхваляявана чым-небудзь».

А ці не з-за гэтага знаёмства Вера Сямёнаўна знаходзілася, як кажуць, па-за партыяй? Між іншым, М. Аўрамчык прыгадвае цікавы выпадак, звязаны з яе беспартыйнасцю: «Далікатная ў абыходжанні і добразычлівая, яна прываблівала сваёй абаяльнасцю. Не дзіўна, што тагачасны першы сакратар ЦК ЛКСМБ Пётр Міронавіч Машэраў, які асабіста падбіраў асноўных супрацоўнікаў для «Маладосці» і зацікаўлена ўнікаў у жыццё рэдакцыйнага калектыву, адразу ж заўважыў і ацаніў гэтыя якасці Верынага характару і двойчы выклікаў яе на субяседванні, угаворваючы заняць пасаду сакратара райкома камсамола. Ён быў проста абяззброены і збянтэжаны яе прызнаннем, што яна беспартыйная, чаго, відаць, не толькі не чакаў, але нават і не дапускаў у сваіх думках».



«Промень чулай душы» — так назваў згадкі А. Асіпенка. У сваіх мемуарах ён адыходзіць ад дробязнага, прыватнага, каб дапамагчы ўбачыць у чалавеку найбольш істотнае і важнае, тое, што з'яўляецца яго сутнасцю. Здавалася б, нічога звышважнага не гаворыцца, але якраз з фактаў, у нечым звычайных, будзённых, і выпраменьваецца тое, што дазваляе меркаваць пра В. Палтаран як пра «промень чулай душы».

З будзённых фактаў сатканы і ўспаміны С. Кухарава «Вера, Верачка, Вера Сямёнаўна». Ён, як і іншыя, хто добра ведаў В. Палтаран, адзначае яе прынцыповасць, патрабавальнасць. І не толькі да іншых, а і да самой сябе.

В. Палтаран належала да людзей, якія маглі жыць і тварыць насуперак абставінам. Пра апошняе не прамінуў сказаць і А. Асіпенка: «Цяпер бытуе думка, нібы ў гады сталіншчыны чалавек або павінен быў славіць правадыра і настаўніка, або хадзіць з заткнутым ротам. Трэцяга, як кажуць, не дадзена. Пераканана сцвярджаю, што думка гэтая абсурдная. Пры любых абставінах людзі шукаюць і знаходзяць аднадумцаў, каб ва ўмовах жорсткай безгалоснасці пагаварыць пра набалелае і тым аблегчыць душу».

Згаданыя публікацыі /як і іншыя, аўтарамі якіх з'яўляюцца У. Дамашэвіч, У. Конан, С. Букчын, З. Мажэйка — спіс можна доўжыць/ пісаліся спецыяльна да гэтай кнігі, але ж і ў другі раздзел увайшлі не менш значныя матэрыялы, у якіх таксама спроба зразумець В. Палтаран як чалавека і творцу. Асмелюся нават сказаць, што ў іх, магчыма, і меней, так бы мовіць, ідэалізаванасці. У прыватнасці, Янка Брыль /«А я — на Палессе...»/, А. Сямёнава /«Яе спосаб жыцця»/ дзяліліся сваімі ўражаннямі пры жыцці В. Палтаран. Таму іх цяжка /ды і немагчыма/ абвінаваціць у жаданні нешта паднесці ў больш выгадным святле. Гэтыя /як і іншыя/ сведчанні не пакідаюць сумнення, што В. Палтаран была найперш АСОБАЙ, якая валодала моцным як жыццёвым, так і творчым сілавым полем.

А на завяршэнне кнігі — вершы У. Паўлава, В. Коўтун, М. Барсток, Я. Янішчыц, Л. Галубовіча. Усхваляванае слова пра чалавека, сустрэча з якім так шмат значыла ў жыцці. Напісанае яшчэ тады, калі Вера Сямёнаўна была жывая. У іх — і ўдзячнасць за ўсё добрае, і пашана перад талентам. А поруч — «Дзівасіл» М. Мятліцкага, з падзагалоўкам: «Светлай памяці Веры Сямёнаўны Палтаран». За нарыс «Дзівасіл», а таксама за зборнік «Ключы ад Сезама» Вера Сямёнаўна ў 1974 годзе і атрымала Дзяржаўную прэмію Беларусі.

Смутак па заўчасна памершай В. Палтаран гэта частка агромністага палескага смутку, які не дае паэту спакою:

**Знае сэрца: не будзе**
**зваротных дарог.**
**Азірае пустэчу угневаны Бог,**
**П'е з крыніцы палескай**
**у прыхватках дня**
**Перагорклай атруты зямной**
**вышыня!**
**Толькі вецер услед...**
**Толькі ядзерны пыл...**
**Дзівасіл...**
**Самай горкай зямлі дзівасіл...**

Але ж дзівасіл — і адна з самых гаючых на зямлі раслін. Дзівасілам успрымаеш сёння і ўсю творчасць Веры Сямёнаўны Палтаран, як і жыццё яе — таксама. І застаешся ўдзячным выдавецтву «Мастацкая літаратура», а таксама ўкладальніку А. Васілевіч, за тое, што з'явілася такая змястоўная кніга пра жыццё і творчасць адной з нашых самых выдатных адраджэнак.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ЦІ ТОЛЬКІ ДЭМАГРАФІЧНАЯ «ЯМА»?

*(Пачатак на стар. 5)*

самыя нізкія паказчыкі па нараджальнасці ў рэспубліцы. Рускія садзейнічалі далучэнню беларусаў /у сілу свабоднага валодання імі рускай мовай/ да рускай культуры. Актыўна засвойвала беларускае насельніцтва і элементы культуры рускіх у пытаннях шлюбу і сям'і, а таксама ў адносінах дзетанараджальнасці. Гэтым і тлумачыцца меншая, чым у сярэднім па рэспубліцы, колькасць нараджальнасці на 1000 жанчын-беларусак ва ўзросце 15 — 49 гадоў на тэрыторыі Віцебшчыны /у 1979 г. — у гарадскіх паселішчах 57, у сельскіх — 49/ у параўнанні з сярэдняй у РБ /адпаведна — 64 і 56/.

У залежнасці ад нацыянальнасці назіраецца і дыферэнцыяцыя смяротнасці. Больш высокія паказчыкі смяротнасці беларусаў /на 50 % вышэй, чым у рускага насельніцтва/ тлумачацца вельмі неспрыяльнай структурай беларускага насельніцтва ва ўзросце.

Што тычыцца натуральнага прыросту беларусаў і рускіх у Віцебскай вобласці, дык калі ў 1970 г. ён адбываўся, у асноўным, за кошт беларусаў /71,4 %/, а на долю рускіх прыпадала толькі 21,6 % прыросту /па РБ гэтыя паказчыкі складалі адпаведна 76,9 і 13,7 %/, то ў 1989 годзе ўжо 47,8 % натуральнага прыросту далі рускія, беларусы ж — 47,2 % /па РБ існуючае становішча амаль не змянілася/. Дадзеная сітуацыя склалася ў асноўным за кошт сельскай мясцовасці, дзе колькасць беларусаў скарачаецца асабліва моцна. Абсалютная ж колькасць асоб рускай нацыянальнасці ў сілу іх спрыяльнай узроставай структуры, наадварот, узрастае. Такім чынам, натуральны прырост беларускага насельніцтва Віцебшчыны ў выніку асаблівасцей нараджальнасці і смяротнасці павялічваецца ў 2,5 — 3 разы марудней, чым па Беларусі ў сярэднім. Калі гэтая тэндэнцыя захаваецца і ў далейшым, то настане натуральная дэпапуляцыя беларусаў.

Адной з прычын змен колькасці насельніцтва з'яўляецца і міграцыя. У апошнія гады /з 1989 г./ Віцебшчына стала аб'ектам міграцыі з-за стабільнасці тут палітычнай абстаноўкі і экалагічнай чысціні. Пад уплывам міграцыі /асабліва міждзяржаўнай/ зніжаецца доля беларусаў і расце ўдзельная вага іншых нацыянальнасцей, асабліва рускіх.

Больш высокія тэмпы росту колькасці прадстаўнікоў іншых народаў у спалучэнні са скарачэннем колькасці беларусаў, якое, па нашых падліках, пачалося недзе з пачатку 90-х гг., дае падставу меркаваць, што ў далейшым павелічэнне насельніцтва вобласці будзе ажыццяўляцца, у першую чаргу, за кошт небеларускага насельніцтва.

За апошнія 30 гадоў /з 1959 па 1989 гг./ натуральны прырост на тэрыторыі Віцебскай вобласці зменшыўся ў 6 разоў /у РБ — у 4/. Найбольш неспрыяльная сітуацыя склалася ў сельскай мясцовасці, дзе ўжо з 1972 года ў натуральным руху настала зніжэнне колькасці насельніцтва. Цяжка адназначна сказаць, як пойдзе справа далей. Нават прагнозы надвор'я на заўтрашні дзень часта не спраўджваюцца, а ў такім далікатным пытанні, як нараджальнасць, памыліцца яшчэ лягчэй. Па дэмаграфічных прагнозах змяншэнне насельніцтва ў бліжэйшыя гады ў РБ будзе ўзрастаць, але, адзначым, з'ява гэта часовая, бо на яе перш за ўсё дзейнічае такі дэмаграфічны фактар, як старэнне насельніцтва.

У 1993—1995 гг. дэмаграфічная сітуацыя ў рэспубліцы будзе характарызавацца далейшым скарачэннем прыросту колькасці насельніцтва /менш за 0,2 % у сярэднім за год/, а ў перыяд з 1996 па 2000 г. — ужо стабілізацыя гэтых тэмпаў. Як паказваюць дэмаграфічныя прагнозы, структурныя фактары будуць адмоўна дзейнічаць да канца 90-х гг, пакуль не ўступяць у актыўны дзетанараджальны ўзрост жанчыны 70-х гг. нараджэння, а ў перыяд пасля 2000 года пачнецца некаторае павышэнне тэмпаў прыросту насельніцтва РБ — да 0,25 % у сярэднім за год. Пачне паляпшацца ўзроставая структура насельніцтва /у тым ліку і сельскага, што асабліва важна/. Да 2010 года на долю Віцебскай вобласці прыпадзе амаль 17 % прыросту працоўных рэсурсаў РБ. Але, вяртаючыся да сённяшняга дня, трэба адзначыць, што з пункту гледжання спецыялістаў /дэмографаў, этнолагаў, сацыёлагаў, географаў/ цяперашняя дэмаграфічная сітуацыя ў Беларусі куды больш сур'ёзная, чым яна паказваецца ў многіх газетных публікацыях. Няма простых, аднаразавых мер, здольных яе папраўціць. Адна з прычын гэтага — адсутнасць у рэспубліцы дзяржаўнай дэмаграфічнай праграмы, якая вызначае дэмаграфічную палітыку на бліжэйшыя гады.

Паглядзіце на звод прынятых нашым парламентам законаў. Якіх іх толькі няма! Але дзе сярод іх закон аб дэмаграфічнай палітыцы? Нашы спецыялісты-дэмографы маглі б яго распрацаваць, ды ніхто ім гэта не прапануе.

**С. ПОЛЬСКІ,**
**заг. лабараторыі этнічнай і канфесійнай геаграфіі Белпедуніверсітэта, доктар геаграфічных навук, прафесар**

**М. БОБРЫК,**
**аспірант кафедры эканамічнай і сацыяльнай геаграфіі БДПУ**

# ХТО СКАЗАЎ, ШТО ЮБІЛЕЙ — 50?

**У Доме літаратара прайшла вечарына, прысвечаная 40-годдзю М. Мятліцкага. Назва яе «Мой боль вырастае да зор...» вызначыла асноўныя накірункі гаворкі, што вынікаюць з самой паэзіі М. Мятліцкага. Болем пра лёс землякоў, якія зведалі на сабе, што такое Чарнобыль, і болем пра лёс усёй Беларусі, якая па-ранейшаму адчувае на сабе ўплыў гэтай самай страшнай у гісторыі чалавецтва катастрофы, прасякнута яна. Асабліва гэты боль адчувальны ў кнізе М. Мятліцкага «Палескі смутак», якая, як сказаў вядучы вечара народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін, найлепшая кніга ў беларускай паэзіі пра чарнобыльскую бяду.**

**Пра Мятліцкага — паэта, грамадзяніна, прэзідэнта дабрачыннага фонду «Палескі смутак», проста як пра чалавека, калегу і таварыша гаварылі Б. Сачанка, А. Пісьмянкоў, заслужаны дзеяч Рэспублікі Беларусь В. Анісенка, мастак У. Гардзеенка, старшыня Хойніцкага райвыканкома А. Акушка і іншыя. Прачулыя вершы, прысвечаныя юбіляру, прачыталі У. Паўлаў, А. Канапелька, Я. Хвалей. У выкананні народнай артысткі Беларусі М. Захарэвіч гучалі вершы самога М. Мятліцкага. Свае песні на словы паэта выконвалі кампазітар Г. Смоляк і бард А. Атаманаў. Віталі М. Мятліцкага сваім канцэртам юныя ўдзельнікі ансамбля «Вавёрачка» з сярэдняй школы N 11 г. Мінска, над якой паэт узяў своеасаблівае шэфства і дзе, дзякуючы яму, праходзяць урокі Адраджэння.**

**А ў заключэнне выступіў і юбіляр. Ён прачытаў вершы, паведаміў, што зараз працуе над новай кнігай. Яна — зноў пра землякоў, пра іх няпростыя лёсы, а назву будзе мець «Бабчын» /імя роднай вёскі паэта, якая засталася там, у зоне/.**

**Н. К.**

# ЯК ЛЮБЯЦЬ ЛЯЛЕЧНІКАЎ



**Міжнародны дзень тэатра Магілёўскі абласны тэатр лялек святкаваў як мае быць: шоу лялек і акцёраў прыцягнула ўвагу не толькі сяброў ды аматараў, але і спонсараў — Упраўлення культуры аблвыканкама, гарвыканкам, фірмы «Вольга» ды «Агат-2», а таксама абласную і гарадскую прэсу. Абвесткі, афішы, аб'явы пра баль у лялечным тэатры, які зладзілі ды зрэжысавалі Алег Жугжда і дырэктар тэатра Наталля Аўдзеева /па прафесіі, між іншым, таксама рэжысёр/, друкаваліся і абвяшчаліся бясплатна. Няўжо высноваць застаецца пра тое, як лялечнікаў любяць у Магілёве?**

**На здымку: удзельніца шоу лялек і акцёраў Маленькая балерынка з вечаровай праграмы Алега Жугжды «Гарбата на дваіх».**

# «БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА», N 3

**«Прывід сцяны» — такую назву маюць развагі П. Васючэнкі ў трэцім нумары часопіса «Беларуская думка», пазначаная, як «нататкі выкладчыка беларускай літаратуры». У «Літаратурнай гасцёўні» — вершы А. Канапелькі і навелы А. Гарая.**

**«Беларускае кіно на літаратурным падмурку» — артыкул Е. Бондаравай. В. Казлякоў /«Душа і фарбы мастака»/ гутарыць з Ю. Багушэвічам. Г. Вакуеў дзеліцца ўражаннямі ад беларускага монаспектакля — «Грае адзін за ўсіх...» Да пытання аб этнагенезе баларусаў звяртаецца ў артыкуле «Адкуль мы?» В. Бандарчык. «Заложнікі, хоць мы гэтага не заўважаем. Дакуль?» — публіцыстычны роздум У. Глушакова.**

**Прадстаўлены традыцыйныя раздзелы «Як жыць далей?», «Мы і XX стагоддзе», «Паліталогія» і іншыя.**

Інтэрв'ю ў нумар

# ЗЕРНЕ — У ГЛЕБЕ. КОЛАС ТРЭБА ВЫПЕСТАВАЦЬ

***Фонд духоўнага яднання «Міжнародны фестываль «Магутны Божа» створаны ў Магілёве. Карэспандэнт «ЛіМа» гутарыць з прэзідэнтам фонду Анатолем ШПІЛЬКОВЫМ.***



**— Спадар Анатоль, маю да вас пытанні не толькі як да прэзідэнта новага фонду, але і як да чальца аргкамітэта Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі. Зусім нядаўна «ЛіМ» змясціў інфармацыю насустрач сёлетняму фестывалю...**

— Так, мы рыхтуем ужо другі фестываль духоўнай музыкі, і я хацеў бы падкрэсліць невыпадковасць з'яўлення гэтага свята менавіта ў наш час і менавіта на нашай зямлі. У свеце не было і няма мерапрыемстваў, аналагічных Міжнароднаму фестывалю «Магутны Божа», нараджэнне якога ў Магілёве можна лічыць свайго роду ўказам, ці просьбай, ці яшчэ нейкі сінонім тут ёсць, — самога Госпада. Магілёў сёння тое месца на нашай Бацькаўшчыне, дзе сканцэнтравалася, скажам так, шмат цемнаты рознай, але ў яго — вялікая духоўная будучыня.

**— І ў гэтую будучыню мы ўжо, можна сказаць, зазірнулі? Помніцца, як апантаныя нядобразычліўцы розных рангаў намагаліся сарваць правядзенне першага фестывалю. Нават напярэдадні адкрыцця. Але ён адбыўся, і гэта называлі цудам...**

— Я назваў бы першы фестываль своеасаблівым такім зярняткам, якое пасаджана ў глебу і з якога вырасце вялікі плод, альбо дрэва, альбо колас вялікі, багаты... Тут можна згадаць вядомую біблейскую прыпавесць пра зерне.

**— Зразумела. Але ў такім разе — на якую глебу ўпала духоўнае зярнятка? На ўкамянелую, на пясок, у балота? Ці ўсё ж такі на тую глебу, што здатная вынесці парастак з гэтага зерня да сонца, да святла, да неба,ператварыць яго ў калоссе?**

— На маю думку, зярнятка гэтае пасаджана ў глебу нядатную — так скажам. Але наколькі вырасце багатым плод і наколькі ён прынясе карысць, духоўную спажыву людзям, залежыць усё ж такі ад тых, хто будзе даглядаць парастак, вырошчваць колас. Я тут маю на ўвазе наш арганізацыйны камітэт і праўленне фонду. У аргкамітэце засталіся тыя ж, хто ўваходзіў у яго летась. Сярод іх, як вы памятаеце, — музычныя работнікі Аляксандр Аляксеенка, Жанета Ялфімава, дырэктар музея гісторыі горада Магілёва Ігар Пушкін. Яны ж увайшлі і ў праўленне фонду. Дырэктарам фестывалю з'яўляецца, як і раней, ксёндз Раман Факсінські. Дзякуй Богу, арганізацыяй фестывалю займаюцца людзі, якія абсалютна бескарыслівa і самааддана працуюць дзеля грамадства, дзеля духу чалавечага, каб ён абудзіўся, не заплесневеў, не счарсцвеў зусім, не заржавеў.

Ідэя свята духоўнай музыкі прыйшла ў Магілёў праз ксяндза Уладзіслава Бліна, і ў касцёле св. Станіслава размясціўся штаб першага фестывалю. Многім гэта дало падставу думаць, што, маўляў, «там каталікі сабраліся». Не. Я, напрыклад, па сваім веравызнанні праваслаўны, музычныя работнікі ўвогуле не веруючыя, Ігар Пушкін — католік, ёсць у нашай суполцы і пратэстанты... Але ўсе мы разам імкнёмся да таго, каб як мага болей людзей розных веравызнанняў ядналіся праз фестываль, праз музыку, праз духоўнае мастацтва, не глядзелі воўкам адно на аднаго, жылі ў міры, спагадзе і любові да Госпада.

**— Ваша «арганізацыйнае ядро», у літаральным сэнсе змагаючыся за фестываль, вядома ж, загартавалася. А ці набылі вы памочнікаў, духоўных спадарожнікаў?**

— Наша «ядро» сілкавалася добрымі справамі многіх людзей, сярод якіх ёсць актыўныя чыннікі й сёлетняга фестывалю. Напрыклад, дэпутат Магілёўскага абласнога Савета Наталля Рослава, яна ж і старшыня камітэта «Дзеці Чарнобыля», і старшыня фонду адраджэння культурнай спадчыны Магілёва; гэта і дэпутат гарадскога і абласнога Саветаў Віталь Васількоў; і старшыня абласнога тэлерадыёаб'яднання Генадзь Суднік /летась ён распарадзіўся выкарыстоўваць перасоўную тэлекамеру толькі для фестывальных здымкаў/... Многіх можна было б назваць. Заручыліся мы і падтрымкай «Дайновы» на чале з Адамам Палюховічам. І за лёс сёлетняга фестывалю я спакойны. Ён будзе нават мацнейшы, шырэйшы, чым першы.

Адпраўлены запрашэнні ў розныя замежныя краіны: Вялікабрытанію, Францыю, Германію, Аўстрыю, Аўстралію, ЗША, Ізраіль і г. д. Ужо нямала паступіла заявак, з усіх кантынентаў свету, ад будучых удзельнікаў фестывалю. Дарэчы, асвятляць яго далі згоду не толькі кампанія «Астанкіна», а і прадстаўнікі «Бі-Бі-Сі», «Голасу Амерыкі», «Эн-Бі-Сі», радыё «Свабода», «Ватыкан» і інш. Запрошаны, зразумела, журналісты газет і часопісаў. Далі згоду прыехаць у якасці гасцей і многія ўдзельнікі Першага з'езда беларусаў свету. Даслалі мы запрашэнне і аўтарцы верша «Магутны Божа» Наталлі Арсенневай /сёння яна мае прозвішча Богуш/ ды яе старэйшаму сыну.

**— Дарэчы, гімн-малітва Міколы Равенскага «Магутны Божа», які стаў музычным сімвалам фестывалю, гучаў на ім і як уверцюра, і як апафеоз — у выкананні вялікага аб'яднанага хору, якім дырыжыраваў прафесар Віктар Роўда. Ці будзе гэта традыцыяй?**

— Наконт таго, што вы называеце уверцюрай свята, ёсць некалькі меркаванняў. Ад нашага вядомага спевака, члена журы фестывалю, Віктара Скорабагатава паступіла прапанова выканаць на адкрыцці прэм'еру арыгінальнага сучаснага твора, навеянага Бібліяй, над якім працуе цяпер кампазітар Віктар Капыцька. Другая прапанова — паказаць работу амерыканскіх гасцей, оперу Джэрама Хайнса «Я ёсць шлях», прысвечаную Хрысту. Магчыма, будзе нейкі іншы варыянт адкрыцця, час пакажа. А вось закрывацца кожны фестываль будзе менавіта выкананнем гімна «Магутны Божа». І спадзяюся, што яшчэ доўгі час вялікім зводным хорам будзе дырыжыраваць наш народны артыст Віктар Роўда.

**— Сёлета будзе ўстаноўлены і прыз імя Міколы Равенскага?**

— Так. І гэта ўжо ідэя нашага фонду. Пакуль ідзе конкурс на лепшую выяву фестывальных прызоў, плакатаў, значкоў ды іншай сімволікі, не бяруся казаць нічога канкрэтнага. Хіба толькі тое, што прызы будуць выраблены з каляровага шкла, і прыз імя Міколы Равенскага будзе ўручаць дачка кампазітара — Вольга Мікалаеўна Аляксеенка.

**— Я ведаю, спадар Анатоль, што сёлета вы наладжваеце супрацоўніцтва з Міністэрствам культуры, што адбылася зацікаўленая гаворка прадстаўнікоў аргкамітэта з намеснікам міністра спадаром Рылаткам. Ёсць надзея на сур'ёзную дзяржаўную падтрымку вашых ініцыятыў, скіраваных на маральнае ачышчэнне нацыі, на духоўнае ўратаванне нашай моладзі, на абуджэнне і захаванне ўсяго лепшага, што ёсць у чалавеку, на процістаянне агрэсіі ды цемрашальству. І калі летась усё фестывальнае жыццё гарнулася да касцёла, дык сёлета, відаць, ён будзе адной з шэрагу канцэртных пляцовак?**

— На гэты раз аргкамітэт мяркуе праводзіць свае нарады ці «круглыя сталы» ўжо не ў касцёле, як было летась. І нават пілігрымы, якія зноў наведаюцца ў Магілёў, зробяць гэта не з мэтай памаліцца ў святым месцы, а каб узяць удзел у фестывалі. Касцёл, сапраўды, будзе адной з канцэртных пляцовак фестывалю, для паказу тых праграм, якія вымагаюць пэўных акустычных умоў, арганнага суправаджэння і да т. п. Дарэчы, удзельнікаў фестывалю будуць слухаць два журы: адно — выканаўцаў акадэмічнага напрамку /яго ўзначальвае Віктар Роўда/, другое — эстраднага напрамку /даў згоду быць старшынёй гэтага журы Анатоль Ярмоленка/. Мажлівы нават канцэрт «зорак» беларускай эстрады ў Пячорскім лесапарку. Словам, наша фестывальнае жыццё і царкоўнае жыццё — зусім розныя рэчы.

Гэтаксама не трэба блытаць з царкоўнай дзейнасцю і працу нашага фонду духоўнага яднання. Фонд — грамадскае аб'яднанне на, так бы мовіць, свецкай аснове, якое будзе працаваць для правядзення фестывалю «Магутны Божа», а вось у час паміж фестывалямі наладжваць розныя культурныя акцыі, выстаўкі мастацкіх работ на духоўную тэматыку, кінапаказы, невялічкія музычныя імпрэзы і да т. п. І, напэўна, не толькі ў Магілёве. Наш фонд мусіць займацца тым, што будзе падтрымліваць у сэрцах людзей агеньчык, запалены фестывалем, каб ён год ад году набіраў моцы. Каб жывіў гэты агеньчык вялікае свята духу.

**— Хай дапаможа вам Бог. Дзякуй, спадар Анатоль, за інтэрв'ю.**

**Гутарыла С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

Фестывалі

# МАЛЕНЬКІ КРОК У ВЯЛІКІ СВЕТ

«Адсвінгаваў» у Мінску традыцыйны ўжо зімовы джаз-фестываль. Пачаўшыся колькі гадоў таму як Дні фартэпіяннага джазу, ён эвалюцыянаваў у Першы міжнародны фестываль джазавай музыкі. Дарэчы, эвалюцыя з Дзён фартэпіяннага джазу ва ўласна джаз-фестываль пачалася з першага ж кроку, бо сярод удзельнікаў тады былі не толькі піяністы, але й такія мультыінструменталісты, як У. Чакасін, які скарыстоўвае, ператвараючы ў інструмент, усё, здатнае выдаваць гукі: ад сінтэзатара да дзіцячых цацак. А што датычыць міжнароднага статуса, дык сёлетні фестываль быў інтэрнацыянальным не толькі ў СНД-оўскім разуменні гэтага слова: акрамя Расіі, Літвы ды Беларусі, удзельнічалі прадстаўнікі Швецыі, Бельгіі, Ізраіля і Францыі, прычым, несумненна, музыканты найвышэйшага класа.

Адметнай рысай фестывалю была разнастайнасць жанраў і формаў: тут і біг-бэнды, і вакальныя групы, і камерныя трыо, і калектывы, што спавядаюць сучасны аўтычны джаз. Прыемна адзначыць поўную залу і вольную атмасферу падчас канцэртаў. Аднак не абышлося без кур'ёзаў. Ізраільскія музыканты, убачыўшы акадэмічную канцэртную залу, здзівіліся: а дзе столікі для публікі, дзе выпіўка з закускаю? Так, сусветная традыцыя правядзення джаз-фестываляў вымагае і гэтага, але ж да сучасных стандартаў ва ўсіх сферах жыцця нам яшчэ доўга крочыць. Не ўсё адразу. А на гэтым этапе, дзякуй Богу, знайшліся і спонсары, і гарадскія ўлады паспрыялі правядзенню фестывалю, і білеты былі па прымальных цэнах.

Але, як справядліва заўважыў У. Феертаг, што вёў канцэрты, каб фестываль быў фестывалем, а не гастролямі заезджых артыстаў, гаспадарамі імпрэзы павінны быць мясцовыя музыканты. Такім гаспадаром быў аркестр М. Фінберга — Дзяржаўны канцэртны, які падрыхтаваў шыкоўную праграму. Акрамя таго, выдатна выступілі ансамблі салістаў гэтага калектыву — пад кіраўніцтвам І. Сацэвіча ды Б. Бернштэйна. А пад канец фестывалю салісты аркестра разам з салістамі вядомага біг-бэнда А. Крола наладзілі супольнае музіцыраванне — джэмсэйшн, без якога джаз — не джаз.

Карацей кажучы, фестываль адбыўся, адбыўся не толькі як падзея, але й як значная з'ява культурнага жыцця. Застаецца пажадаць, каб чарговыя зімовыя джаз-фестывалі ў Мінску былі б раз ад разу ўсё больш маштабнымі ды значнымі, каб да нас ехалі джазмены такога рангу, як, скажам, Майлс Дэвіс, Стэн Гец або Дэйв Брубэк.

**С. ШЛЁНСКІ**







*На здымку: музычны трыпціх з канцэртных партрэтаў Элі МАГЕНА /Ізраіль/, Нэды МАЛУНАВІЧУТЭ /Літва/ ды Юрыя ШЫХІНА /Расія/.*

*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

# КОНКУРС — ПРАЦЯГВАЕЦЦА!

***Падведзены вынікі другога конкурсу «Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры». Арганізаваны ён саветам садзейнічання бібліятэчнай справе, які актыўна дзейнічае пры Беларускім фондзе культуры.***

У творчым спаборніцтве прынялі ўдзел 45 бібліятэк краіны — сельскія, гарадскія, дзіцячыя, школьныя. 10 з іх вызначаны пераможцамі. За адраджэнне нацыянальнай культуры, прапаганду яе гісторыі і каштоўных духоўных набыткаў фонд культуры ўзнагародзіў кожную з лепшых бібліятэк ганаровымі граматамі БФК, грашовымі прэміямі і падарункамі.

Невыпадкова ў ліку пераможцаў — Асавецкая сельская бібліятэка. Яна не проста існуе ў Мазырскім раёне, на забруджанай радыяцыяй Гомельшчыне, яна — дзейнічае! Не толькі кнігамі выхоўваюць тут у старых і малых павагу да мінулага. Намаганнямі актывістаў клуба «Пошук», які ўзначаліў бібліятэкар Іван Маладзьянаў, уваскрэслі імёны і лёсы 35 змагароў, што загінулі ў мінулую вайну за вызваленне ад фашызму нашай малой і агульнай Бацькаўшчыны.

А вось калектыў мінскай бібліятэкі «Юнацтва», якім кіруе Валянціна Каршыкава, вызначыўся тым, што, акрамя ўсяго іншага, знайшоў сілы і энтузіязм арганізоўваць сямейныя вечарыны самай разнастайнай тэматыкі.

У ліку пераможцаў — і бібліятэка прафесійна-тэхнічнага вучылішча N 160 Лунінца, што на Брэстчыне. Ёй загадвае таксама няўрымслівы чалавек — Ніна Дамашэвіч. Гэтая бібліятэка вылучылася «прагай да барацьбы» — адзіная, якая рызыкнула другі раз прыняць удзел у конкурсе.

А ён працягваецца! Беларускі фонд культуры запрашае да ўдзелу ў наступным этапе конкурсу калектывы ўсіх бібліятэк рэспублікі. Хай не сумняваюцца ў сваёй прафесійнай моцы сціплыя, асабліва сельскія бібліятэкі. Хто ведае, магчыма, вы іх, прадстаўнікі, акажацеся раптам для цэлай рэспублікі самымі таленавітымі, бескарыслівымі майстрамі бясцэннай справы — бібліятэчнай?

Параду, падтрымку і даведкі заўсёды можна атрымаць у Беларускім фондзе культуры. Званіце па тэлефоне 277-695.

**В. КУДРАЎЦАВА**

## НАШ КАЛЯНДАР

**6 красавіка — 90 гадоў з дня нараджэння Міколы ХВЕДАРОВІЧА /1904—1981/. Друкаваўся з 1925 года. Найбольш вядомы як паэт. Пісаў таксама для дзяцей, выступаў у галіне перакладу і прозы. Аўтар кніг успамінаў «Памятныя сустрэчы», «Незабыўнае». Быў ахвярай сталінізму.**

**13 красавіка — 50 гадоў з дня нараджэння паэта Уладзіміра ЛІСІЦЫНА /1944—1973/. Нарадзіўся ў фашысцкім канцлагеры Флігегорт. Апошнія гады жыў у Джанкоі. Першай кнігі «Жураўлінае вясло» /1974/ так і не паспеў пабачыць.**

**14 красавіка — 240 гадоў з дня нараджэння Мікалая РУМЯНЦАВА, рускага дзяржаўнага дзеяча, выдаўца-мецэната. У гомельскім палацы сабраў шмат кніг, рукапісаў, твораў мастацтва.**

**15 красавіка — 95 гадоў з дня нараджэння Вольгі СУРСКАЙ /1899—1952/. Пісала па-руску. У перакладзе на беларускую мову выйшла кніжка казак «Маладыя дубкі» /1952/. Акрамя вершаў для дзяцей, пісала інсцэніроўкі, перакладала на рускую мову творы азербайджанскіх, армянскіх і грузінскіх пісьменнікаў.**

**16 красавіка — 130 гадоў з дня нараджэння Аляксандра СЛУПСКАГА /1864 — каля 1907/, беларускага і рускага гісторыка і археолага. У «Паўночна-Заходнім календары на 1888 год» апублікаваў гістарычны нарыс «Ізяслаўль і Тураў...» Пад яго рэдакцыяй выйшлі такія календары на 1892 і 1893 гады. У іх змясціў «Народны каляндар» паводле народных прыкмет, абрадавых песень, прыпевак; артыкулы «Гісторыя Мінска» і «Легенда пра Магілёў».**

**17 красавіка — 130 гадоў з дня ўтварэння Віленскай камісіі для росшуку і выдання старажытных актаў. У 1865—1915 гадах выйшла 39 тамоў дакументаў XIV—XIX стагоддзяў па гісторыі Беларусі і Жамойці.**

**18 красавіка — 180 гадоў з дня нараджэння Яўстафія ТЫШКЕВІЧА /1814—1873/, беларускага археолага, гісторыка, этнографа і краязнаўцы, аднаго з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі. Падрабязна яго жыццёвы і навуковы шлях прасочваецца ў кнізе Г. Каханоўскага і А. Каханоўскага «Руплівец нашай старасветчыны» /1991/.**

**18 красавіка — 90 гадоў з дня нараджэння рускага літаратуразнаўцы, даследчыка беларускай старажытнай літаратуры Ігара ЯРОМІНА /1904—1963/.**

**20 красавіка — 80 гадоў з дня нараджэння Міхася ЮДЭЛЕВІЧА /1914—1941/. Загінуў на фронце. З 1929 года выступаў у галіне драматургіі. Пісаў арыгінальныя творы, рабіў інсцэніроўкі, перакладаў на рускую мову некаторыя творы беларускай драматургіі.**

**25 красавіка — 90 гадоў з дня нараджэння /1904—1984/ Васіля БАРЫСЕНКІ, крытыка, літаратуразнаўцы, акадэміка Акадэміі навук Беларусі. Напісаў шэраг кніг, сааўтар /разам з В. Івашыным/ падручніка «Беларуская літаратура» для 8 класаў, які вытрымаў 17 выданняў. Складальнік зборнікаў «Беларуская дакастрычніцкая проза» і «Беларуская дакастрычніцкая паэзія».**

**26 красавіка — 95 гадоў з дня нараджэння Ільі ГУРСКАГА /1899—1972/. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1928 годзе як драматург. Выступаў і ў галіне прозы, пісаў для дзяцей.**

**26 красавіка — 90 гадоў з дня нараджэння Міхася МОДЭЛЯ /1904—1980/. Выдаў зборнік артыкулаў «Тэатр і драматургія» /1935/, брашуру «Ларыса Пампееўна Александроўская» /1945/, кнігу нарысаў «Народныя артысты БССР» /1948/.**

## ВАСІЛЮ СТРУМЕНЮ — 80

**1 красавіка споўнілася 80 гадоў беларускаму і ўкраінскаму пісьменніку Васілю Струменю /Аляксандру Мікалаевічу Лебедзеву/. Нарадзіўся ў вёсцы Лявонцьева Калагрыўскага раёна Кастрамской вобласці. У 1921 годзе пераехаў на радзіму айчыма ў вёску Зачэпічы Дзятлаўскага раёна. У 1930 годзе арганізаваў і ўзначаліў камсамольскую ячэйку, у 1932 годзе стаў членам КПЗБ. Неаднаразова арыштоўваўся, сядзеў у турме.**

**Друкаваў вершы ў «Беларускай газеце» і яе дадатку — часопісе «Літаратурная старонка», а таксама ў газеце «Наша воля» і часопісе «Асва», іншых выданнях. Выступаў з нататкамі, карэспандэнцыямі аб цяжкім жыцці беларусаў у Заходняй Беларусі.**

**Асобныя творы В. Струменя прадстаўлены ў калектыўных зборніках, у тым ліку і ў кнізе заходнебеларускай паэзіі «Сцягі і паходні» /1965/.**

**Цяпер В. Струмень жыве ў горадзе Сарны на Ровеншчыне.**

**Віншуем Аляксандра Мікалаевіча з юбілеем, зычым яму моцнага здароўя!**

***Пасля маёй публікацыі ў «ЛіМе» «Дума пра Адама Варлыгу» /у канцы 1991 года/ прайшло нямала часу. Тады я і думаць не мог, што давядзецца працаваць у Міністэрстве замежных спраў і займацца пытаннямі беларускай эміграцыі. Дзякуючы гэтаму я пазнаёміўся з многімі людзьмі, якія расказвалі мне пра Я. Гладкага /Адама Варлыгу/, пазнаёміўся з многімі яго творамі. Падчас Першага з'езда беларусаў свету, у падрыхтоўцы і правядзенні якога я прымаў пасільны ўдзел, я пазнаёміўся з Вітаўтам Кіпелем. Ён успомніў пра мой артыкул у «ЛіМе», расказаў, што Я. Гладкі жыў у Нью-Йорку на адной кватэры з А. Шукелойцам, і той рыхтуе для мяне нізку матэрыялаў.***

***За гэты час на доме ў вёсцы Міхалкавічы, дзе жыў Гладкі, з'явілася часовая мемарыяльная дошка, прысвечаная яму і яго брату Казіміру, таксама настаўніку, забітаму ў 30-я гады. Мне сёе-тое трапіла ў рукі з былой багатай бібліятэкі Гладкіх, з іх асабістых рэчаў. Спадзяюся, што некалі ў Міхалкавічах будзе музей братоў Гладкіх.***

***Часопіс «Беларуская мова і літаратура ў школе» плануе надрукаваць некаторыя творы са спадчыны Язэпа Гладкага: казкі, забабоны, песні, прыказкі Лагойшчыны. Дзякуючы намаганням студэнтаў малодшых курсаў філфака педінстытута і іх кіраўніка У. Васілевіча на кірыліцу пераведзены з лацінкі «Краёвы слоўнік Лагойшчыны». Цяпер трэба знайсці, каб хто надрукаваў гэту скарбонку чысцюткай, яшчэ не забруджанай неалагізмамі і запазычанымі словамі жывой народнай мовы.***

***У вайну Язэп Гладкі жыў у Мінску на вуліцы Мопраўскай — была такая побач са Старажоўскай /цяпер гэта месца апынулася на тэрыторыі Сувораўскай ваеннай вучэльні/. Да яго нярэдка заходзілі былыя вучні. Ён гутарыў з імі, частаваў, чым прыйдзецца, вадзіў у кіно. Вельмі радаваўся, калі да яго заходзілі землякі з Карэншчыны. Кожнага падрабязна распытваў, цікавіўся, як жывуць людзі, як было даўней. Мне расказваў дзед Шаршун з Грамніц, які тады быў падлеткам: як ездзіў у вайну з бацькам і двума дзядзькамі па соль у Мінск. Спыніліся ў Гладкага. Дзядзькі пагаманілі — і на бок. А Гладкі ўсю ноч сядзеў пры каганцы ў баковачцы і нешта запісваў у тоўстую кнігу. Калі хлопец спытаўся, што той піша, Гладкі адказаў, што піша пра людзей, пра чутае, бачанае, пражытае.***

***Язэп Гладкі марыў быць пахаваным на роднай Карэншчыне. Аднак лёс распарадзіўся так, што яго прытуліла чужая зямелька ў далёкай Амерыцы. Душа ж яго лунае над мілай старонкай, над яго Карэншчынай.***

***Паслухайма, што гэта за чароўны край!***

***Уладзімір ПАЛУПАНАЎ***

Адам ВАРЛЫГА

# КАРЭНШЧЫНА

## УСПАМІН-НАРЫС З КАНЦА XIX—ПАЧАТКУ XX СТ. *



*Язэп ГЛАДКІ /Адам ВАРЛЫГА/.*

### ЗЯМЛЯ—ЛЮДЗІ

Ад іншых прастораў Меншчыны Карэншчына аддзяляецца амаль што ўсюды натуральнымі межамі. З поўначы яе мяжуе былая скарбовая Кацялеўская лясная дзялянка, што калісьці належала Хатавіцкім дамініканам. Пасля нейкіх паўтара кіламетра поля мяжа далей праходзіць на ўсход балотам Чысцік. З усходу яна ідзе лясамі Графшчына, якія калісьці належалі лагойскаму графу Тышкевічу. З паўдзённага ўсходу лясамі Палік і, на працягу аднаго кіламетра, полем каля вёскі Кузевічы, мяжа даходзіць да ракі Гайна. Далей паўдзённая мяжа ідзе Гайнай і ейным прытокам, рэчкай Айнараўкай. На захадзе, балотам Чарцеж, мяжа праходзіць да рэчкі Ілля, ды гэтай рэчкай да Гарбатага Мосту й да той самай Кацялеўскай лясной дзялянкі.

Вялікіх рэк, за вылучэннем успомненых межавых рэчак Гайны, правага прытоку Бярэзіны, ды Іллі, у Карэншчыне няма. Ёсць два прыродныя азёры: Вострава ўва ўсходняй частцы балота Чысцік, каля 15 гектараў плошчы, і Палік на балоце, каля 3 га. З двух вялізных балотаў адно працягваецца па заходняй і паўдзённай мяжы пачынаючы ад Гарбатаго Мосту, з правага боку рэчкі Іллі, а далей, праз вададзел Чорнага й Балтыйскага мораў, на ўсход, па левым беразе рэчак Айнараўка й Гайна, ды канчаецца балотам Палік. Гэта балота Чарцеж. Другі балотны масіў — балота Чысцік — ляжыць на паўночна-ўсходнім баку краю. Балоты займаюць каля 20 % усёй прасторы. Вялікіх лясоў мала. Адзін лясны масіў раскінуўся ў заходнім кліне, гэта Верацейка. Другі, Ставок, у паўночна-ўсходнім рагу. Трэці, Палік, у паўдзённа-ўсходнім куце. Глеба лёгкая, супяшчаная. Цяжкой зямлі — падзолаў і суглінкаў — мала.

У мінулым прастора Карэншчыны падзялялася на дзве часткі. Паўночна-заходні кут, пачынаючы Укропавічамі й Лозкамі, быў заселены малымі шляхоцкімі фальваркамі, адзіноткамі й засценкамі. Між імі былі толькі дзве невялікія вёскі — Высокія Укропавічы й Пуцілава. Людзі ж усіх іншых цяперашніх вёсак — Міхалкавічаў, Жырблевічаў, Лішчыцаў, Пруткоў, Казыроў, Церахоў, С.-Чэрнева й Грамніц, — жылі невялікімі паселішчамі, па колькі хатаў разам, вольна, ды належалі, невядома з якога часу, капітуле віленскага біскупства. Сяляне гэтае прасторы плацілі па тры дукаты ад дыму на год, але зямлі й сенажаці маглі расцярэбліваць колькі хацелі. На гэтую прастору прымаліся й новыя людзі на пасяленне. Новы пасяленец жыў тры гады дарма, а пасля нараўне з іншымі мусіў плаціць па тры дукаты ад дыму. Падаткі накіроўваліся ў Вільню.

Пасля заняцця краю Расеяй гэтыя вольныя людзі былі далучаныя да двара Мураванка. Гэтую ж Мараванку царыца Кацярына II падаравала свайму прыслужніку, урадоўцу Няплюеву. Ён быў першым менскім віцэ-губернатарам. Ад гэтага часу вольныя людзі Карэншчыны павінны былі адрабляць прыгон у Мураванцы па адным дні на тыдзень. Паводле народных пераказаў, людзі ўхіляліся ад прыгону. Ды іх нялёгка было й выганяць на прыгон, бо яны былі расселеныя маленькімі групкамі па лясах. Таму новы абшарнік загадаў, каб гэтыя людзі перасяліліся ў вялікія вёскі ды адвёў ім там сялібы. Хто ж не хацеў перасяляцца ў вёскі, Няплюеў загадаў папаліць іхні будынак і нанава будавацца на старых месцах не дазваляў. Але ўсё ж не ўсе засценкі й адзіноткі былі тады сагнаныя ў вялікія вёскі, бо Ідаліна, Селішча, Града, Вострава, Барсукі ды іншыя пратрымаліся аж да канца прыгону. З узбуйненых вёсак найбольшымі выявіліся Міхалкавічы й Церахі. Сярэднімі былі Жырблевічы, Грамніцы й Пруткі, а меншымі Лішчыцы, Казыры й Чэрнева. Вольным ад абшарніка застаўся засценак Нарбутава. Ён стаяў на абтоку балота Чысцік.

### ЗАМЧЫШЧЫ—КУРГАНЫ—МОГЛІЦЫ

На заходнім узбярэжжы балота Чысцік, на высокай гары Малінаўка, ёсць старасвецкае замчышча. Другое падобнае замчышча, Сукромнае, знаходзіцца на ўсходнім узбярэжжы гэтага балота. Гэта замчышчы часоў Лагойскага княства. Яны баранілі Лагойск з поўначы. Магчыма, што ў тыя часы балота Чысцік было возерам. Яно мясцамі мае болей за пяць метраў таўшчыні торфу.

У лесе Ставок, недалёка ад замчышча Сукромнае, ёсць група старасвецкіх курганоў. Група курганоў ёсць і каля двара Красны Бор. Не ведаю, ці яны калі кім даследваліся. Мне здаецца, што гэтая апошняя група нядаўняга часу, бо ў 1923 годзе давялося бачыць, калі селянін, капаючы пясок каб высыпаць хату, выкапаў ніжэйшую сківіцу, дык яна была цэлая й даволі моцная. Магчыма, што тут расейцы нагналі французаў з-пад Бярозы ды іх перабілі, бо людзі казалі, што знаходзілі там іржавыя астрогі й шаблі. З паўкіламетра ад гэтага месца, на Гарадцы, за млынам у сасонніку, на заходнім боку лагойскай дарогі, ёсць хвалістая паверхня ў лесе, як бы расплыўшыяся курганы, магчыма нейкія вельмі старыя могілкі.

Ёсць група курганоў і на ўзвышанай раўніне каля вёскі Міхалкавічы. У 1896-7 гадах іх было яшчэ каля сотні, а ў 1926-30 засталося толькі каля паўтара дзесятка. Да гэтага ж часу магчыма не засталося й ніводнага. Разбурылі іх сяляне, бо яны заміналі апрацоўваць зямлю. Мне давялося бачыць адзін з гэткіх разво раных курганоў. Нябожчык у іх быў пакладзены на зямлі, а зверху насыпаны на яго капец. Былі там курганы й большыя, і меншыя. Труп клаўся на зямлі непалены, бо мне давялося бачыць галоўныя косці: хоць яны былі й сплюсненыя, але непаленыя. Здаралася бачыць у гэтых курганах і кавалкі ржавых мядзяных дроцікаў.

Блізка каля паўтара кіламетра на паўднёвы захад ад Міхалкавіч, у Рабінніку, ёсць даволі вялікія старыя могліцы. Магілкі там абрыжо ваныя каменнем. На іншых жа стаялі помнікі з дзікага камення, без ніякіх азнакаў на камені. Гэтыя могліцы займаюць заходні схіл узгорка. Каля двух гоней на захад ад могліц ёсць курганок, які завуць Капліца. Адны старыя людзі казалі, што гэтыя могліцы былі нейкіх нехрысцяў, бо на помніках на магілках нідзе крыжоў не было. А іншыя гаварылі, што гэта была кальвінская капліца, што ў ёй Богу маліліся гэтак:

Бяжыць мышка па саломцы, не выкале вочка! Божа мой моцны!

Кароўка чорная, а малачко белае! Божа мой моцны!..

### ШВЕДЫ—ФРАНЦУЗЫ—МАСКАЛІ

З далёкіх мінулых часоў у народзе захаваліся пераказы пра шведскую вайну. З гісторыі ведама, што ў гэтую вайну гадоў 8 па нашых землях ганяліся і шведы, і маскалі. Як адным, так і другім наш край і народ былі чужымі, як тыя, так і другія рабавалі, што маглі, а народ забівалі, гвалцілі й здзекваліся з яго, а вёскі, двары, мястэчкі й месты палілі. А пасля кожнай вайны з'яўляліся, як старыя людзі казалі, «руіны» — бандытызм і рабаўніцтва.

З часоў шведскае вайны давялося чуць гэткі народны пераказ. Тыя людзі, якім пашэнціла ўцячы з вёсак, сядзелі ў лесе. Прыйдуць чужынцы ў вёску, а там няма нікога. Тады чужак лезе на азяроды ды крычыць: «Ануля, Аўдуля, Грыпіна, Марына, Вулляна, Тацяна — ідзіце дамоў! Ужо шведы паехалі!» Пасля гэткага закліку адна кабеціна прыбегла з лесу дамоў, аж тут у хаце жаўнер-чужынец — маскаль. Ён набіў курэй і загадаў ёй варыць, сам жа сеў са стрэльбай на парозе й пільнуе, каб яна не

*/ Гэта выбраныя раздзелы з падрыхтаванай да друку вялікай кнігі аўтара «Чутае-Бачанае-Пражытае», у якой вопіс народнага быту Лагойшчыны XIX—XX стагоддзяў. Машынапіс манаграфіі перахоўваецца ў зборах Беларускага Інстытута Навукі й Мастацтва разам з усёй іншай рукапіснай спадчынай памёрлага 22.7.1972 г. выдатнага фальклярыста, лексікографа й педагога.*

ўцякла. Седзячы гэтак, маскаль здрамнуў, а баба нагрэла саган вару ды лінула яму на галаву, што ён і пакаціўся з парогу. Кабеціна ж тады праз дзверы ды барджэй пабегла ў лес.

Пра французскую вайну захавалася шмат болей пераказаў-успамінаў. Перад самай вайной у вёсках Карэншчыны стаялі атайбаваўшыся расейскія жаўнеры. Тады па іх загаду быў выкапаны ў Міхалкавічах «Карвацкага калодзеж», а ў вёсцы Церахі «Равінаў калодзеж». «Карвацкага калодзеж» існаваў аж да нашага часу й уважаўся за найлепшую студню вёскі.

Калі Француз ішоў на ўсход, дык гнаў з сабой гурт статку. Адна белая карова зайшлася на двор да Сакалоўскага. Ад гэтай каровы Сакалоўскі пасля разгадаваў добры статак. У вёсцы Лішчыцы прыйшлі французы да селяніна й патрабавалі, каб іх завёў да «мызы» — у двор да пана. Казалі яны, напэўна, да «мсе». Калі селянін адмовіўся весці іх, яны яго пабілі да паўсмерці. Але ён выжыў. Выпадак гэты, здаецца, быў тады, калі француз ішоў на ўсход.

Калі ж французы ўцякалі з-пад Барысава, дык сяляне Міхалкавічаў і іншых вёсак Карэншчыны награвалі восеці й лазні, каб іх адаграваць. Расейскія ж казакі — кожнага расейскага коннага жаўнера нашы сяляне называлі «казак» — ездзілі па вёсках і пыталіся, «дзе ёсць непрыяцель». У Лявона Насэвіча ў восеці казак знайшоў француза з памарожанымі рукамі й нагамі. Француз не мог ісці, а поўз на локцях і каленях. Казак жа яго падганяў, б'ючы нагамі пад бакі. Калі гэты француз прыпоўз з гумна на панадворак, дык казак падняў таўстую калодку дрэва ды ўдарыў француза па сярэдзіне. Француз выцягнуўся й памёр.

Калі французы, што ўцякалі з-пад Барысава, бачылі ў жанчын шкаплеры, дык цалавалі іх і паказвалі, што і ў іх, на цэўках рук, былі павыпяканы гэткія шкаплеры. Нашы сяляне, як маглі, так памагалі няшчасным французам. Толькі нейкі Шуляк з вёскі Прудкоў здзёр у мерзлага француза сіні сурдут жонцы на шнуроўку. Людзі казалі, што яго Бог за гэта ў скорым часе пакараў, бо ён стаў слепаватым ды ўся ягоная сям'я ды патомства былі слепаватыя. Калі пасля вясной згінуў снег, дык на полі людзі знаходзілі шмат нежывых французаў.

Маскалі, што гналіся за французам, больш дакучалі нашым людзям, як яны. Калі ў Міхалкавічах у нейкага селяніна зарэзалі маскалі карову, а ён прасіў, каб яму далі хоць «пячэнееўка й лягенееўка», дык маскаль выцяў яму па твары й «пячэнееўкам і лягенееўкам». Гэты селянін пасля наракаў на маскалёў і плакаў: «Маю працуваруць і ядуць, а мяне па пысках бэнц ды бэнц!».

У вёсцы Чэрнева да Міхася Акуліча зайшлося начаваць 12 маскалёў. Яго самога дома не было. Жонцы маскалі загадалі варыць вячэру. Самі яны сталі стрэльбы чысціць, а малому хлопцу, 5-6-гадоваму Якубу, загадалі, запаліўшы жменю лучыны, свяціць. У той час малыя хлапчукі да 7-мі гадоў нагавіц не насілі. На гэтым хлопчыку была толькі доўгая, паяском падпераэаная, жычкай засцягненая, сарочка. Якубка, мусіць, свецячы нешта не дагадзіў, дык маскаль разарваў засцяжку кашулькі ды жменю распаленай лучыны сунуў за каўнер. Пакуль маці разрэзала паясок ды сарвала сарочку, ягоныя плечы абгарэлі й ён доўга хварэў. У яго да самай смерці былі глыбокія ямы на плячах.

У той час, калі маці ратавала Якуба, у калысцы пачаў плакаць малы Вінцэсь. Маскаль тады адрэзаў вяроўкі ад калыскі ды выкінуў дзіця з калыскай на снег. Маці забрала калыску ды ўкапала ў хляве ў цёплы авечы гной. Матка крыўдзілася на маскалёў і, плачачы, упікала: «Мае паночкі, я вам служу, вам вячэру вару, а вы маіх дзетак мардуеце!» Гэтага Якуба, з ягоным жанатым сынам Адамам і з унукамі, пан перад канцом прыгону перасяліў на пустую сялібу ў вёску Міхалкавічы. Ён быў мой прадзед па матцы. Брат Якубаў Вінцэсь, якога маскаль выкінуў з калыскай на снег, быў за прыгонам ключнікам у двары, а пасля прыгону жыў у Равах. Ён дажыў да 90 гадоў.

Калі прайшлі на захад французы, а за імі маскалі, на вёскі па начах сталі наяжджаць банды рабаўнікоў. Яны былі адзетыя як і сяляне, у кажухі й сярмягі, але галовы былі ўкручаныя наметкамі. Сяляне думалі, што гэта была шляхта. Хто здагадаўся ды прыхаваў збожжа, дык той меў насенне на сяўбу. Рабаўнікі забіралі ўсё: і статак, і адзежу, і палотны, і ўсё збожжа да гарца. У майго прадзеда Якуба была выстаўлена ліпаўка ячменю й ліпавачка пшаніцы на дрывотню, дзе іх між дроў завеяла снегам, дык і было вясной што пасеяць. Пасля вайны сялянства вельмі абяднела.

Пра вайну ў сялян захавалася шмат народных пераказаў.

Сімпатыі сялян былі на баку французаў, бо яны думалі, што француз ішоў ваяваць на Маскву, каб вызваліць наш край і ад маскаля, і ад прыгону. У Маскве ж француз быў пабіты не маскоўскім войскам, а двума генераламі: Халадзілам і Галадзілам. Калі француз уцякаў з Масквы, дык ён быццам пакінуў у Барысаве ў царкве сваю шапку й рукавіцы. І калі ён прыйдзе ў Барысава па сваю шапку й рукавіцы, тады й вызваліць наш край ад маскаля.

Расказвалі яшчэ, што французскі цар Напалеон хутка ўцёк у Парыж, а ягонае войска ішло памалу. Шмат войска змерзла й было перабіта маскалямі. Маленькая яго частка вярнулася дамоў. У іх цар пытаўся, як ім паводзілася ў дарозе, хто й як да іх ставіўся ў дарозе. Жаўнеры адказвалі цару: «Сяляне нас хавалі ад маскаля, грэлі, кармілі й абувалі ў лапці, а паны і маскалі нас вешалі». — «Ну, дык жа я іх павешаю!», адказаў францускі цар. І пасля гэтага ён ізноў пайшоў вайной на маскоўскага цара, высадзіўшы сваё войска у Крым. Ён адтуль ваяваў, пакуль не прымусіў маскоўскага цара скасаваць прыгон.

## «БЯЛЕВУШ» — «СМАЛА»

У мястэчку Хатавічах быў дамініканскі кляштар. Магчыма, прозвішча «Бялевуш» меў нейкі манах-дамініканец з гэтага кляштару. Ці, можа, гэтае слова засталося ад абыходжання каталіцкаю царквой 1800-га ці 1825-га юбілейных гадоў, па-польску «Юбілеуш», і таму пасля гэтак назвалі нейкага манаха-прамоўцу, якога ўспамінаюць народныя пераказы. Гэты Бялевуш быццам быў ужо памёр, а пасля аджыў, і таму ўважаўся за прарока, які нават мог угадваць будучыню.

Гэты Бялевуш быў надта навучны. На



Помнік Я. ГЛАДКАМУ на беларускіх могілках у Іст Брансвіку /штат Нью-Джэрсі/

ягоныя казанні прыходзілі людзі з кругоўсвету. Іншыя так узялі да галавы ягоныя прамовы-навукі, што ў варыяцыю ўступілі. Ласінскі абчапіўся атопкамі ды ў свет пайшоў. Нейкая Агатка звар'явала, хадзіла па вёсках і прамаўляла: «Агатка пакутніца, Агатка гаротніца!» Як відаць, Бялевуш быў палітыкам і ўгадваў будучыню грамадскага жыцця. Ён быццам казаў: «Прыйдуць да вас гаспадары. Яны будуць вамі смалу гнаць, а вы будзеце іх панамі называць». У тыя часы ставіліся па дарогах «Белавушавы крыжы». І гэтыя крыжы, і яны ж пазней адноўленыя, славіліся лепшай пашанай за крыжы іншыя.

Бялевуш і напрарочыў, у скорасці пасля ягоных прамоваў настала «смала». «Смалой» нашы сяляне называлі апошнія 25 гадоў перад вольнасцяй ад прыгону. Сяляне тады былі непісьменныя й таму не маглі карыстацца нейкімі «эрамі» каляндарнага годалічэння, а большыя адрэзкі часу свае гісторыі азначалі паводле выдатных падзей свайго жыцця. Час «смалы» ў сялянскіх пераказах спалучаецца з эпохай цара Мікалая І. Аб падзеях, што адбываліся да 1825 году, казалася, што гэта было яшчэ «да смалы», а пра пазнейшыя гаварылася, што гэта ўжо было «за смалою».

Гаспадарча сялянства моцна падарвала вайна 1812 года й пасляваенныя «руіны». Яны не паспелі добра акрыяць пасля іх, як настала «смала». У часе вайны былі зруйнаваныя абшарніцкія двары й месты. Дык абшарнікі й ганялі сялян на адбудову сваіх двароў і местаў, дарог і мастоў. У той час абшарнікі закладалі смалярні, гналі шкіпінар і дзёгаць, ды сялянскімі фурманкамі накіроўвалі яго ў прыстані, за граніцу. Але не сам выраб смалы даў назоў для гэтае сялянскае эры «смала». Найбольш гэткая назва замацавалася таму, што гэта былі гады надта цяжкога прыгону.

Шмат людзей з Міхалкавічаў абшарнік пасылаў у Маскоўшчыну на лясныя й земляныя работы на колькі гадоў. Шмат хто з іх і памёр на чужыне. Рэшта ж мужчын і жанчын адбывалі цяжкі прыгон, па тры дні на тыдзень. Адбывалі да гэтага й «шарваркі» — працу на дарогах і мастах, «гвалт» — працу ў летні час, 12 дзён на асобу, якая не ўваходзіла ў прыгонныя дні. Былі неўраджайныя, галодныя гады. З'явіліся пошасныя хваробы, мёрлі людзі. Шмат хто кідаў гаспадарку ды ішоў «у свет». Людзі не толькі абяднелі, але іх і зменшылася. Шмат сялібаў засталося пусткамі.

У час «смалы» людзі сталі больш забабоннымі й баязлівымі. Расказвалі, што ў вёсцы стала з'яўляцца нейкая здань. Ноччу з кустоў старых могліц, што былі ў канцы вёскі, выходзіла кабеціна ў белі. Яна памалу ішла вуліцай ды працяжна крычала: «Ліха! Ліха! Ліха!»... І гэтак амаль кожную ноч. Гэтая здань наводзіла страх на людзей. Селянін Жылінскі адной ночы сеў пад плотам, аж выходзіць гэта здань з могліц ды крычыць: «Ліха!» Калі ён скочыў ёй напярэймы, дык здань кінулася ўцякаць і пры гэтым выкрыкнула: «Было ліха, дый пагоршала!» Пасля гэтага здані больш не стала.

Дык «смала» — пара найцяжэйшага прыгону, які народ у сваёй памяці перажыў, прыгону, што раўняўся пеклу на зямлі. Пазней народную сведамасць уразіла тое, што роўна праз сто гадоў, у 1930 годзе, прыйшла яшчэ страшнейшая «смала» ў выглядзе бальшавіцкіх калгасаў.

## САМАЗАХАВАННЕ ЧЫСЦІНІ МОВЫ

Хоць селянін часта называў сваю мову простай, мужыцкай, непаважанай у параўнанні з іншымі мовамі, але інстынктыўна трымаўся яе й бараніў ад засмечвання чужымі словамі. Калі хто нават трохі й мог гаварыць папольску ці па-расейску, але ў сваім асяроддзі ён саромеўся гаварыць на гэтых мовах. Хто мог гаварыць па-польску, дык гаварыў гэтай мовай толькі з ксяндзом, па-расейску ж — толькі з урадоўцам ці ўраднікам. Калі хто ведаў нейкае польскае слова ды ўстаўляў яго ў сваю гутарку ў сваім асяроддзі, яго высмейвалі. Калі Агата Адамчыкава назвала сваю Марылю «цурка», дык ёй прылажылі гэтае слова, як мянушку. Гэта Марыля з словам «цурка» і замуж пайшла. Нават ейную дачку называлі «Цурчына Анэта».

У даўнія часы, пры цары, у расейскім войску служылі доўга, па 25 гадоў. Таму калі хто вяртаўся з «маскалёў», дык у сваю мову часта ўстаўляў расейскія словы. За гэтыя словы шмат каму даставалася мянушка не толькі сабе, але й для дзяцей і ўнукаў. Шэйпа з Церахоў, вярнуўшыся з маскалёў, ужываў расейскае слова «смотры-ка», дык яго празвалі «Матрыка». Гэтая назва засталася на ягоных дзяцей і ўнукаў. Гэтаксама ў Міхалкавічах калі Кароль Калоша, вярнуўшыся з войска, назваў грош — паўкапейкі — па-расейску «палушка», дык яго празвалі «Палашка». Гэтае імя перайшло й на ягоных дзяцей. Старога Караля Г. называлі «Ноніч», за тое, што ён, вярнуўшыся з маскалёў, ужываў расейскае слова «нонче» заміж «сягоння».

Часта былыя служакі расейскай арміі, або іншыя бывалыя ў Расеі людзі, пры гутарцы ўжывалі для падтаквання расейскія словы: «Ну, да!» Сялянін гэткаму краснабаю заўсёды з гумарам заўважа: «Нуда горай за каросту». Нудой сяляне называлі вашывасць.

*(Працяг будзе)*

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь глыбока спачувае начальніку аддзела тэатраў і музычных устаноў Міністэрства культуры Кірыенку Анатолю Піліпавічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю маці.**


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

Заснавальнікі:
Саюз пісьменнікаў Беларусі
і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Выходзіць з 1932 года

*Газету рэдагавалі*

*Х.Дунец (1932–35)*
*І.Гурскі (1935–41)*
*А.Куляшоў (1945–46)*
*М.Горцаў (1947–49)*
*П.Кавалёў (1949–50)*
*В.Вітка (1951–57)*
*М.Ткачоў (1957–59)*
*Я.Шарахоўскі (1959–61)*
*Н.Пашкевіч (1961–69)*
*Л.Прокша (1969–72)*
*Х.Жычка (1972–76)*
*А.Асіпенка (1976–80)*
*А.Жук (1980–86)*
*А.Вярцінскі (1986–90)*

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась ЗАЛОСКА
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Наклад 17.000.
Нумар падпісаны 7.04.1994 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

